ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 10 (2536)
ПЯТНІЦА
5
сакавіка 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Фота Ул. КРУКА.

## КАНДРАТУ КРАПІВЕ—75 ГАДОЎ

**Выдатнаму мастаку слова, народнаму пісьменніку Беларусі Кандрату Кандратавічу Крапіве сёння—75. З гэтай нагоды праўленне СП БССР накіравала юбіляру прывітанне, у якім гаворыцца:**

*«Дарагі Кандрат Кандратавіч!*

*Сардэчна віншуем Вас, старэйшага пісьменніка, акадэміка, выдатнага байкапісца, драматурга і публіцыста, са слаўным юбілеем — 75-годдзем з дня нараджэння.*

*Пайвека гучыць у нашай савецкай беларускай літаратуры Ваша яркае пісьменніцкае імя. Ваш талент раскрыўся перш за ўсё як талент сатырыка і гумарыста. Жывуць і не меркнуць Вашы самабытныя, вострыя і смелыя байкі і сатырычныя вершы.*

*Шырокую вядомасць набылі Вашы п'есы «Канец дружбы», «Партызаны», «Хто смяецца апошнім», «Проба агнём», «Мілы чалавек», «Пяюць жаваранкі», «З народам» і іншыя. Яны заваявалі папулярнасць сярод шырокіх колаў гледачоў.*

*У адказныя часы жыцця роднай краіны Вы разам са зброяй сатыры бралі ў рукі і зброю салдата. Вы ўдзельнічалі ў вызваленчым паходзе Савецкай Арміі ў Заходнюю Беларусь, у вайне з белафінамі, у барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі.*

*Вы былі першым рэдактарам сатырычнай газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну», а пасля вайны — часопіса сатыры і гумару «Вожык».*

*Вялікі ўклад Вы ўнеслі і ўносіце ў развіццё навукі рэспублікі, доўгі час займаючы пасаду віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук БССР.*

*Жадаем Вам, дарагі Кандрат Кандратавіч, новых поспехаў у грамадскай, навуковай і літаратурнай дзейнасці, здароўя, радасці ў жыцці».*

**Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтага сардэчнага віншавання і ў сваю чаргу жадае юбіляру моцнага здароўя і новых творчых здзяйсненняў.**

## ПРАВАФЛАНГОВАМУ БЕЛАРУСКАЙ САТЫРЫ

Кандрат Кандратавіч! Прывет Вам шчыры
Ад смехачоў, што зараз у страю,
Правафланговаму бязлітаснай сатыры
З вялікім гонарам перадаю.

Тры чвэрці веку — не малая справа,
Вы іх прайшлі, і шлях ваш быў вячыст.
Павага Вам народная і слава, —
Пісьменнік, акадэмік, камуніст.

Вам і далей партыйнаю ступою
Ісці, ісці дарогаю прамой.
Вядзіце ж нас, вядзіце за сабою
Усіх сатырыкаў у сатырычны бой.

**Уладзімір КОРБАН.**

# ТАЛЕНТ ШМАТГРАННЫ, ТАЛЕНТ МАГУТНЫ...

*УШАНАВАННЕ КАНДРАТА КРАПІВЫ*

5-га сакавіка споўнілася 75 год з дня нараджэння і 55 год літаратурнай, педагагічнай, навуковай і грамадска-палітычнай дзейнасці народнага пісьменніка БССР, віцэ-прэзідэнта Беларускай Акадэміі навук акадэміка Кандрата Кандратавіча Атраховіча — Кандрата Крапівы.

З гэтай нагоды Аддзяленне грамадскіх навук АН БССР і Саюз пісьменнікаў Беларусі наладзілі навуковую канферэнцыю. У ёй прынялі ўдзел Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР С. О. Прытыцкі, Старшыня Савета Міністраў БССР Ц. Я. Кісялёў, сакратары ЦК КПБ Ф. А. Сурганаў і А. Т. Кузьмін, намеснік Старшыні Савета Міністраў рэспублікі Н. Л. Сняжкова, загадчыкі аддзелаў ЦК КПБ А. Ц. Караткевіч і С. В. Марцэлеў, сакратар Мінскага гаркома КПБ Т. Ц. Дзмітрыева.

Адкрываючы канферэнцыю, член-карэспандэнт АН БССР К. П. Буслаў падкрэсліў, што жыццё Кандрата Крапівы — прыклад адданага служэння свайму народу і Камуністычнай партыі, што яго шматгранны талент не замыкаецца ў рамках толькі літаратурнай дзейнасці. Кандрат Крапіва — буйны вучоны-моваВед, доктар філалагічных навук. Пад яго навуковым кіраўніцтвам створаны слоўнікі, тэарытычныя працы, дзякуючы чаму беларускае мовазнаўства займае адно з першых месц на рубяжы савецкай мовазнаўчай навукі.

Як віцэ-прэзідэнт АН БССР, акадэмік Атраховіч вядзе карпатлівую і цяжкую працу па вырашэнні культурных і навукова-гаспадарчых задач, многа аддае сіл развіццю літаратуразнаўства, філасофіі, права, гісторыі, эканомікі, мастацтвазнаўства. Дзякуючы яму мы маем класічны пераклад «Капітала» Маркса на беларускую мову.

Са словамі прывітання да юбіляра звярнуўся сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін. Ён сардэчна павіншаваў К. Крапіву з 75-годдзем з дня нараджэння, пажадаў яму добрага здароўя, бадзёрасці, новых поспехаў у творчасці і зачытаў прывітанне ЦК КПБ, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і Савета Міністраў рэспублікі.

Юбіляра таксама віталі першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, народны паэт Беларусі М. Танк, віцэ-прэзідэнт АН БССР К. В. Гораў, міністр культуры БССР М. А. Мінковіч, намеснік старшыні Мінскага гарвыканкома М. Д. Жукоўскі, дырэктар Інстытута мовазнаўства АН БССР М. Р. Суднік.

— Амаль паўстагоддзе працуе Кандрат Крапіва ў нашай літаратуры, — сказаў у сваім выступленні Пятрусь Броўка.— Пачаў ён працу на літаратурнай ніве ў 1922 годзе і з таго часу зрабіў столькі, як сатырык, байкапісец, драматург, што мы з поўным правам ставім яго дарагое нам імя ўслед за Купалам і Коласам.

Падрабязна гаворачы пра жыццёвы і творчы шлях народнага пісьменніка, прамоўца адзначыў, што Кандрат Крапіва— сам актыўны творца жыцця народнага, і таму глыбокі знаўца яго.

Пра драматургію Кандрата Крапівы на беларускай сцэне гаварыў у сваім выступленні доктар мастацтвазнаўства У. І. Няфёд, доктар філалагічных навук М. В. Бірыла — пра ўклад у беларускае мовазнаўства, які зрабіў Кандрат Крапіва як вучоны.

Пра пераклады твораў К. Крапівы на замежныя мовы расказаў у сваім выступленні навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР А. Мажэйка. Ён паведаміў прысутным пра папулярнасць п'ес і баек нашага сатырыка ў Польшчы, Чэхаславакіі, Балгарыі, Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы, пра пастаноўкі п'ес «Хто смяецца апошнім» і «Пяюць жаваранкі» на сцэнах Варшавы, Прагі і Будапешта, прааналізаваў водгукі крытыкі на драматургічныя творы юбіляра ў зарубежным друку.

— Я глыбока ўдзячны вам за ўвагу, якую вы ўдзялілі мне і вынікам маёй працы, за вашы цёплыя пачуцці і добрыя пажаданні, якія былі выказаны мне з прычыны майго сямідзесяціпяцігоддзя. — звяртаючыся да прысутных, сказаў Кандрат Кандратавіч Крапіва. — Не лёгка нават і ўявіць, што нарадзіўся я яшчэ ў мінулым стагоддзі. За гэты час адбылося шмат падзей у свеце і асабліва ў нашай краіне. Адбылося пяць войнаў, у чатырох з іх, пачынаючы з імперыялістычнай, і мне прыйшлося прымаць удзел. Адбыліся тры рэвалюцыі, якія вырашылі лёс народа і мой у тым ліку. Змянілася аблічча нашай вялікай краіны і нашай роднай Беларусі.

Мяне радуюць грандыёзныя дасягненні нашага народа, радуюць і натхняюць перспектывы нашага поступу наперад, запісаныя ў праекце Дырэктыў XXIV з'езда КПСС, ужо абмеркаваныя і адобраныя XXVII з'ездам Камуністычнай партыі Беларусі.

Я радуюся, што мне пашчаслівілася дажыць да гэтага часу і ўбачыць усе гэтыя дасягненні сваімі вачамі. І мімаволі думаецца аб тым, якая ж мая кропля ў гэтых здабытках народа. Таварышы гаварылі тут пра тое, што я зрабіў. А я думаю, што я не ўсё зрабіў, што мог. Напэўна можна было б зрабіць больш і лепш. А сёе-тое не шкодзіла б і перарабіць.

Вось ужо больш за дваццаць пяць гадоў я працую ў акадэміі, гаворыць далей Кандрат Кандратавіч. І тут я звяртаюся думкай да нашай навукі, да беларускай літаратуры і цешуся з таго, што яны хораша растуць і развіваюцца.

А возьмем літаратуру. Пасля вайны нас у Саюзе пісьменнікаў было чалавек сорак. А цяпер ужо каля трохсот. І нездарма беларуская літаратура займае пачэснае месца сярод літаратур братніх народаў.

Вялікае дзякуй роднай Камуністычнай партыі і Савецкаму Ураду за іх штодзённыя клопаты аб развіцці савецкай навукі і літаратуры, за мудрае кіраўніцтва і штодзённую дапамогу!

Шчырае дзякуй усім вам, дарагія таварышы!

Па просьбе прысутных К. Крапіва прачытаў у заключэнне свае новыя байкі.

## УКАЗ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР

### Аб прысваенні ганаровага звання народнага артыста СССР ДЗЯДЗЮШКУ У. І.

За вялікія заслугі ў развіцці савецкага тэатральнага мастацтва прысвоіць ганаровае званне **народнага артыста СССР Дзядзюшку** Уладзіміру Іосіфавічу — артысту Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР**
**М. ПАДГОРНЫ.**
**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР**
**М. ГЕАРГАДЗЕ.**

Масква, Крэмль,
3 сакавіка 1971 г.



**ВАРТА толькі вымавіць імя Уладзімір Дзядзюшка, як і самы заўзяты тэатрал, і юнак, які пабачыў артыста на сцэне толькі ўчора ўвечары, неяк мімаволі ўсміхаюцца. Так мы ўсміхаемся, калі ўспамінаем перажытае перад напісаным трапяткім пэндзлем жывапісным палатном. Так усміхнемся ў зале, дзе ваяўнічы Бах раптам спявае нам пра шчымлівую радасць сэрца. На блакітна-ружовым досвітку сярод мачтавых соснаў у інеі. Побач з гордай і сарамлівай маці, што корміць свайго першынца... Адным словам, ігра У. Дзядзюшкі на сцэне дорыць нам хараство жывых, здабытых з усхваляванага сэрца і невычэрпнай эмацыянальнай памяці, інтанацый, сакавітых фарбаў, дакладна і непасрэдна перададзеных рысаў чалавечага характару. Праўдападабенства яго герояў ніколі не ўзнімаецца на катурны, затое ніколі і не поўзае па пыле: акцёр заўсёды гранічна зямны і не бывае прыземленым. Відаць, гэта высокае мастацтва сапраўды сучаснага, натуральна і арганічна сучаснага артыста, без разліку і рацыянальнага «прыцэлу»,—быць на самай мяжы натуралізму і падаваць вобраз праз павелічальнае шкло тэатральнай умоўнасці. У такім кірунку можна выхаваць сваю індывідуальнасць, гэтаму можна і вучыцца ў «жывых класікаў» лепшых сцэн краіны, у рэжысёраў, здольных паказаць, што ж гэта такое—сучасны стыль, можна і запазычваць у партнёраў. Ведаю, што і гэтыя формы самавыхавання спасцігаў Уладзімір Іосіфавіч яшчэ ў трупе Галубка. Толькі не з «азоў»—ён па прыродзе таленту з самага пачатку быў схільны і самастойна прабівацца да такой манеры жыцця на сцэне.**

**І прабіўся! У легендах беларускага тэатра і дагэтуль пераходзіць з пакалення ў пакаленне дзядзюшкаўскі Гай з «Майго сябра» М. Пагодзіна. Работа 1933 года. На сцэне Трэцяга БДТ (тэатра Галубка). У рэжысуры Кастуся Саннікава. Ужо тады імя акцёра было моцна звязана з разуменнем сучаснага стылю артыстычнай ігры. А потым—настойліва і паслядоўна—ён гартаваў у сабе такое няўлоўнае, не падуладнае «алгебры» ўменне звязваць у хаўрус бытавую падрабязнасць амаль фатаграфічнага характару з праўдай тэатральнага перабольшання.**

**А як шчодра свеціць, зіхаціць і пераліваецца ўсімі адценнямі вясёлкі яго, дзядзюшкаўскі, гумар! Ну, схадзіце сёння на «Традыцыйны збор», на «Адкуль грэх!», на славутую, па-канцэртнаму выконваемую «Паўлінку»,—вы яшчэ і яшчэ раз пераканаецеся, колькі яшчэ некранутага ім багацця тоіцца ў душы гэтага чарадзея беларускай сцэны.**

**Хай жа шчасціць Вам! Мацуйцеся і беражыце здароўе, Уладзімір Іосіфавіч. Будзьце заўжды такім, якім Вас ведае і любіць глядач, ведае і любіць народ!**

**Барыс БУР'ЯН.**

## СТО РАДКОЎ з рэдакцыі

# «У ВАС НЯМА ЛІШНЯГА БІЛЕТА?..»

**Цяпер такое пытанне задаюць вам ужо не каля ўваходу ў Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, а на рагу праспекта і вуліцы імя Энгельса. А вы і самі набылі білет не так лёгка— давялося чакаць, пакуль недзе ў раённай касе знайшоўся білет на зручнае месца ў партэры або на балконе. І што асабліва прыемнае і характэрнае—попыт на білеты у тэатр павялічыўся ў сувязі з выхадам на падмосткі акадэмічнай сцэны трох арыгінальных драматургічных твораў. Мабыць нават заўзятыя тэатралы павінны добра перабраць у памяці не адзін тэатральны сезон, каб прыгадаць такую ж з'яву ў мінулым: якіх чатыры месяцы працы калектыву — і такі значны плён!**

**Дэбют на ніве камедыяграфіі Міколы Матукоўскага — «Амністыя».**

**Трэцяя поўнаметражная п'еса Анатоля Дзялендзіка — «Начное дзяжурства».**

**Зусім новы творчы пошук у Андрэя Макаёнка—«Зацюканы апостал».**

**На гэтыя спектаклі цяпер і ідзе глядач. І той, што нарэшце «здабыў» білеты, і той, хто цешыць сябе надзеяй на запаветны «лішні», якога, здаецца, і не бывае, калі на афішы купалаўцаў абазначана адна з памянёных вышэй п'ес.**

**Відаць, гэтая з'ява будзе павучальнай для ўсіх, каму даверана кіраваць творчым працэсам у драматургіі і тэатры. У святле трох прэм'ер акадэмічнай сцэны ў Мінску неяк смешна выглядаюць схаластычныя дыспуты пра «першынства», якія часам яшчэ ўспыхваюць у літаратурным і тэатральным асяроддзі: хто, маўляў, тут гаспадар, а хто госць — мы, тэатр, можам пражыць і за кошт класікі або перакладной драматургіі, а мы, драматургі, калі не дадзім п'ес, пазбавім вас у тэатры магчымасці гаварыць пра жыццё арыгінальна і свежа... Не, не клапатлівым госцем, а раўнапраўным творчым саюзнікам крочыць праз парог тэатра драматургія. І калі яе там сустракаюць зацікаўлена, з пачуццём даверу і павагі да слова літаратара, гэта ідзе на карысць мастацтву.**

**Па-першае, пакуль што ні адну з названых намі п'ес вы нідзе ў арыгінале, акрамя купалаўскай сцэны, не пабачыце. У гэтым сэнсе ні ў «Амністыі», ні ў «Начнога дзяжурства», ні ў «Зацюканага апостала» няма канкурэнтаў, якімі для многіх сцэнічных «перавыданняў» з'яўляюцца тэлебачанне і кіно. Зразумела, і цяпер, калі экран даў сваю кінаверсію «Анне Карэнінай» або «Любові Яравой», «Разлому» Б. Лаўранёва або «Трэцяй ракеце» В. Быкава, гэтыя творы могуць набыць цікавае тэатральнае ўвасабленне. І ўсё ж... Большасць публікі ідзе на сапраўды новы спектакль, дзе аўтар і выканаўцы на чале з рэжысёрам адкрываюць раней нязведаныя далягляды, а пра старое і вядомае ў так званых «адвечных праблемах» жыцця і смерці, кахання і здрады, праўды і фальшу гавораць па-новаму. Якраз так, як гэта цяпер робіць купалаўскі тэатр у спектаклях па п'есах М. Матукоўскага, А. Дзялендзіка і А. Макаёнка.**

**Звярніце ўвагу на жанравае багацце такой афішы — «Амністыя», нібы падхапіўшы эстафету сатырычных камедый К. Крапівы і А. Макаёнка, бярэ надзённы канфлікт сённяшняга дня ў новым для нашага тэатра асяроддзі; у «Начным дзяжурстве» дзейнічаюць людзі, пра якіх мы раней чыталі і з якімі нават сустракаліся ў кіно, але яны паказаны ў асобых умовах, калі ад кроку аднаго з герояў залежыць лёс і яго сябра, і яго пацыента, і зала актыўна ўспрымае маральна-этычныя высновы носьбітаў станоўчага пачатку і адмоўных тыпаў; на мяжы гратэску закранае балючыя пытанні часу «Зацюканы апостал», п'еса-памфлет, скіраваная сваім ваяўнічым пафасам супраць праяў фашызму ў мяшчанстве, якое жывіць чалавеканенавісніцкую ідэалогію прэтэндэнтаў на сусветнае панаванне. Навізна драматургічнага матэрыялу спрыяла рэжысёрскаму пошуку і дала добрую спажыву для акцёрскага роздуму. У спектаклях, пра якія мы гаворым, занята амаль уся трупа нашага лепшага драматычнага тэатра! І якое сузор'е багатых на фантазію і майстэрства артыстычных работ прадстае перад глядзельнай залай. Сур'ёзна і ўдумліва пабудаваны рэжысёрскія «канструкцыі» і вызначаны жанравыя асаблівасці спектакляў Ціханам Кандрашовым, Фёдарам Шэйнам і Барысам Луцэнкам.**

**Вядома, у кожным з названых спектакляў ёсць пралікі — то драматургічныя, то пастановачныя, то акцёрскія. Пра «Амністыю», «Начное дзяжурства» і «Зацюканага апостала» спрачаюцца — і гледачы, і тэатральныя крытыкі, і калегі купалаўцаў па мастацтве, акцёры іншых тэатраў, і драматургі. Ды і газета «Літаратура і мастацтва» яшчэ не раз, відаць, будзе вяртацца да размовы пра кожны з гэтых спектакляў. Важна падкрэсліць, што тры прэм'еры купалаўцаў выклікалі грамадскі рэзананс і ажывілі цікавасць да тэатра масавага гледача. Гэтага дасягнуў калектыў у добрай садружнасці з драматургамі. Набыты новы вопыт, варты вывучэння і замацавання. І хоць гэты вокліч, здаецца, стаў газетным штампам, хочацца пажадаць Акадэмічнаму тэатру імя Янкі Купалы: «Так трымаць!» А іншым тэатрам рэспублікі браць прыклад з яго.**

*НАСУСТРАЧ XXIV З'ЕЗДУ КПСС*

Пятро ВАСІЛЕЎСКІ

# ХЛЕБ-СОЛЬ НА РУЧНІКУ

*УРАЖАННІ, ДУМКІ, ПАЧУЦЦІ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ ДЗЁН ЛІТАРАТУРЫ НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ*

НІЧОГА асаблівага ў гэтай паездцы не прадбачылася: пісьменнікі ехалі на сустрэчу са сваімі чытачамі. Такія сустрэчы ўжо сталі традыцыйнымі і звычнымі. Праўда, гэтая паездка была адным з тых шматлікіх культурных мерапрыемстваў, што праводзяцца ў розных кутках нашай рэспублікі ў гонар вялікай падзеі — XXIV з'езда КПСС, — і таму настрой ва ўсіх быў прыўзняты.



І. Шамякін дае аўтографы чытачам з гор. Быхава.
Фота В. АНТОНАВА.

## ПА ШАШЫ МАГІЛЁЎСКАЙ...

Незвычайнае для гэтай пары цяпло з'ела снег, і шаша бяжыць насустрач машынам па-вясенняму вільготна-голай. Тапол паабапал ужо зіхацяць ружовым колерам таропкага цвіцення. Вясна, ды годзе!

Але на паўдарозе раптам паваліў снег. Іван Чыгрынаў задуменна глядзіць на пахмуры і трывожны лес. Павел Кавалёў хітравата жмурыцца і пытае:

— Іване, ці не выглядаеш ты месца ў лесе для сваіх герояў?

І. Чыгрынаў працуе зараз над другой часткай рамана «Плач перапёлкі» і вымушаны прызнацца: так, сапраўды, у гэтую хвіліну ён думаў пра сваіх герояў. Менавіта ў гэтых пушчах жылі і змагаліся яны з ворагам.

Па галоўнай дарозе сваёй роднай Магілёўшчыны ехалі зараз і старэйшыя таварышы І. Чыгрынава — Іван Новікаў, Пятро Прыходзька, Павел Кавалёў, якія прататыпаў сваіх герояў таксама знайшлі ў сваіх родных мясцінах.

## ГЭТА КАЛІСЬЦІ ЗВАЛАСЯ, «ЛАКІРОЎКАЙ РЭЧАІСНАСЦІ»

Снежная навала кідалася пад колы машыны, біла ў шыбы, і адчувалася, як матору не хапае дыху, каб справіцца з раз'юшанай стыхіяй.

— Трэба перадыхнуць, хлопчыкі, — прапануе І. Новікаў.

Спыняемся. Невялікая вёсачка, галоўнай вуліцай якой стала шаша.

Кіруемся да белай будыніны. Гэта — магазін. Тавары такія ж, як і ў люб[illegible]ым магазіне Мінска.

— Глядзіце, хлопцы! Такіх кашуль і ў Мінску не заўсёды знойдзеш. Трэба ўзяць!

— Дапаможам план выканаць, — жартуе І. Шамякін.

Маладая, у модным паралонавым гарнітурчыку, дзяўчына добразычліва, але не без іроніі пасміхаецца:

— Які там план! Вось калі б нам халадзільнікаў ды машын падкінулі...

— Якіх машын? Швейных?

— Чаму — швейных? «Масквічоў» хаця б!

— А хто ж у вас купляць іх будзе?

— Як хто? Калгаснікі.

І дзяўчына расказвае, што патрэбнасць у лепшых марках тэлевізараў, халадзільнікаў, мэблі, попыт на аўтамашыны расце з кожным днём.

Вось напісаў я гэтыя радкі, прыпомніў дзяўчыну, тое, што яна скончыла кааператыўны тэхнікум, што магазін пабудаваны па лепшых сучасных узорах гандлёвых аб'ектаў, і падумаў: дзесяць, ад сілы пятнаццаць год таму назад пісьменніка, які б напісаў такое, аб'явілі б «лакіроўшчыкам».

Давайце паслухаем першага сакратара Магілёўскага абкома партыі Глеба Аляксандравіча Крыуліна. У час сяброўскай бяседы з пісьменнікамі ў абкоме партыі ён расказваў:

— Зараз у сёлах Магілёўшчыны жыве 700 тысяч чалавек. І ведаеце, з поўнай адказнасцю за свае словы скажу, што скардзіцца сялянам на сваё жыццё цяпер не прыходзіцца. Заможна жывуць нашы калгаснікі. Вось вам некаторыя лічбы. Па вобласці ў ашчадных касах ляжыць укладаў на 900 мільёнаў рублёў. Больш паловы гэтых укладаў належыць калгаснікам. Аплата працы ў калгасах вобласці за пяцігодку павялічылася на 88 працэнтаў! Парк сельскагаспадарчых машын папоўніўся ўдвая. Галоўная зараз для нас праблема — гэта будаўніцтва на сяле. І будуем нямала, але трэба значна больш. Сёлета на Магілёўшчыне трэстамі Міністэрства сельскага будаўніцтва БССР і арганізацыямі аблміжкалгасбуда намечана асвоіць 46 мільёнаў капіталаўкладанняў. Дзесяткі новых пабудоў упрыгожаць многія калгасы вобласці. Прадугледжана ўвесці 254 аб'екты, сярод якіх значнае месца займаюць жылыя дамы, культурна-бытавыя ўстановы. Для калгасаў будзе пабудавана чатыры рамонтна-механічныя майстэрні, 10 збожжаскладаў. Будзе закончана будаўніцтва 38 комплексных жывёлагадоўчых гарадкоў. Усяго не пералічыш...

## САМЫЯ ПРЫГОЖЫЯ КВЕТКІ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ

На сустрэчы ў гарадскім Доме культуры з рабочымі, служачымі і студэнцкай моладдзю Магілёва Мікалай Гарулёў сказаў:

— Вось вы нам падаравалі шмат кветак. Дзякуй вам. Але я павінен вам сказаць, што самай прыгожай кветкай Магілёўшчыны зараз з'яўляецца вось гэта!

І паэт узняў над галавой шматок белай кудзелі.

У зале ўспыхнулі дружныя воплескі, і пачуўся ўсхваляваны дзявочы галасок, высокі і пявучы ад нечаканага захаплення:

— Гэта ж наш лаўсан!

Так, лаўсан. Танюсенькая, як павуцінне, нітачка. Але паспрабуй яе парваць! І якія яркія колеры. Белы, як чысты снег. Чорны, як сажа. Шэрабла кітны.

Начальнік хімічнай вытворчасці «Лаўсанбуда» Уладзімір Максімавіч Пшаніцын гаварыў пісьменнікам, што прыйшлі ў госці да рабочых.

— Будзе яшчэ і карычневы, і цёмна-сіні, і другіх колераў. З афарбаванага ў масе палімера атрымліваецца валакно любога колеру.

Дзяўчына, што стаяла каля пульта ўпраўлення агрэгатам, сыпле на далонь Юрасю Свірку чорныя крышталічныя пацеркі. Паэт здзіўлена глядзіць на іх, недаверліва пытае:

— Вось з гэтага ўсё тут робіцца?

— З гэтага, — лагодна пасміхаецца дзяўчына, гаспадыня складанай палімернай гаспадаркі.

Іван Шамякін, Мікалай Гарулёў і магіляўчане — Пятро Шасцерыкоў і Васіль Матэвушаў прыехалі ў госці да рабочых завода штучнага валакна імя В. Куйбышава якраз тады, калі там адбываўся мітынг з выпадку ўзнагароджання завода ордэнам Кастрычніцкай рэвалюцыі. І перш, чым пачаць размову аб дасягненнях беларускай літаратуры, І. Шамякін віншуе заводскі калектыў з вялікай узнагародай.

— Нам вельмі пашанцавала, — гаворыць ён, — трапіць да вас у госці ў такі святочны для вас дзень. Падзяляючы вашу радасць, мы адчуваем асаблівую адказнасць перад вамі. Будзем працаваць, каб вам не было сорамна за нас, каб вы з цікавасцю чыталі нашы кнігі.

Пісьменнік Павел Кавалёў, Іван Калеснік, Эдуард Валасевіч і Анатоль Іваноў у тыя дні наведалі працаўнікоў Бабруйскага фанерадрэваапрацоўчага камбіната, таксама ўзнагароджанага ордэнам Кастрычніцкай рэвалюцыі.

П. Кавалёў пасля ў захапленні расказваў:

— Каб вы пабачылі, якую мэблю робяць на камбінаце! Цуд! Паказваюць нам узоры вырабаў ды кажуць: «Мо хто цяпельца хоча раскласці вось на гэтым гарнітуры?» Мы думаем — жартуюць. Не! Дырэктар камбіната гасіць сваю цыгарэту аб паліроўку, і, разумееце, на люстраной паверхні ніякага следу.

Пабывалі мы і на іншых прадпрыемствах, адзначаных узнагародамі: на заводзе «Электрарухавік», узнагароджаным ордэнам Леніна, на заводзе «Строммашына», на сцягу якога — ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Усюды беларускія пісьменнікі былі жаданымі гасцямі.

Шчыра сустракалі працоўныя Клімавіцкага раёна сваіх землякоў: адразу трох Іванаў: Новікава, Чыгрынава, Аношкіна і паэта Пятра Прыходзьку.

Вучоных і студэнтаў галоўнай нашай кузні сельскіх спецыялістаў — Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі — наведалі магілёўскі літаратуразнаўца Якуб Усікаў і паэты Адам Русак, Юрась Свірка.

З працоўнымі Клічаўскага раёна сустракаліся вядомы беларускі паэт Аляксей Пысін, пісьменнік Васіль Хомчанка, кінасцэнарыст Юрый Лакербая.

Старажытны Мсціслаў гасцінна сустракаў Пятра Шасцерыкова, Міколу Гарулёва, Міхася Скрыпку.

Ад Магілёва разбегліся ва ўсе канцы вобласці пісьменніцкія дарогі...

## САКРЭТ ПІСЬМЕННІЦКАЙ ПАПУЛЯРНАСЦІ

На радзіме славутага снайпера, Героя Савецкага Саюза Хвядоса Смалячкова ў калгасе імя Куйбышава нас сустракалі на парозе клуба хлебам-соллю. Духмяны, толькі што з поду, вялікі каравай уручылі Івану Шамякіну.

Пасля на сяброўскай бяседзе ў дырэктара мясцовай школы М. Максімаўца я, жартуючы, спытаў: чаму каравай уручылі менавіта Шамякіну?

— А таму, што самы любімы наш пісьменнік — Іван Пятровіч.

Любімы пісьменнік... Сапраўды, у гэтай паездцы пры сустрэчах са сваімі чытачамі і выбаршчыкамі (Івана Шамякіна абралі сваім дэпутатам працоўныя Слаўгарадчыны), было столькі праяў усенароднай пашаны да вядомага пісьменніка столькі было сказана цёплых слоў удзячнасці ў адрас яго самога і яго твораў, што міжволі хочацца прааналізаваць вытокі падобнай папулярнасці пісьменніка ў наш час:

У чым сакрэт?

На трыбуну сельскага клуба падымаецца Іван Пятровіч Шамякін, і ў зале адразу ствараецца трывалая атмасфера ўзаемадзеяння і зацікаўленасці. Чаму так атрымліваецца. Сын лесніка, потым салдат, настаўнік, сельскі прапагандыст і, нарэшце, пісьменнік для ўсіх, хто сядзіць у гэтай зале, свой, зразумелы і блізкі. Тут сабраліся сумленныя працаўнікі і аднадумцы, каб шчыра пагаварыць аб сваіх справах, падзяліцца планамі на будучае. І. Шамякін так прама і пачынае сваю гаворку:

— Такія сустрэчы з народам, — патрэбны больш нам самім, чым нашым чытачам. Пасля такіх сустрэч неяк больш адказна ставішся да сваіх задум. Вось магу прызнацца: хацеў садзіцца за новы раман. Але паслухаў людзей, пабачыў іх справы і зразумеў: ранавата садзіцца за раман! Прыйдзецца яшчэ паездзіць, людзей паглядзець, паслухаць, разабрацца ў новых з'явах жыцця. Ну, хоць бы гэты калгас імя Куйбышава. У кожнай хаце — тэлевізар! Вёска, у якой некалькі год таму назад не было электрычнасці, сёння глядзіць з Масквы, з Мінска тое ж самае, што глядзяць і масквічы, і мінчане. Дык людзей гэтых ужо не правядзеш на мякіне! І час у іх зараз ёсць, каб чытаць уважліва, разабрацца, што да чаго. Тое, што сыходзіла з рук брату-пісьменніку некалькі год таму назад, зараз — не сыдзе...

Можа быць, гэтым перш за ўсё і карысны такія паездкі.

Станіслаў ШУШКЕВІЧ

# У КРАІ ДЗІВОСНЫХ СКАРБАЎ

УДЗЕЛЬНІКІ Дзён літаратуры на Гомельшчыне, рыхтаваліся да паездкі на Палессе, як да творчай справаздачы перад працоўнымі напярэдадні XXIV з'езда КПСС, рыхтаваліся, як да свята. І прадчуванне нас не падманула. Шматлікія сустрэчы з рабочымі і калгаснікамі, настаўнікамі і студэнтамі, гутаркі з партыйнымі, савецкімі і камсамольскімі работнікамі былі для нас сапраўдным святам.

Раніцою 10 лютага нас цёпла і шчыра сустракалі гамяльчане — букетамі жывых кветак, гарачымі словамі прывітання. Нас запрасілі ў абком партыі, дзе адбылася таварыская гутарка. Першы сакратар абкома партыі В. Гваздзёў горача прывітаў пісьменнікаў, пажадаў ім поспехаў, прыемных і карысных сустрэч з працоўнымі вобласці. Ён шчыра павіншаваў кіраўніка нашай пісьменніцкай брыгады І. Мележа з пяцідзесяцігоддзем і высокай урадавай узнагародай.

У той жа дзень мы наведалі універсітэт. Пасля кароткай гутаркі ў прарэктара прафесара Ф. Харытановіча ў актавай зале адбыўся вялікі літаратурны вечар, на якім прысутнічалі не толькі студэнты, але і прадстаўнікі грамадскасці горада.

— Нам радасна вітаць пісьменнікаў, якія прысутнічаюць тут, тых, хто ўносіць значны ўклад у развіццё роднай літаратуры, — гаварыў, адкрываючы вечар, сакратар Гомельскага гаркома партыі Б. Тамашоў. — Нам прыемна ўдвая, што для ўдзелу ў правядзенні дзён літаратуры да нас прыехалі ў большасці нашы землякі — пісьменнікі, якія тут нарадзіліся і зрабілі свае першыя крокі ў літаратуры.

А потым слова было дадзена пісьменнікам. І. Навуменка, М. Гамолка, І. Васілеўскі, Я. Скрыган, Хв. Жычка, П. Прануза, Б. Спрынчан, А. Лойка прачыталі свае творы, падзяліліся ўражаннямі ад знаёмства з горадам, расказалі аб сваіх задумах і планах.



Старшыня калгаса «12 год Кастрычніка» В. Пінчук (злева) вітае дэлегацыю пісьменнікаў. Хлеб-соль прымае Янка Скрыган.
Фота М. КАЗЛОВА.

Назаўтра, 11 лютага, наша брыгада падзялілася. Па маршруце, Мазыр—Хойнікі паехалі І. Мележ, А. Лойка, І. Навуменка, Б. Спрынчан, Л. Гаўрылкін і я, у Рагачоў і Светлагорск — Я. Скрыган, Хв. Жычка, М. Гамолка, І. Васілеўскі, Я. Каршукоў і П. Прануза. Усюды, дзе нам давялося пабываць, нам быў аказаны шчыры, сардэчны прыём як з боку партыйных, савецкіх і грамадскіх арганізацый, так і з боку шырокіх мас працоўных Гомельшчыны.

У Мазыры мы сустрэліся са студэнтамі і выкладчыкамі педагагічнага інстытута, пабывалі на будаўнічай пляцоўцы Мазырскага нафтаперапрацоўчага камбіната і ў гасцях у рабочых «Мазырсельбуда».

Па дарозе ў Хойнікі Іван Паўлавіч Мележ запрасіў нас на сваю радзіму, у вёску Глінішча. Літаральна за некалькі мінут калгасны клуб быў перапоўнены. Аўтара «Людзей на балоце» цёпла віталі і віншавалі землякі. Яны з увагай і ўдзячнасцю слухалі яго выступленне і выступленні яго калег.

Хвалюючай была сустрэча на Хойніцкай фабрыцы мастацкіх вырабаў. Літаратурны вечар тут быў праведзены проста ў цэху. Тут жа рабочыя мелі магчымасць набыць кнігі гасцей і атрымаць аўтографы. На вечары І. Мележу было ўручана пасведчанне ганаровага рабочага прадпрыемства.

Вялікі літаратурны вечар быў праведзены ў клубе калгаса «Рассвет» Хойніцкага раёна.

Другая наша група наведала музей народнай славы ў Рагачове, сустрэлася з калектывам Рагачоўскага малочна-кансервавага камбіната, з калгаснікамі вёскі Журавічы, што на Рагачоўшчыне, з хімікамі Светлагорска.

13 лютага ўся наша брыгада зноў сабралася ў Гомелі. Вечар у абласной бібліятэцы быў нібы заключным.

Сустрэчы і выступленні на Гомельшчыне наблізілі нас да радавых працаўнікоў горада і вёскі, мы сваімі вачыма ўбачылі вялізныя культурныя і гаспадарчыя змены ў жыцці палешукоў. Усё гэта натхняе на стварэнне новых праўдзівых і высокамастацкіх твораў, якія б засведчылі магутны поступ нашага народа ў светлую будучыню.

# КАНДРАТУ КРАПІВЕ—75

## ТВОРЧЫ ПОДЗВІГ САТЫРЫКА

Мікола АРОЧКА

КАНДРАТ КРАПІВА — з'ява такая ж наспеўша-немінучая на нашай нацыянальнай глебе, як і Янка Купала. Кожны народ, урэшце, мае права на свайго Лафантэна ці Крылова. Беларусам у гэтым сэнсе пашчасціла—можа таму, што ўся папярэдняя наша літаратура, пачынаючы ад самай старажытнай, была палемічна-сатырычнай, трымалася на сатыры.

Уся наша сатыра чакала такога адкрывальніка, які б падняў з народных глыбінь тыя запасы жывой мудрасці, дасціпу, з'едлівага смеху, што спакон збераглiся ў народнай самасвядомасці. А вазьміце літаратуру—усе сатырычныя струмені, ручаіны, плыні, прытокі, пачынаючы ад самых ранніх, што ўпершыню закрынічылі трыста год назад у напісаных на беларускай мове вершах Сімяона Полацкага, да сатыры Багушэвіча, Купалы, Коласа—усё гэта таксама ж як бы чакала свайго шырокага наватарскага працягу, чакала асобнага магутнага рэчышча, імя якога даўно ўжо мы ведаем—Кандрат Крапіва.

Пачатак быў нібы зусім выпадковы. Мне бачыцца высокая постаць будучага сатырыка ў той паваротны момант, калі ён нечакана затрымаўся на адной з вуліц Мінска перад наклеенай на сцяне газетай «Савецкая Беларусь». І сталася дзіва! Кандрат Кандратавіч, які, дарэчы, перад гэтым ужо займеў (праз газету «Красноармейская правда») першую славу «паэта-камандзіра» (ён выкладаў у школе малодшага камсаставу) і ніколі дагэтуль нават не спрабаваў пісаць па-беларуску, нечакана, можа яшчэ да канца не ўсвядомлена, адчуў у душы прабуджэнне роднай стыхіі—мовы, дум, псіхалогіі беларускага складу. Выпадкова? Зусім не! Атмасфера 20-х гадоў была напоўнена свежасцю тых навальнічных разрадаў, тых парывіста-моцных павеваў, якімі на поўныя грудзі дыхалі на вялікім рэвалюцыйным пярэдадні Купала, Колас, Багдановіч. Разам з тым—гэта быў і час усеагульнага народнага абуджэння да дзяржаўнага і грамадскага жыцця, да працы, час нечуванага энтузіязму, а таксама—і тых супярэчнасцей, што агаляюцца на рубяжы ломкі старога ўкладу. Крапіва ўспамінае, што яго душой тады завалодала «простае жаданне ўмяшацца ў жыццё і сёе-тое ў ім паправіць»—з гэтага зыходнага эстэтычнага кодэксу і пачалося грамадзянскае служэнне вялікага таленту.

Літаратура не многа знае выпадкаў, каб з першых крокаў да пісьменніка так нечакана прыходзіла шырокая вядомасць і творчая сталасць, як прыйшлі яны да Кандрата Крапівы. Голас яго адразу пачула не толькі Усходняя, але і адгароджаная дратамі Беларусь Заходняя. Сёння нельга чытаць без усмешкі жывыя сведчанні В. Таўлая аб тым, як у тую пару заходні беларус залічаў Крапіву ў землякі-заходнікі, як у час лютавання дэфензівы шчыра трывожыўся за лёс улюбёнага сатырыка: «Ці не трапіў і ён на Лукішкі?»

Каб валодаць такой дзейнасцю і заваяваць такую шырокую рэпутацыю, патрэбна мець нешта большае, чым творчы талент. Тут патрэбен яшчэ талент грамадзяніна. Больш таго: сапраўднаму мастаку, сатырыку, байкапісцу нельга і без трэцяга таленту—таго, які вельмі высока цаніў Бялінскі ў Крылове—таленту народнасці. У гэтым трыадзінстве талентаў—уся прыцягальная сіла буйнай асобы Кандрата Крапівы як мастака і чалавека. Пачну з першага.

Крапіва надзелен рэдкім дарам востра-драматычнага і сатырычнага бачання рэчаў, тонкім адчуваннем таго камізму, калі ўнутраная пустата, нікчэмнасць нярэдка прыкрываецца вялікімі прэтэнзіямі, якіх хапіла б «на слана». У такой падгледжанай неадпаведнасці тоіцца гатовая сітуацыя, унутраны драматызм якой часцей за ўсё і кладзецца ў аснову твора. Але ж нярэдка тое, што адкрылася крытычна-праніклівамy зроку, трэба перавесці на «рэйкі» іншасказання, алегорыі —і тут асаблівую каштоўнасць мае характэрны тып асацыятыўнага мыслення «па аналогіі», якое пераносіць ідэю на з'явы прыроды, у жывёльны свет.

Прырода таленту Крапівы, мне здаецца, моцна паўплывала на прыроду тых жанраў, якія ім распрацоўваюцца. Справа ў тым, што яго талент далёка не вычэрпваецца толькі сатырычным складам мыслення. Кандрат Кандратавіч не раз уражваў нас і праніклівым лірызмам («Не сумуй па мне, старая, будзь здарова, маці!»), чараваў песеннасцю, жывой страфічнай формай радка, якая ўразнастайніла традыцыйна-вольныя памеры байкі, зрабіла яе лаканічна-гнуткай («У папа ды быў сабака»). А вазьміце тонкую паэтызацыю прыроды, яго жывапіс і дакладны бытапіс, цягу да востра-драматычных палотнаў, да эпасу—усё гэта стварае ў творчасці Крапівы непаўторна індывідуальны і шырокі свет з многімі прасторавымі вымярэннямі.

Не магу не спаслацца на словы П. Глебкі, які папярэджваў ад аднабаковага вымярэння таленту свайго таварыша па пяры: «Крапіва, безумоўна, вялікі майстар байкі і камедыі, але ён і добры лірычны паэт і цудоўны бытапісьменнік. Дыяпазон яго творчасці вельмі шырокі, таму што пісьменнік шырока глядзіць на жыццё і глыбока пранікае ў яго тайнікі: ён бачыць у ім і гераічнае, і трагічнае, і смешнае».

Думку апошняга сказа хацелася б асабліва падкрэсліць, бо шырокім поглядам на жыццё, глыбокім пранікненнем у яго тайнікі валодае толькі вялікі грамадзянскі талент, які вельмі каларытна ўзбуйняе творчую асобу Крапівы. Перачытваючы з асалодай многія, даўно прызнаныя ўзоры яго паэзіі, драмы, камедыі, што сталі хрэстаматыйнымі, часам не задумваешся, якой мужнасці, грамадзянскага сумлення патрабавалі яны ў свой час ад пісьменніка. 20-я і часткова 30-я гады былі спрыяльнай глебай для ўзмужнення таленту, але ж яны пакідалі і нямала каменняў на шляху крытычна-праніклівага асэнсавання. Гэтымі каменнямі былі многія тэорыі, густа насеяныя, паводле слоў Крапівы, «страшнымі рэфарматарамі», якія навязвалі думку аб аджыванні ў савецкі час не толькі алегорыі, але і ўвогуле сатыры як прадукту старога свету. Рэфарматары гэтыя былі і сапраўды «страшнымі», бо, спекулюючы і грозячы імем мастацтва, самі былі звычайнымі прыстасаванцамі — і ім не так проста было даваць бой. «Панцыры іх службовых аўтарытэтаў,—пісаў пра іх Крапіва, —часамі настолькі моцныя, што вастрыё сатыры можа іх даставаць да жывога толькі з вялікай цяжкасцю і... небяспекаю». І ўсё ж пісьменнік-грамадзянін ішоў на такую рызыку, свядома кідаючы выклік і прымаючы бой—і ў гэтым была вялікая грамадзянская служба яго творчасці. У якасці асноўных аб'ектаў, патрабуючых неадкладнага асмяяння і выкрыцця, Крапіва вылучае: на першае месца—прыватніцтва і рэлігію (іх роля ў будучым зменшыцца да мінімуму), на другое—розныя формы прыстасавальніцтва, якое аказалася на дзіва жывуча-ўчэпістым. На гэтым нялёгкім кірунку творчасць Крапівы і павяла асноўны знішчальны агонь.

Пафас крытычнага, грамадзянскага адмаўлення ў імя высакародных ідэалаў—гэта тая нялёгкая форма сцвярджэння, якая вечна бянтэжыла тых, хто не разумеў спецыфікі сатыры. Змагаючыся з адмоўнымі праявамі ў нашым жыцці, сатыра Крапівы ўключылася ў актыўную барацьбу за нашы камуністычныя ідэалы, сцвярджаючы чысціню нашых дум, памыслаў, спраў.

Толькі адышоўшыся на пэўную адлегласць у часе, мы нечакана заўважаем, якую тытанічную і незаменную работу споўніў і спаўняе той, хто на самым пачатку рашуча абвясціў: «...змываць дакастрычніцкі бруд — задача мая ўдарная».

Талент Крапівы—глыбока нацыянальны, патрыятычны і сапраўды народны. Родная стыхія на поўны голас таму і загаварыла ў яго творах, што яна нідзе і ніколі не пакідала яго і раней—ні ў траншэях імперыялістычнай вайны, ні пад час іншых ліхалецця. Стыхія клопатаў народных дум, роднай мовы не магла не захапіць усю натуру чалавека, які з маленства ўмеў слухаць душу народа, ведаў яго натуру, яго патрэбы і балячкі, які стаў яго сынам і — дарэчы —яшчэ ў семнаццаць год вытрымаў першы экзамен на званне народнага настаўніка. Такім ён заўсёды быў і ёсць: адначасова— сынам і настаўнікам.

Векавая народная мудрасць, дасціпнасць, новая разварушанасць людской свядомасці загаварылі вуснамі мастака. Вазьміце тыя ж вяршыні баечнага майстэрства або буйныя дра-

АНАТОЛЬ ВОЛКАЎ ІЛЮСТРУЕ БАЙКІ КАНДРАТА КРАПІВЫ



Жаба ў каляіне.



Старшыня.



Балада пра Яўтуха.

У ДЗЕНЬ ЮБІЛЕЮ ПРЫГАДВАЕЦЦА У ДЗЕНЬ ЮБІЛЕЮ ПРЫГАДВАЕЦЦА У ДЗЕНЬ ЮБІЛЕЮ ПРЫГАДВАЕЦЦА

Мікола ЛОБАН

## З КЛОПАТАМ ПРА РОДНУЮ МОВУ

ПРА ПІСЬМЕННІКА не прынята гаварыць: ён любіць родную мову. Цяжка ўявіць сабе такога пісьменніка, які б не любіў мовы свайго народа, мовы на якой ён творыць свае мастацкія рэчы. Пра пісьменніка можна гаварыць, як клапоціцца ён пра сваю родную мову. У гэтых адносінах пра Кандрата Кандратавіча павінна весціся асобая размова. Яго цікавасць да мовы выходзіць далёка за рамкі звычайнага пісьменніцкага клопату. Будучы выдатным майстрам мастацкага слова, Кандрат Кандратавіч Крапіва ўжо на працягу дзесяцігоддзяў з'яўляецца агульнапрызнаным заканадаўцам граматычных, вымаўленчых і правапісных нормаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Ён вельмі ўдала спалучае ў сабе выдатнага мастака і не менш выдатнага вучонага-лінгвіста. Кандрат Кандратавіч аддаў вельмі многа ўвагі і часу даследаванню самых надзённых пытанняў мовы: яе арфаграфіі і лексікі, фразеалогіі і дыялекталогіі.

Паглыбленае захапленне пытаннямі мовы ў Кандрата Кандратавіча звязана з раннім перыядам яго літаратурнай творчасці, калі ён праз часопіс «Узвышша» падарыў нам сваю выдатную працу пра беларускія прыказкі і прымаўкі. Гэта, бадай, лепшая з тэарэтычных прац, што паявіліся па гэтым жанры народнай творчасці. Далейшыя лінгвістычныя інтарэсы звязаны з пытаннямі перагляду правапіснай сістэмы і стварэння першых акадэмічных слоўнікаў.

У дакладзе, прачытаным на рэспубліканскай канферэнцыі па пытаннях беларускага правапісу ў 1952 годзе, Кандрат Кандратавіч пераканаўча давёў неадпаведнасць многіх правіл правапісу новаму ўзроўню развіцця літаратурнай мовы і надзённасць пытання рэформы правапісу. У гэтым дакладзе ён не толькі абгрунтаваў неабходнасць змен у правапісе, але і вызначыў напрамак рашэння многіх праблем. Прапановы Кандрата Кандратавіча склалі аснову прынятай потым урадавай пастановы 1957 года «Аб удакладненнях і некаторых зменах беларускага правапісу».

Вялікі, вельмі вялікі кавалак свайго жыцця Кандрат Кандратавіч аддаў на стварэнне беларускіх слоўнікаў. Пасляваеннае маладое пакаленне беларускіх мовазнаўцаў было яшчэ слабое ў навуковых адносінах, сілы гэтыя толькі збіраліся, а патрэба ў слоўніках была надзвычай вялікая. І ўсё ж нягледзячы на гэтыя акалічнасці, трэба прызнаць, што мы былі задужа бяздумныя і неашчадныя ў адносінах да рэдкага сатырычнага таленту Кандрата Крапівы. Кандрат Кандратавіч — удзельнік стварэння «Руска-беларускага слоўніка», рэдактар «Беларуска-рускага слоўніка», адзін з рэдактараў акадэмічнай «Граматыкі беларускай мовы», «Дыялекталагічнага атласа», зводу «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», падрыхтаванага да друку вялікага арфаэпічна-арфаграфічнага слоўніка і многіх іншых прац. На падыходзе вялікая работа па падрыхтоўцы да друку пяцітомнага тлумачальнага слоўніка. Ды і ці толькі? Усе буйнейшыя дасягненні беларускай мовазнаўчай навукі за пасляваенны час у той ці іншай ступені звязаны з імем Кандрата Кандратавіча Крапівы.

Якуб МІСКО

## ЯГО ЛЮБІЛІ НА «КРЭСАХ»

КАНДРАТ Крапіва быў адным з самых вядомых паэтаў у былой Заходняй Беларусі. Людзі ведалі і любілі яго вершы. Асабліва байкі. Баявая, пякучая крапіўоўская сатыра дапамагала змагацца з катаржнай мярзотнасцю на «крэсах усходніх».

Прыгадваецца такі выпадак. У Віленскім акруговым судзе ішоў працэс над сялянамі-камуністамі. У сваіх апошніх словах падсудныя не прасілі панскай літасці, а адзін з іх, звяртаючыся да суддзяў, сказаў так:

— Сёння ваша права, але наша праўда. І гэтую праўду вам не задушыць, бо, як гаворыцца, «каб сонца засланіць, вушэй асліных мала».

Можа, прамоўца і не ведаў, чые гэта словы пра сонца і асліныя вушы. Хутчэй за ўсё так яно і было, бо многія байкі і вершы Кандрата Крапівы хадзілі па вёсках у рукапісах і не заўсёды можна было дазнацца, хто іх аўтар. Ад гэтага, вядома, яны не рабіліся менш пякучымі.

Вельмі папулярнай у заходнебеларускай вёсцы была «Біблія», у якой паэт дасціпна выкрываў папоўскую хлусню аб стварэнні свету. Гэты твор людзі перапісвалі, перадавалі з рук у рукі, вывучвалі напамяць. Збяруцца, бывала, мужчыны вечарам у якую хату, пагамоняць пра жыццё-быццё, а пасля да Івана ці Петруся:

— Давай, браце, што-небудзь з «Бібліі». Як гэта там — «не гарыць капуста й моркаў...»

Іван ці Пятрусь — самыя пісьменныя хлопцы ў вёсцы — не давалі сябе доўга прасіць. І трэба было бачыць, як слухалі, як рагаталі мужчыны, а каторыя дык яшчэ прыгаворвалі:

— Вось гэта Крапіва, вось гэта смаліць!

Асабліва шырока былі распаўсюджа-

матычныя творы — «Партызаны», «Хто смяецца апошнім»—у іх жа зайграла не толькі іскрамётная сіла жывога народнага слова, смеху, але і народнага погляду на рэчы, на падзеі ў свеце. Голас працаўніка з народа, сумленна-мужнага, усёразумеючага, з хітраватай прымружынкай вока максімальна наблізкаецца ў іх да голасу самога мастака. Але Крапіва не раствараецца ў сваім чытачы, не падстройваецца пад яго, а калі трэба—падказвае яму, калі трэба— высмейвае, адкрывае вочы на ўсе праўды і няпраўды свету. Вучыць і сам несупынна вучыцца ў народа.

У нашых вялікіх заснавальнікаў літаратуры былі плечы волатаў—на кожнае плячо яны бралі (прыспешваў час!) па цэлай ношы не ўзнятых яшчэ родаў і жанраў літаратуры: Купала—паэзію і драму, Колас—паэзію і эпас, Багдановіч—паэзію і крытыку... Кандрату Крапіву суджана было таксама ўзяць на адно плячо сатырычную паэзію, байку, на другое—камедыю і драму. Ішло гэта, вядома, ад шчодрай магутнасці таленту, ды яшчэ—ад наспеўшай гістарычнай патрэбы.

Майстэрства камедыі Крапіва адточваў спачатку на алегарычных сцэнках баечнага жанру («Зубы», «Дэкрэт»), на драматычным завастрэнні сатырычных вершаў («Кат у няміласці» пазначаны як «Меладрама ў адной дзеі»). Некаторыя з іх цалкам трымаюцца на камічным дыялогу і маглі б скласці выйгрышную сцэнку-фрагмент у драматычным творы.

У кожнага з нас было сваё адкрыццё Крапівы-драматурга, была свая сустрэча з яго п'есамі-спектаклямі, сустрэча з простымі і няпростымі, каларытна выпісанымі натурамі, як дзед Бадыль, цёця Каця, Гарлахвацкі, Туляга, Пытляваны, Жлукта-Чарскі, Чарнавус, Перагуд—з гэтымі і многімі іншымі персанажамі мы так паспелі эстэтычна зжыцца, асвойтацца, што здаецца часам—і на самай справе з імі не раз у жыцці бачыўся, спрачаўся, дзяліў трывогі і роздум, а з некаторымі быццам і пуд солі з'еў.

У шырокім, несупынным мастацкім рэчышчы, якое мы называем—Кандрат Крапіва—мне бачыцца быстрыня, якая захоплівае многія жанры і роды літаратуры, глыбінна віруе і, чыстая, калюча-свежая, мкне ў далеч наступнасці: гэта крапівінская сатыра. Яна нідзе не ўтварае старыц, а шлях свой торыць далей у вечным руху і абнаўленні.

Калі гаварыць аб працягу традыцый, то ад Крапівы, мне здаецца, пачынаюцца два асобныя шляхі-разгалінаванні, нібы дзве рукі, працягнутыя ў будучыню—па-наватарску ўзнятыя ім жанры—байка і камедыя. У мяне часта набягае адзін ўспамін. Аднойчы, адкрываючы на сваіх старонках аддзел гумару і сатыры пад назвай «Крапіва», часопіс «Сельская гаспадарка Беларусі» (у якім мне якраз выпала весці гэты сатырычны раздзел) звярнуўся да Кандрата Кандратавіча за блаславеннем. І Крапіва не адмовіўся ад ролі хроснага—напісаў верш:

**Учора кажуць мне:—Кандрат,**
**Ёсць «Крапіва» другая.**
**— Ну што ж,—кажу,—я вельмі рад,**
**Няхай здарова джгае.**

**Таго, хто цягнецца ў хвасце, —**
**Расцяпу, гультаіну.**
**Няхай вялікая расце**
**На жулікаву спіну;**

**Няхай агнём пячэ яна**
**Чужынца-ліхадзея;**
**Няхай апраўдвае спаўна**
**Чытацкія надзеі.**

Гэта блаславенне, напісанае з прыватнага выпадку, сёння адгукнулася ва мне шырокім падтэкстам. Паглядзіце, як усцешыла нашага славутага сатырыка тое, што ёсць «крапіва» другая! Любы сцверджаны кірунак у літаратуры жыве толькі тады, калі ў яго ёсць працяг. Зараз на крапівінскім напрамку выразна абазначыліся постаці А. Макаёнка, У. Корбана, Э. Валасевіча і цэлай кагорты маладзейшых сатырыкаў і гумарыстаў. Але яшчэ, здаецца, сатырычныя жанры пад іх пёрамі не набралі той вышыні, што здабыта іх настаўнікам. Што ж, «другой крапіве» ў сваім росце ёсць на каго трымаць творчае раўненне.

За плячыма Кандрата Кандратавіча гераічна-цяжкі, апалены чатырма войнамі, складаны і слаўны шлях даўжынёй у тры чвэрці стагоддзя. Шлях усенароднай вядомасці і пашаны. На зямлі славянскай з усіх сатырыкаў, здаецца, аднаго толькі дзядулю Крылова прыжыццёва шанавалі так, як сёння шануем мы нашага Кандрата Кандратавіча.

Так ушаноўваюць толькі за вялікі творчы подзвіг.



Заява.



Пажар.

## Васіль ІВАШЫН

# ПРЫЗВАННЕ

Сатыра — пісьменніцкае прызванне Крапівы, яго мастацкая зброя, яго пафас, найбольш яркая асаблівасць яго паэтычнага даравання.

Да сатыры звярталіся многія беларускія пісьменнікі, але толькі Кандрат Крапіва непамерна пашырыў яе ўладанні ў беларускай літаратуры, адкрыў новыя шляхі для яе развіцця. У яго творчасці сатыра ўпершыню стала «царуючай каралевай» усіх жанраў і родаў літаратуры, не толькі паэзіі, але і прозы, і драматургіі. Інакш кажучы, яна зрабілася адным з галоўных спосабаў мастацкага даследавання жыцця, тым своеасаблівым люстрам, праз якое адбілася эпоха, імкненні і ідэалы савецкіх людзей. З сатырай звязаны творчыя пошукі, найбольш значныя мастацкія дасягненні і здабыткі К. Крапівы—паэта, празаіка, драматурга, і таму яго сатырычны вопыт мае прынцыповае значэнне, заслугоўвае глыбокага, усебаковага вывучэння.

К. Крапіва—выдатны савецкі паэт-байкапісец, стваральнік беларускай нацыянальнай байкі. Ён узвёў гэты жанр у ранг сапраўднай паэзіі. Мы можам сказаць—і гэта нікольні не будзе перабольшаннем,—што ў творчасці Кандрата Крапівы беларуская байка набыла сваю мастацкую сталасць і прыгажосць, стала дзейсным сродкам палітычнай сатыры.

Той, хто знаёміцца з байкамі і сатырычнымі вершамі Крапівы, не можа не адчуць у іх жывога подыху нашага часу. Палітычная страснасць, злабадзённасць, імкненне актыўна ўплываць на грамадскую свядомасць, ставіць хвалюючыя праблемы палітыкі, камуністычнай маралі—усё гэта арганічна ўласціва лепшым творам Крапівы, у якіх яскрава выяўляецца глыбока партыйная пазіцыя пісьменніка.

Сіла сатыры Крапівы—у высокай ідэйнасці, у непарыўнай сувязі яе з жыццём народа. Яна заўсёды мае канкрэтны сацыяльны адрас. Сатырычныя творы пісьменніка накіраваны супраць звычак і традыцый старога, капіталістычнага грамадства, супраць усяго таго, што перашкаджае нашаму руху наперад, прасякнуты пафасам жыццесцвярджэння, гарачай верай у перамогу перадавога, камуністычнага.

Сатырычны талент К. Крапівы рос і выхоўваўся на шырокіх традыцыях рэалістычнай сатыры, але гэта пераемнасць з класічнымі традыцыямі шматкратна апасродкавана ў творчасці пісьменніка сатырычным вопытам народа.

Сатыра Крапівы неадлучна ад народнай паэтычнай культуры. Яна ўвабрала ў сябе найбольш каштоўныя яе элементы. Сувязь з народнай традыцыяй, вялікая чалавечая прастата, народнасць паэтычнага мыслення надаюць асаблівую прывабнасць творам пісьменніка. Чытаеш іх і заўважаеш, як амаль заўсёды трапная сатырычная думка Крапівы шукае для сябе па-народнаму простую, афарыстычную форму выяўлення.

Крапіва любіць вострае, афарыстычна мудрае народнае слова. Якія толькі сродкі і прыёмы камічнага ні выкарыстоўвае ён у сваіх творах. Тут і гнеўны бічуючы смех, і жыццярадасная ўсмешка, і той дасціпны, іскрысты гумар, якім надзяляе народ сваіх герояў. Няма ў беларускай літаратуры другога такога пісьменніка, які б так шматгранна, як К. Крапіва, адрадзіў на новай аснове традыцыі народнай сатыры, узбагаціўшы іх вопытам лепшых майстроў сусветнай класікі.

Кандрат Крапіва — буйнейшы савецкі драматург. Ён прынёс у беларускую драматургію героіку і сатыру, глыбокую лірыку чалавечых пачуццяў і эпічны пафас, узняў яе на вышыню лепшых дасягненняў драматургічнай творчасці савецкага народа. Драматычныя творы Крапівы — наша нацыянальная класіка, невычэрпная крыніца драматургічнага майстэрства. Актуальнасць праблематыкі, жыццёвая праўдзівасць вобразаў, канфліктнасць і сцэнічнасць, дасканаласць мастацкай формы — усе гэтыя якасці робяць іх каштоўным здабыткам мастацтва.

Паэтыка драматургічнай творчасці Крапівы надзвычай багатая і разнастайная. Пісьменніку аднолькава блізкія прыёмы народнай камедыі і класічнай драматургіі. У п'есах «Хто смяецца апошнім» і «Мілы чалавек» Крапіва выступае перад намі як пісьменнік- камедыёграф, выдатны майстар сатырычнай тыпізацыі вобразаў. Гэтыя творы — удалы прыклад творчага развіцця традыцый рускай класічнай драматургіі ў беларускай літаратуры. Яны вызначаюцца моцным выкрывальным пафасам, вастрынёй канфлікту, завершанасцю мастацкіх характараў.

Гарлахвацкі, Туляга, Зёлкін, Жлукта — усе гэтыя камедыйныя вобразы выпісаны буйным планам, яркімі мастацкімі фарбамі. У кожным з іх пісьменнік імкнуўся адкрыць праўдзівы чалавечы характар.

Мінаюць гады, а творы Крапівы не старэюць. Яны прадаўжаюць жыць і хваляваць чытача. Перачытваючы гэтыя творы, мы адкрываем у іх шмат новага, незаўважанага раней, а самае галоўнае, адчуваем і сёння дзейсную сілу сатыры Крапівы, якая стаіць на варце нашага жыцця.


У ДЗЕНЬ ЮБІЛЕЮ ПРЫГАДВАЕЦЦА
У ДЗЕНЬ ЮБІЛЕЮ ПРЫГАДВАЕЦЦА

ны ў нас творы Кандрата Кандратавіча на заходне-беларускія матывы. Паэт з болем у сэрцы пісаў, што над землямі Заходняй Беларусі яшчэ «звіняць іржавым звонам путы», чуцён посвіст панскага бізуна, «стогн дзядоў і плач дзяцей». Панскія ваяводы крамсалі жывое цела народа. Скрыпелі шыбеніцы, тысячы лепшых прадстаўнікоў народа па этапах ішлі на катаргу. Творы Кандрата Крапівы, таксама як творы Янкі Купалы і Якуба Коласа, давалі людзям веру ў тое, што «крывавы баль не вечны, калі ў грудзях агонь жывы». Памятаю, гэтыя крылатыя словы паэта не раз былі аншлагам у часопісе «Краты», што выдаваўся палітзняволенымі лукішкаўскай турмы.

З гнеўным сарказмам кляйміў паэт дзейнасць цёмных хаўруснікаў—Астроўскага і Луцкевіча, якія за юдавы срэбнікі прадавалі інтарэсы народа і разам з тым бразгатліва гаманілі аб сваёй любасці да яго. Байка «Вол і Авадзень» вельмі прыйшлася да спадобы тым, хто змагаўся супраць гэтай суполкі здраднікаў. Паэт трапна пісаў:

Нямала ёсць правадыроў,
Якія любяць люд працоўны
За тое толькі, безумоўна,
Што любяць яго кроў.

Гэтыя радкі надрукавала ў адным са сваіх артыкулаў віленская «Беларуская газета», што выходзіла легальна ў 1933 годзе. Яны, гэтыя радкі, білі не ў брыво, а ў вока тым, хто, гандлюючы народнымі інтарэсамі, намагаўся схаваць сваё нутро ў ліберальную апратку.

Мастацкае слова Кандрата Крапівы праз калючыя драты граніцы прабівала сабе дарогу да заходнебеларускага чытача, паланіла яго сэрца, клікала змагацца за лепшую долю. За гэта мы яго моцна любілі.

## С. ПЯТРОВІЧ

# НА САМАДЗЕЙНАЙ СЦЭНЕ

КАЛІ запытаць аматараў беларускай самадзейнай сцэны пра любімага драматурга, напэўна, большасць іх назаве Кандрата Крапіву. Творчасць пісьменніка цесна злілася з духоўным жыццём і культурай народа, стала здабыткам не толькі літаратуры і прафесіянальнага тэатра, але і самадзейнай сцэны. Яго байкі і вершы, мастацкая проза і драматургія захапляюць самадзейных артыстаў і слухачоў вострым дасціпным словам, глыбокай думкай, выразна акрэсленымі характарамі.

Час мала захаваў звестак аб першых пастаноўках п'ес Крапівы на самадзейнай сцэне. Ставіліся спачатку невялікія ўрыўкі са сцэнічных твораў, затым, у дні падрыхтоўкі да II Усебеларускай алімпіяды, аматары драматычнага гуртка Бабруйскага клуба саматужнікаў паказалі на сцэне п'есу «Канец дружбы». У 1938 годзе на III Усебеларускай алімпіядзе са спектаклем «Партызаны» цікава выступіў драматычны гурток Чэрвенскага Дома сацыялістычнай культуры.

З гэтага часу драматургія Крапівы пачала заваёўваць сцэны аматарскіх гурткоў фабрык, заводаў, хат-чытальняў, школ. Тут можна прыгадаць, як цікава п'есу «Партызаны» паставіў драмкалектыў калгаса «Кастрычнік» Церахаўскага раёна. У 1940 годзе спектакль быў паказаны ў Мінску на алімпіядзе і быў высока ацэнены журы. Многія выканаўцы атрымалі прэміі, сярод іх і калгаснік Павел Ларчанка, які выконваў ролю дзеда Бадыля.

Адным з цікавейшых дасягненняў беларускай самадзейнай сцэны ў даваенны час стаў спектакль «Хто смяецца апошнім» у пастаноўцы драмгуртка Чэрвенскага Дома сацкультуры. Гледачы і друк высока ацанілі майстэрства выканаўцаў Ерамеева (Туляга), Жэнчака (Гарлахвацкі), Мурашкі (Чарнавус), Станілевіча (Левановіч), рэжысёрскую работу мясцовага настаўніка Гарбуза.

А колькі сілы бралі ў творчасці Крапівы нашы народныя мсціўцы, насельніцтва акупіраваных раёнаў! Дасціпныя байкі, жарты, эпіграмы, вершаваныя дыялогі пісьменніка стралялі ў ворага са старонак газет, лістовак, часопісаў, завучваліся напамяць, жылі на прывале ля вогнішча, на лясной эстрадзе, у партызанскай зямлянцы — падымалі дух, выхоўвалі нянавісць да ворага, клікалі да перамогі.

Недзе ў пачатку пяцідзесятых гадоў беларуская тэатральная самадзейнасць настолькі вырасла і творча ўмацавалася, што стала смела і ўсё часцей уключаць у свой рэпертуар складаныя драматычныя творы Кандрата Крапівы: «Партызаны» (калгас «Чырвоны сцяг» Тураўскага раёна, Буда-Кашалёўскі ДК, Полацкі ДК, Агародніцкая хата-чытальня Брэсцкай вобласці, сяло Азершчына, Куранецкі сельскі Дом культуры); «Хто смяецца апошнім» (Рэчыца, Ашмяны, Мінскі медыцынскі інстытут, Ліда, Магілёўскі завод штучнага валакна); «З народам» (гурток Аршанскага завода «Чырвоны кастрычнік») і іншыя. Найбольшы поспех выпаў на п'есу «Пяюць жаваранкі», якую ставілі ў Багушэўску, Рэчыцы, Дзятлаве, Полацку, Пухавічах, Брагіне, у самадзейных гуртках калгасаў «Рассвет», імя Кірава, «Шлях Леніна» Мсціслаўскага раёна, вёскі Дзібітава Івацэвіцкага раёна, і многіх іншых гуртках.

Самую лепшую пастаноўку спектакля «Пяюць жаваранкі» на самадзейнай сцэне паказаў драматычны гурток аўтазавода, які ў 1951 годзе прымаў удзел у заключным туры Усесаюзнага агляду мастацкай самадзейнасці ў Маскве. Работа аўтазаводцаў захапляла праўдзівасцю і глыбінёй раскрыцця вобразаў, зладжанасцю ігры выканаўцаў. Не выпадкова апошнія сцэны спектакля «Пяюць жаваранкі» былі пастаўлены і на заключным паказе тэатральнай дэкады — на сцэне Малога тэатра.

Тут трэба сказаць аб увазе Кандрата Крапівы да работы самадзейных калектываў над яго творамі. На сцэне аўтазавода «Пяюць жаваранкі» ставіліся і дапрацоўваліся пры яго непасрэдным удзеле. Шмат дапамагаў ён і многім іншым прыхільнікам яго творчасці. Жывая сувязь паміж драматургам і самадзейнай сцэнай была сувяззю пісьменніка з народам, яна плённа фарміравала і народны тэатр і самога пісьменніка.

Высокамастацкая драматургія Кандрата Крапівы адыграла надзвычай вялікую ролю ў творчым станаўленні і росце майстэрства аматараў самадзейнай сцэны, цэлых калектываў і тэатраў. У гэтым факце — шырокае народнае прызнанне творчасці драматурга.

# Паэтычная паверка

## Ніна ТАРАС



Хочаш край мой зведаць!
Зведай, калі ласка.
Што ні крок — легенда,
Што ні дзень — то казка.

Замеці таполяў,
Громаў перазвоны...
У чаромху ясень
Ад вясны ўлюбёны.

Патануў у ночы
Ціхі спеў дзявочы...
Ходзяць казкі полем,
Па разлогах крочаць.

Ходзяць казкі лесам,
Ходзяць казкі гаем...
Ад шчаслівых мараў
Сэрца замірае.

Не пайду дадому,
Не скажу нікому,
Што і мне мой ясень
Любы пакрыёму.

Што блукае следам
І за мною казка...
Хочаш край мой зведаць?
Зведай, калі ласка.

## Еўдакія ЛОСЬ



Заўжды галоўнае — пачаць,
боль ажывіць, узвеяць радасць...
Як словы хораша гучаць,
калі ім моц свая пара дасць!

Як добра выказаць цалкам
май і кастрычнік свой і студзень,
сівое свята пад сцяжком
і малады румяны будзень!

Заўжды галоўнае — пачаць
і прадаўжацца да астатку
і сэрцам песню праспяваць
сакавіковаму пачатку...

### НАШЫ ПАМОЧНІКІ

І мы, нарэшце, помнікі займелі,
славутыя, ды не як у людзей...
Ад хараства прад іншымі нямелі,
а нашы — немы боль ірвуць
з грудзей.
Адзін з іх—на дваццатым кіламетры,
другі—гудзе званамі у глушы...
Сусветнага мастацтвазнаўства
мэтры,
скіруйце і на іх святло душы!

Каб мы такіх вось помнікаў не мелі,
то невядома, як бы вы нямелі...

•

Крытык маскоўскі мяне пахваліў:
«Прывязана да вайны...».
Слых падабенства не тое ўлавіў:
«Прыстаўлена да сцяны...»
Гэта я
калачуся, як ліст,
а не сястра і брат,
гэта ў мяне
страляе фашыст
ледзь не трыццаць гадоў падрад...
Гараць гарады, стогне зямля,
захлынаюцца рэчкі крывёй...
Я развяжуся з вайной;
пасля;
калі стану сама зямлёй...

•

Мне, дзякуй богу, ёсць каго спаткаць,
мне, дзякуй богу, ёсць над чым
паплакаць...
Стрыечную прашу ручнік саткаць,
перабіраны, у лісты і лапы.
Прашу другую хлеба напячы,
таксама на лістах, на парудзелых...
З дарункам-торбай на тугім плячы
няцяжка па прасёлках пацяснелых.
Я вырасла на іх, таму цяпер
куды лягчэй дарога хоць якая, —
пад бліскавіцамі, пад цветам бэр
і тая, дзе нікога не спаткаю...

### СЫНКУ

Прыйдзе старасць сваёй баразной,
вочы высвеціць, зробіць сіվенькай...
Навучу цябе ўсмешцы сваёй,
мой сынок даражэнькі!

Мне не цяжка такому вучыць,
не хлапчына ў мяне, а пацешка,
і на вуснах святлом зіхаціць
сарамлівая, добрая ўсмешка.

Прыйдзе смерць за матуляй тваёй,
людзі добрыя пахаваюць...
Хай па ўсмешцы пазнаюць, што мой,
і цябе прывітаюць!..



## Людміла ЗАБАЛОЦКАЯ



Крыніца серабрыстая
Абудзіць успаміны.
Зялёныя, іскрыстыя
Убачу баравіны.
Прысніцца зрэдку возера,
Бяроза ў адзіноце,
І берагі пад лозамі,
І вецер хвалі коціць.
Успомню паўзабытае,
Што памяць захавала.
Вясёлкаю аблітае
Вясло маё упала...

## Таіса БОНДАР



### РАНІШНІ ЛЕС

Ціха. Стаіўшы дыханне,
Вецер абшарвае лес.
Быццам шукае ў тумане
След босых ног на траве.

Белым, густым сырадоем
Неба цячэ ў далячынь.
Пахне дажджом.
Нібы дома...
Мне ж ад цябе не ўцячы.
Часу замнога мінула,
Дні я складаю ў гады.
Ды не расстацца з мінулым.
Твары.
Сябры.
Гарады.

## Алеся ДАВІДОЎСКАЯ



# НЕСПАДЗЯВАНАК



Апавяданне

КОЖНАЕ лета прыязджалі дзеці. І Ганна, шчаслівая, завіхалася каля іх. І калі старэйшы, Іван, казаў: «Ну, бацька, глядзіце, не крыўдзіце матулю нашу», — яна расчулена ўсплаквала. Не ад таго, што сварылася з Васілём, проста хваля цеплыні падгортвала да сэрца: «Абаронцы вы мае».

...Ганна ішла паўздоўж дарогі, каля выгана. Сёння дзень яе нараджэння. Сорак восем гадоў. Трыццаць з іх яна замужам. А ці праўда, што за мужам? Успаміны рэдка калі яе агортвалі, усё часу няма нават паўспамінаць. А сёння нейк успомнілася. Успомніла сябе маладзенькай. Не надта каб ужо такая прыгожая, але спрытная, здаровая была дзяўчом. Трыццаць гадоў назад сваталіся да яе два хлопцы: Іван Кулікоўскі і Васіль Мялежка. Ёй было ўсё роўна. Аднолькава падабаліся яны Ганне. Не вельмі каб любіла, але не такія ўжо нялюбыя былі... І пайшла за Васіля.

Спачатку не магла паверыць, што яна жонка, што цяпер у яе свая, хоць якая гаспадарка. Потым звыклася. Калі ў першы раз Васіль прыйшоў дадому п'яны, яна зразумела, што цяпер яна ўжо дарослая жанчына, і калі ён нешта мармытаў, і плакаў п'янымі слязьмі, Ганна адчула адказнасць за яго, і пачала думаць пра Васіля, як пра няўдалае дзіця сваё.

Так праз усё жыццё і пранесла яна гэтае пачуццё. Цяпер у яе дарослыя дзеці, а Васіль для яе так і застаўся няўдалышам-дзіцем.

Ганна спынілася, прысела збоч дарогі. Ламота пайшла па ўсім целе.

— Гады не тыя,—сказала яна ўголас. Ёй хацелася пасумаваць, успомніць, колькі слёз яна выплакала, хацелася пашкадаваць сябе, але думкі былі светлыя і сэрца ўздрыгвала ў прадчуванні нечага незвычайнага.

Раней, у маладыя гады, часта бывала з ёй такое. Асабліва ўвесну, калі зацвіталі вішні. Ганна ўставала ноччу, выходзіла на ганак, садзілася там. Ёй здавалася, што раніцай павінна адбыцца нешта незвычайнае. І так было, бадай, кожны вечар. Але праходзіла адна раніца, другая і нічога не адбывалася. Потым мінала вясна, і пачуццё тое прападала.

«Вось жыццё маё, як тая вясна. Прабегла і не запомніш... Што гэта я расселася? Мо хто з дзяцей прыехаў? Вольга павінна была...»

Нарадзілася Вольга гарачым жніўеньскім ранкам, якраз лён выбіралі. Там, у разоры і прынялі жанкі дзяўчынку, шостаю яна была. Маленькая, з цельца худзенькая, чырвоная. І казала бяздзетная Захарыха: «Ой, Ганна, усякія ў цябе ўжо дзеці ёсць, а гэтая лепш і не радзілася б». Ледзь не забіў тады Васіль Захарыху. Ён прыбег да Ганны, есці прынёс. Сам тады і аднёс дзяўчынку ў сваёй кашулі дадому. Любіў ён малых. Гуляў з імі, цацкі рабіў. А падрасталі дзеці, адыходзіў ад іх. А дзеці ў іх, дык дай бог другім такіх. Прыгожыя, адукаваныя. Хлопцы зусім ужо на нагах стаяць. Алёша з арміі вернецца, зусім добра будзе. А мо ў горад падацца захоча. Дома б яно лепш, але моладзь цяпер да вялікіх дамоў цягнецца.

Ганна ўжо збіралася ісці, як убачыла Зосю Таранаву, што ішла да сажалкі.

— Цётка Ганна, ваша Волька прыехала і мужыка прывезла. Кажуць, муж яе. Вяселле згуляем?

— Якога яшчэ мужыка?—Ганна разгублена азіралася.—Якога мужа?

— А хто ж яго ведае. Можа і неблагі. Толькі ж не надта малады і кульгае трохі.

— Божачка, што ж яна натварыла! Бяда, а не дачка. Хоць бы напісала. А то так. От, бач, і сон у руку,—прыпомнілася Ганне. Бачыла яна ў сне чырвоныя парэчкі,—якраз к слязам. Колькі іх было гэтых сноў-парэчак.

Ганна, падбіраючы зелле, хутка пайшла дадому.

У хаце, кадзьмуўшы бровы, сядзеў Васіль і разглядаў мужчыну, як здагадалася Ганна—зяця.

— Добры дзень,—кінула яна і пайшла да печы. «Гасподняя сіла, — думала Ганна, ставячы закусь на стол.—А ці нельга было знайсці лепшага? Такі ўжо з выгляду нягеглы, ды яшчэ трохі і кульгае. Дзе ж яна знайшла такога?»

І калі Вольга выйшла ў сенцы, Ганна барджэй кінулася ўслед.

— Дзе гэта ты, мая дачушка, адхапіла гэтае шчасце? Мо ў горадзе няма лепшага? Ці ты ўжо такая благая? Адукаваная, прыгожая. Вядома, была б разводная ці з дзіцем, а то

# ЯКІ ТЫ СЛЕД ПАКІНЕШ?..

Я кожны дзень чую яе імя, услухоўваюся ў расказы пра яе і стараюся ўявіць сабе, што за чалавек была Любоў Іванаўна Мазалеўская, што рабіла, калі што-небудзь не клеілася, «не ішла» рэпетыцыя, якія словы знаходзіла, каб аднаго суцешыць, другога ўзбударажыць...

Яна памёрла некалькі гадоў назад, але ў створаным ёю тэатры жыве яе думка, яе справа — яна зноў прысутнічае на рэпетыцыях, спектаклях, сходах.

Яна была са слаўнай кагорты майстроў. Без мітусні і пустаслоўя рабіла сваю неверагодна складаную работу. Яна не ўяўляла сябе без тэатра. Яна вучыла маладых любіць яго. Выхаванцы Любові Іванаўны сёння складаюць касцяк трупы тэатра юнага гледача. Гэта самыя розныя людзі, але ўсіх іх, мне здаецца, адрознівае строгая патрабавальнасць да сябе і іншых; пастаяннае імкненне да пошуку.

Заслужаны артыст БССР В. Лебедзеў успамінае: «У яе хацелася вучыцца. Яна будавала тэатр, як будуюць свой дом. Любоў Іванаўна была нам маці: у яе ў кватэры мы жылі, калі не было дзе жыць, у яе пазычалі грошы на абед, на чаравікі. Яна была шчодрым чалавекам, але не патурала нам. І заўсёды была справядлівая».

Як і ў кожнага рэжысёра, у Любові Іванаўны былі і свае любімыя вучні. Аднак ад любімых яна больш за ўсё патрабавала новых і новых крокаў на вяршыні сапраўднага майстэрства.

З удзячнасцю ўспамінаюць яе вучні, як яна ўмела разгледзець у людзях тое, што яшчэ не было прызваннем, але ўжо давала першыя парасткі. Так, былому акцёру С. Пятровічу яна падказала шлях у тэатразнаўства, артысту І. Дабралюбаву — у кінарэжысуру, а потым, вельмі занятая тэатрам, сама здымалася ў яго фільме... Кожны вечар яна глядзела спектаклі — свае і іншых рэжысёраў — і кожны раз знаходзіла сло-

дзяўчына маладая. Няўжо лепшага не магла знайсці?

— Мамачка,—Вольга прытулілася да маці.—Мы ж любім адно аднаго. Радзік вельмі харошы і добры.

— Во, во, нават імя не маглі людскае даць. Адкуль хоць ён, хто бацькі?

— Потым, усё потым, хадземце ў хату.

Ганна яшчэ трохі пабразгала чугунамі ў сенцах, змахнула слязу і ўвайшла ў хату. Васіль чарку, другую ўжо кінуў і, павесялеўшы, дапытваў Вольчынага мужа.

— Як гэта вы пажаніліся? А вяселле? Мы не горшыя за другіх. Дзякуй богу, ёсць за што і вяселле справіць.

Вольга спыняла яго п'яную гаворку і шчасліва ўсміхаючыся, адказала:

— Якое там вяселле? Мы заўтра ўвечары ад'язджаем.

Ганна схамянулася.

— Як ад'язджаеце? А адпачынак твой? Ці блага пабыць дома? Хоць калі не вяселле, дык вечар які. Паўсяла сваякоў, а яна—ад'язджаем.

— Мамачка, Радзіка накіравалі на работу ў Салігорск, трэба ехаць. Гэта ж тут, побач. Мы будзем да вас прыязджаць. У Радзіка нага зажыве, а то ён пасля аперацыі. Уладкуемся на месцы, вы да нас прыедзеце. І бацька хай прыязджае.

— З тваім бацькам паедзеш, — Ганна хацела яшчэ нешта дадаць, але пасаромелася чужога чалавека. Сама сабе падумала: «Паедзеш — бяды не абярэшся. Аднойчы з'ездзіла з ім у Мінск, да Юрася, дык Васіль так набраўся, што тры дні з ложку не ўставаў. Хай лепш дома сядзіць. Усе яго тут ведаюць. А горад вялікі, паспрабуй, дакажы каму, што не такі ўжо ён п'яніца. Адзін раз убачаць і пайшлі размовы».

Вольга супакойвала маці, а самой хацелася заплакаць. Яна ціхенька выйшла на ганак. На вуліцы было цёмна, і зоркі, вялікія, бліскучыя, ўспыхвалі на чорным небе. Здавалася, тая ці другая ўпадзе і схаваецца ў мяккай роснай траве. Колькі ездзіла Вольга, але такіх вялікіх зорак, як над яе хатай, не бачыла нідзе.

Вольга падышла да брамы. На тым баку чулася песня:

Ой, я п'яна, я п'яна,
Не пайду дамоў рана
Абняла мяне цёмна
ночанька
Ля вішнёвага сада.

Мужчынскія галасы працягвалі:

Не пайду дамоў рана,
А пайду да Івана.

Мабыць, провады. Хлопцы ў армію ідуць.

Чуўся смех. Галасы. Найбольш— маладыя.

Вольга пастаяла каля брамы і збіралася ўжо ісці ў хату, як да яе падышла цётка Ліза, маці Міколы Сімакова. Калісьці Вольга трохі гуляла з ім.

— Што, Волечка, прыехала, прыехала, прыгажуня?—прашчабятала цётка Ліза.—Але ж схуднела, ад чаго б гэта так? Дзіва ж, у горадзе хоць і белы хлеб, але не матчын. Чула, ты мужа прывезла. Дык пакажы свайго любага,—у голасе цёткі адчувалася насмешка.—Зайшла б да мяне, ці па сялу прайшлася б, як людзі робяць. А вяселле будзе?

— Было, цётка Ліза. Мы ж не надоўга прыехалі.

— Мікола пісьмо прыслаў. Цябе ўспамінае. Ці так, мая Волечка, робяць? На што табе гэты чужы? Хто яго ведае? А тут з дзяцінства знаёмыя. І ўсе нас ведаюць, і бацькоў, і дзядоў. Ніхто слова дрэннага не скажа. А чым для цябе Мікола благі? Ужо два гады як навуку скончыў, робіць начальнікам на вялікім заводзе. Кватэра ёсць. Усё ёсць, толькі жонкі няма ды дзетак. А якое шчасце без дзетак? Ды як гэта ты? Гулялі, гулялі, а замуж за другога? Цяпер свет перавярнуўся. Ты паслухай мяне. Я, бадай, паўсвета ужо аблётала. Такога набачылася, барані божа! Была ў Зіны сваёй, у Адэсе. Мора там якое! А людзей яшчэ больш. Палец не ўторкнеш. Так суседзі ў маёй Зіны маладыя: як пачнуць сварыцца, здаецца, лыжку падзялілі б на дзве часткі. Яшчэ не тое, жонка як пачне яго біць, то не дай божа. Мо цяпер мужыкі выveліся? Раней, бывала, счарніць мужык, а ты слова не скажаш, зашыешся ў куток і сядзіш, пакуль злосць не выплачаш. А цяпер жонкі мужыкоў б'юць. Бо надта гэтых жонак распусцілі. Ды што браць гарадскіх! Нашыя вунь панашывалі сабе купальнікаў ды штаноў, сораму не прыкрыеш—і бултыхаюцца ў нядзелю з раніцы ў сажалцы. І хлопцы тут побач. Дзе ж гэта бачна? А яшчэ я табе скажу...

— Кожнаму сваё,—перапыніла яе Вольга.

— Яно-та сваё, але дзеці яны нашыя.

— Я пайду, цётка, а то шукаць пачнуць.

— А ты, каб не шукалі, мяне ў хату запрасі. З мужам пазнаёміш. Клічуць яго як?

— Радзій,—адказала Вольга.

— Дачка, дзе ты?—пачуўся бацькаў голас.

— Іду... Пойдзем і праўда ў хату, цётка Ліза.

У хаце Ганна ўжо больш лагодна гаварыла з зяцем і адчувалася, што ён стаў ёй падабацца.

Радзік расказваў пра дзіцячы дом, дзе ён вырас. Бацькі яго загінулі ў вайну і ён нават іх не памятае. Яго падабрала на чыгуначным прыпынку Ніна Міхайлаўна, выхавацелька дзіцячага дома. Нават імя яму сама дала. Адзін год яму тады быў. Усынавіла яго хлопчыка. Толькі калі скончыў інстытут, Ніна Міхайлаўна расказала яму аб гэтым. Спачатку Радзік нават не паверыў, бо нават знешне ён быў падобны на бялявую хударлявую Ніну Міхайлаўну. Але навіну выслухаў спакойна. Усё роўна яна засталася мамай і самым родным чалавекам для яго. Вывучыла, выхавала. Пасля інстытута Радзій застаўся працаваць у Мінску. Месяцы з тры таму назад папаў у аўтамабільную катастрофу і месяц праваляўся ў бальніцы. Там і пазнаёміўся з Вольгай, яна працавала ўрачом.

— Як кажуць, не было шчасця, ды няшчасце памагло,—усміхнуўся Радзік.

— Такое часта бывае. Але вось, скажыце, цуд які. Ну, падабенства з нянароднай маці.—Цётка Ліза дачакалася свайго часу і пачала лапатаць.— Чуеце, Інка Юзікава ізноў да Косціка вярнулася. Казалі, ужо так прасілася, што аж Косцік заплакаў, — і каб было больш зразумела для Вольчынага мужа, яна растлумачыла:— Іна—дачка майго стрыечнага брата, яны тут побач жывуць. Дык выйшла Іна замуж за Косціка Бузукова з Новага Двара. Каб надта хацела ісці, так не, маладая яшчэ была, ды Юзік баяўся, каб у дзеўках не засталася. Ну дык пажаніліся яны, праўда, прыжылі двух дзетак. Хлапчукі, лепш не

[Заканчэнне на 11-й стар.].

АКЦЁРЫ І РОЛІ

# КРЫШТАЛІЗАЦЫЯ ХАРАКТАРУ

*Актрыса Рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага Э. Аўчыннікава ў спектаклі «Узрост расплаты»*



Э. Аўчыннікава ў спектаклі «Узрост расплаты».

**Яна многа і часта выступала ў ролях наіўных дзяўчат, якія ў адных жыццёвых бурах адразу ж сталелі і ўзнімаліся на ступень сталага характару, а ў іншых толькі адкрывалі вочы на нечаканую складанасць свету і людскіх узаемаадносін. Пра гэтую актрысу гаворыць глядач, аддаючы даніну пашаны ёй за агністы тэмперамент і поўную паглыбленасць у ролю, якую яна іграе сёння ўвечары. І ўсё ж ёсць у яе і менш, і больш значныя акцёрскія работы нават па ўзроўні выканання. Для нас самай цікавай у цяперашнім рэпертуары Элы Аўчыннікавай стала Ленка Волкава.**

**Гэтая юная журналістачка цвёрда засвоіла, што цяпер на двары ўжо не дзевятнаццатае стагоддзе і што, значыць, жанчыне няма чаго саромецца. У першых сцэнах спектакля яна так стараецца «закадрыць» свайго куміра — папулярнага фельетаніста Ягора Каралёва і так проста, без «тургенеўскіх сантыментаў», ідзе да яго на кватэру, што яе прыналежнасць да тыпу «чувіх» не выклікае сумнення.**

**Дамоў да Каралёва яна прыходзіць а другой гадзіне ночы і амаль адразу ж, пасля двух-трох нязначных слоў, звоніць другому мужчыну. Гаворыць, што прыедзе раніцай, што не паспела на апошні аўтобус і цяпер начуе ў сяброўкі.**

**«Цалую, мілы», — абрывае яна тэлефонную размову і звяртаецца да Каралёва: «Гэта мой жаніх. Пастаў будзільнік хоць бы на восем». Гэта раптоўная дзелавітасць гучыць так бездапаможна, што ад сораму і злосці на сваю збянтэжанасць Ленка паспешліва, занадта паспешліва пачынае расшпільваць кофтачку. Толькі цяпер мы разумеем, у чым справа. Ленцы важна паказаць, што яна тут не проста з капрызу і што яна ў той жа час ніколечкі не «прэтэндуе» на Каралёва.**

**«Кароль фельетона» зусім не ханжа, інакш бы Ленкі тут не было. Ён «дазволіў» сабе Ленку таму, што палічыў яе такой жа вольнай ад пачуццяў і сардэчных абавязкаў, як і ён сам. (На няшчасце, свабоднай. Але тут ужо нічога не зробіш). Ён прымаў прапанаваныя ёю ў гэты вечар правілы гульні.**

**«Ідзі прэч!» — гаворыць ён ёй, як толькі яна парушае маўклівую змову.**

**Такая аплявуха, пасля якой жанчыне, нават не з самалюбівых, лепш было б пайсці. Але яна застаецца. Яна не ідзе і пасля таго, як атрымлівае поўны набор знявагі: «каціся адсюль», «ты не жанчына», «дам табе грошай на таксі», «адлупцую» і г. д. Яна не ідзе перш за ўсё таму, што спалохалася: няўжо Каралёў успрыняў яе «манеўры» як пастку, у якую яна хоча яго злавіць, або наадварот—яна здалася яму дзяўчынай, даступнай для многіх? Можа ён проста «ханжа?» Але ў гэта паверыць цяжка. Цяпер ужо і зняважанае самалюбства, прыніжаная чалавечая годнасць, у сваю чаргу, не даюць ёй пайсці.**

**Каралёў аддаў ёй тахту і ўладкаваўся на ноч у крэсла...**

**Ніякай яснасці ў іх узаемаадносінах, аднак, няма. Раніцай іх размова працягваецца, але зноў жа дыялог як двух глухіх. З першых жа слоў Ленка спрабуе пераступіць цераз тое, што было ўчора, і пачаць чалавечую размову: «А здорава ты на мяне ўчора накрычаў. Я нават спалохалася». Яна стараецца неяк запоўніць паўзу, таму што маўчанне пакутліва для яе. Але гэтыя словы так гучаць у Аўчыннікавай, што мы адчуваем у іх жаночую, і проста чалавечую вялікадушнасць: адчуванне, што ўчора Каралёў прынізіў сябе, жаданне дапамагчы яму зноў узвысіцца... Але не такі «кароль фельетона» — ён працягвае ўчарашняе: «Што ты за чалавек?» — «Просты савецкі чалавек» — у словах Ленкі і выклік, бравада, і крыўда таксама.**

**— І чаго ж ты хочаш?**

**— Сур'ёзна?.. Быць сапраўдным журналістам... Для пачатку такім, як ты.**

**Ленка зусім не лічыць вартым ахвяр, спадзяванняў і расчараванняў «усё астатняе» жыццё, яна яшчэ вагаецца: а ці не прыкмета гэта бабы, квактухі, дурнічкі — быць сур'ёзнай у пачуцці? Але не ўсур'ёз ставіцца да свай работы для Ленкі ганебна ўжо зараз. І потым быць вернай прафесіі — для яе азначае яшчэ і заваяваць сваё права на павагу і менавіта ад Каралёва.**

**— Жаніха свайго ты любіш? — для Каралёва маўчанне разам — таксама блізкасць, нават думка аб якой непрыемная яму... Але і гаварыць з гэтай жанчынай аб сваёй прафесіі няма ахвоты.**

**— Добры хлопец, — адказвае Ленка.**

**Поза Аўчыннікавай амаль не мяняецца, але ў Ленкінай паўаўтаматычнай «лёгкадумнасці» праступае нешта ад даўняга смутку, які і смуткам перастаў ужо быць...**

**— Калі вы пажэніцеся?**

**— Напэўна, увосень. А можа зімой. Зімой яму кватэру дадуць, — Ленцы ўсё-такі ўдаецца знайсці ў сабе гэтую лёгкасць тону, гэткае «а што тут раздумваць»... Толькі вусны ў яе пры гэтым ледзь-ледзь уздрыгваюць... А ён першы раз павышае голас:**

**— А якое месца ва ўсім гэтым павінен займаць я?..**

**Яна сядзіць на тахце, падкурчыўшы ногі... так, быццам яна зараз дома, а Каралёў прыйшоў у госці да яе.**

**— Гошка, ты дурань. Няўжо ты нічога не разумееш? Я ж магу закахацца ў цябе, як дурная.**

**Так гавораць толькі з вельмі блізкім чалавекам, вельмі прывычным сябрам, якому можна даверыць усё. І раптам мы разумеем: толькі што ў нас на вачах нараджалася і вось зараз нарадзілася каханне. Боль жа ад таго, што цябе не разумее Самы Галоўны Чалавек, што ён і не хоча разумець, робіць абавязковым і гэтыя словы, і немагчымую, здавалася б, тут ціхую і шчырую даверлівасць. Так яна адкрывае сэрца.**

**— Хочаш, я нікуды не паеду?..**

**Аўчыннікава не просіць, не скардзіцца. Яе Ленка, нягледзячы ні на што, без неўрастэнічнай прыўзнятасці, без палохаючай жаночай «ахвярнасці» прапануе сябе, сваё «я». Назаўсёды — і для сябе і для Каралёва. У гэту хвіліну мы і разумеем, што тып «чувіхі» — як, між іншым, і ўсялякі тып» — быў заўсёды ахоўнаю абалонкай для яе асобы, якая яшчэ не нарадзілася. Актрыса не толькі дае нам убачыць за «тыпам» характар. Яна і раскрывае, як няпроста адбываецца КРЫШТАЛІЗАЦЫЯ асобы, якім каталізатарам чалавека становіцца яго імкненне да ўзаемнага кахання, хоць бы прыхільнасці. А наперадзе яшчэ цэлыя два акты... Калі вам хочацца паглядзець, якое зло (і дабро таксама) творыць з душою неразуменне і непрынятце самых блізкіх і зусім нядрэнных людзей, схадзіце на спектакль «Узрост расплаты» з Ленкай Волкавай — Элай Аўчыннікавай.**

**Г. ТРЭСТМАН,**
**К. ХАДЗЕЕЎ.**

вы, якія давалі сілы, усялялі веру, акрылялі. Іншы раз гэта былі словы трывогі за лёс акцёра. І гэтых слоў чакалі, у гэтыя словы верылі, таму што не памяталі выпадку, каб у іх быў фальш, няшчырасць. Мабыць, цяперашні акцёр купалаўскай трупы П. Дубашынскі і дагэтуль кіруецца яе парадамі, мудрымі і дакладнымі.

У канцы кожнага сезона яна збірала трупу і разбірала, як кажуць, «па костачках» акцёрскія работы. І тут яна зыходзіла з меркаванняў вышэйшага парадку: яе крытыка парушала страшны ў мастацтве «спакой» вядучых выканаўцаў і тых, хто пакуль што «выходзіў у эпізодах».

На сцэне нашага тэатра многа гадоў запар іграюць спектакль па п'есе І. Козела «Папараць-кветка», пастаўлены заслужаным дзеячам мастацтваў БССР Л. Мазалеўскай. Гэтага своеасаблівага драматурга адкрыла для тэатра Любоў Іванаўна. Заслужаная артыстка БССР Р. Маленчанка ўспамінае: «Іван Козел прынёс у тэатр тонкі спісаны сшытак. Любоў Іванаўна ўбачыла ў аўтары здольнага чалавека з праніклівым розумам. Яна шмат



**Л. Мазалеўская і І. Шамякін сярод артыстаў тэатра юнага гледача ў час работы над спектаклем «Не верце цішыні».**

у чым дапамагла яму добрымі парадамі. Спектакль стаў вяхой у гісторыі тэатра. На аглядзе дзіцячых тэатраў у Маскве ён быў адзначаны дыпломам І ступені».

Я гляджу сёння гэты спектакль, пастаўлены ў лепшых традыцыях беларускага нацыянальнага мастацтва. Ён мне вельмі дарагі непаўторным хараством запаветнай у мастацтве праўды. У ім адчуваецца сапраўднае жыццё, не затуманенае рэжысёрскім штукарствам і моднымі навацыямі. Жыццё паўнагучнае, маляўнічае, якое прыцягвае да сябе ўвагу і сэрца гледача. У ім— глыбокая прастата і яснасць, дадзёныя праз прызму мастацкага ўспрыняцця чалавека і свету.

Мастак І. Пешкур успамінае, як яны з Л. Мазалеўскай працавалі над гэтым спектаклем. Правобразамі герояў п'есы былі аднавяскоўцы І. Козела. Каб пазнаёміцца з іх побытам, звычкамі, песнямі, мастак і рэжысёр паехалі ў гэта сяло, узяўшы з сабой мальберт і магнітафон. Цэлымі днямі слухалі, запісвалі, рабілі замалёўкі. І як дабратворна адбілася на спектаклі гэта сур'ёзная, карпатлівая работа пастаноўшчыка!

Працуючы над спектаклем па п'есе В. Вольскага «Несцерка», мы па драбніцах збіралі з акцёрамі рысы характараў будучых герояў, вывучалі абстаноўку і атмасферу, у якой яны жылі. Даволі часта спыняліся перад, здавалася, непераадольнымі цяжкасцямі... І адразу акцёры задумваліся: а што б сказала Любоў Іванаўна? І, здаралася, гэта падказвала нам ключ да разумення матываў паводзін героя, да «адкрыцця» нечага істотнага ў сцэне...

Яе партрэт вісіць у фае тэатра: злёгку адкінута назад гордая сівая галава, упарты падбародак, валявы лоб. Яе вучні не раз з гордасцю расказвалі мне яе біяграфію; яна была з інтэлігентнай сям'і, пайшла ў рэвалюцыю, вучыла салдат. Першая роля ў тэатры — Любоў Яравая — з'явілася ў значнай ступені адлюстраваннем і яе асабістага жыцця.

...Я ніколі не бачыла Любові Іванаўны ў жыцці, і тое, што цяпер ведаю пра яе, тое, што данесла да мяне вельмі жывая ўдзячная чалавечая памяць, і ёсць, на мой погляд, адказ на пытанне: што пакідае таленавіты чалавек людзям.

**Галіна КАНДРАШОВА,**
**рэжысёр.**

*НАВІНКІ КНІЖНАЙ ГРАФІКІ*










**Вокладка і ілюстрацыі П. Калініна да кнігі З. Васкрасенскай «Раніца». Выдавецтва «Беларусь».**

# ПЕРШЫ ТЭАТР. ЛЕТАПІС

НЕ ТАК ДАЎНО прашумеў залаты юбілей Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Было многа цёплых, узнёслых віншаванняў. Былі працяглыя, гучныя воплескі. Але ўрачыстае свята мінула, і рэха тых апладысментаў паступова аціхае. Калекцыяніруюцца, афармляюцца ў падшыўкі, заносяцца ў бібліяграфічныя карткі юбілейныя артыкулы і нататкі. Неўзабаве ўсё гэта стане гісторыяй — пяцідзесяцігадовы шлях, слаўны, вельмі памятны шлях, ужо адмераны. Лісткі календара адлічваюць наступныя дні, і ў тэатра сёння новыя клопаты і задачы. Новыя яны і ў яго гледачоў.

А на стале—кніжка У. Няфёда «Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы». Яна — аб гэтым непасрэдна сведчыць і сам загаловак — пра наш вядучы, правафланговы калектыў, пра тэатр імя Янкі Купалы. Кніга выйшла якраз да юбілею тэатра.

**Па даўняй звычцы заведзена на юбілеях гаварыць крыху ўзвышана і ўрачыста, гаварыць прыемнае, прыгадваць толькі добрае. Гэта мы ў артыкулах, у розных выступленнях робім з вялікай ахвотай. Але жыццё ёсць жыццё, і ў ім бывае ўсялякае — побач з добрым часам крочыць і благое. На апошняе ў дні юбілеяў у нас найчасцей забываюцца, і таму выступленні, нягледзячы на шчырасць і вельмі праніклівы тон, здараецца, грашаць аднабаковасцю ацэнак.**

Адгортваючы першыя старонкі кнігі Уладзіміра Няфёда, думаеш менавіта пра гэта. Ці не паддаўся ён вось такой прыемнай — добрае ж заўсёды гаварыць і лягчэй, і больш прыемна — спакусе? Як-ніяк, праца ж «Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы» рыхтавалася і выдавалася да ўрачыстай даты. І калі Няфёд паддаўся б такой спакусе, яго кніга, мабыць, асабліва паграшыла б супраць ісціны. Справа ў тым, што купалаўскі тэатр, наш славуты, выдатны тэатр, меў не толькі багатыя здабыткі, пра якія ведаюць, якімі захапляліся і ў нас, і далёка за межамі Беларусі. Яго дарога была далёка не роўнай —калектыву не раз даводзілася перажываць горыч паражэнняў і няўдач — і гэта таксама ведаюць і памятаюць многія.

Гартаю, перачытваю першыя старонкі «Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы». Не, у кніжцы няма таго патэтычна-хрэстаматыйнага, пафаснага тону, на які звычайна настройваюць розныя юбілейныя ўрачыстасці.

У. Няфёд. «Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы». Выдавецтва «Беларусь». Мінск. 1970 год.

Спакойна, разважна пачынае расказваць Уладзімір Няфёд пра гісторыю тэатра — пра яго ўзнікненне, пра нялёгкую дарогу. Пра першыя радасці і сур'ёзныя цяжкасці, пра тыя праблемы, якія паўставалі перад маладым калектывам, якія трэба было неадкладна вырашаць, каб ісці далей, наперад.

Так, у кнізе гаворыцца пра ўсё — і пра поспехі, і пра няўдачы. Гаворыцца спакойным тонам. Іншы раз можа нават залішне спакойным, і хацелася б большай эмацыянальнасці, большай унутранай усхваляванасці, асабліва ад тых старонак, дзе расказваецца пра лепшыя дасягненні купалаўскага калектыву.

Але разам з тым нельга адмовіць аўтару ў добрай разважлівасці і дзелавітасці, менавіта ў тых вельмі станоўчых якасцях, якімі характарызуецца кніжка. Удумліва даследуе Уладзімір Няфёд гісторыю тэатра. Тэатральны сезон за сезонам, год за годам.

**Адна за адной прабягаюць у кнізе даты: 1920—1925, 1926—1930, 1931 — 1934, 1935 — 1941, 1941—1945, 1946—1953, 1954—1961, 1962—1965, 1965—1969. Сам храналагічны падзел на такія прамежкі часу яшчэ не з'яўляецца бездакорным, наконт гэтага можна было б з аўтарам спрачацца. Але, відаць, ён і сам не лічыць такі падзел ісцінай у апошняй інстанцыі (яе яшчэ трэба здабываць, устанаўліваць!), проста зрабіў гэта для большай зручнасці выкладання матэрыялу.**

Зрэшты, чытаючы кніжку Няфёда, не асабліва і звяртаеш увагу на падзел гісторыі купалаўскага тэатра па перыядах. І гэта невыпадкова, бо ў даследаванні няма «разрываў» на храналагічныя даты, «Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы» — гэта непарыўная, калі можна так сказаць, суцэльная гісторыя творчага калектыву. Старанна прасочвае аўтар яго работу, яго здабыткі і недахопы, буйныя адкрыцці і відавочныя паражэнні — менавіта год за годам, тэатральны сезон за сезонам.

А за датамі — іх шмат у кніжцы Уладзіміра Няфёда— паўстаюць самі спектаклі, паўстаюць людзі, якія ў розныя гады іх стваралі. Ужо на першых старонках мы сустракаемся з Фларыянам Ждановічам, заснавальнікам і першым кіраўніком купалаўскага тэатра, знаёмімся з яго творчай біяграфіяй і творчымі прынцыпамі. Крыху пазней — новае знаёмства, на гэты раз з Еўсцігнеем Міровічам, які пасля Ждановіча ўзначаліў тэатр і павёў яго ў далёкую, творча вельмі цікавую дарогу. Сустракаемся і з акцёрамі — Генрыхам Грыгонісам, і Кацярынай Міронавай, Уладзімірам Крыловічам і Барысам Платонавым, Уладзімірам Уладамірскім і Ірынай Ждановіч, Лідзіяй Ржэцкай і Вольгай Галінай, Глебам Глебавым і Леанідам Рахленкам, Верай Пола і Уладзімірам Дзядзюшкам...

**Так, у кнізе мы сустракаем мноства імён, назваў спектакляў, якія ставіліся на сцэне. Іншы раз думаецца, што аўтар дзесьці нават злоўжывае гэтым, занадта перагружае сваю работу фактычным матэрыялам, які можна было б прасяваць праз больш тонкае сіта гісторыі. Разам з тым нельга не адзначыць вялікую любоў даследчыка да ўсіх, здавалася б, часам не такіх і важных фактаў тэатральнай гісторыі, многія з якіх ён здабываў з поўнай творчай аддачай і нават самаахвярнасцю. І гэта выклікае павагу.**

**Да беларускай тэатральнай гісторыі, у тым ліку і да гісторыі купалаўцаў, Уладзімір Няфёд звяртаўся ў сваіх шматлікіх працах ужо не раз. У новай кніжцы ён пашырае і ўзбагачае свае назіранні і высновы, сям-там удакладняе свае мінулыя ацэнкі, а часам і перагледае іх. І тут няма нічога дзіўнага ці ненатуральнага. Беларуская навука пра тэатр калектыўнымі намаганнямі развіваецца, і тое, што ўчора яшчэ было мала вядомым ці невядомым зусім, сёння высвятляецца і становіцца здабыткам не толькі адных спецыялістаў. Кнігу «Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы» Няфёд напісаў якраз з пазіцый цяперашняга часу, яна грунтуецца на сённяшніх здабытках нашага тэатразнаўства, здабытках, дасягнутых і іншымі даследчыкамі, і перш за ўсё сваімі сіламі.**

Новае даследаванне Уладзіміра Няфёда, вядома, не закрывае саму тэму, пра купалаўскі тэатр і купалаўцаў яшчэ не раз будуць пісаць тэатразнаўцы, падыходзячы з самых розных аспектаў. Гісторыя тэатра з часам будзе яшчэ больш узбагачацца і паглыбляцца, а тое-сёе, магчыма, пераглядацца і пераацэньвацца. Працэс заканамерны!

Не з усімі сцвярджэннямі аўтара кніжкі «Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы» хочацца пагаджацца і цяпер, прынамсі, некаторыя з іх можна было б аспрэчваць. Што ж, гэта таксама заканамерна, спрэчак, як вядома, не выклікаюць толькі прапісныя ісціны...

**Анатоль САБАЛЕЎСКІ.**

*НАВІНКІ КНІЖНАЙ ГРАФІКІ*









**Малюнкі В. Шаранговіча да кнігі Ул. Карпава «Сотая маладосць». Выдавецтва «Беларусь».**

# КАРЫСНЫ ПАЧАТАК

Гісторыя бібліятэчнай справы Беларусі з'яўляецца састаўной часткай яе нацыянальнай культуры. Аднак да гэтага часу яна належным чынам не даследавана. Вось чаму выклікае цікавасць кожная работа, прысвечаная асобным храналагічным перыядам або асобным пытанням гэтай вялікай тэмы. Такой работай уяўляецца нам зборнік «З гісторыі кнігі, бібліятэчнай справы і бібліяграфіі ў Беларусі», выдадзены Акадэміяй навук БССР.

Зборнік адкрываецца артыкулам Л. Раўнаполец «Распаўсюджанне твораў У. І. Леніна ў легальных і нелегальных бібліятэках Беларусі ў перыяд рэакцыі і ў гады новага рэвалюцыйнага ўздыму». Аўтар артыкула не абмежаваўся вядомымі крыніцамі, выкарыстаў цікавыя архіўныя матэрыялы. Такі ж сур'ёзны падыход да ленінскай спадчыны характэрны і для другога артыкула Раўнаполец—«Яркі ленінскі напрамак», дзе вядзецца гаворка пра ленінскія работы на старонках «Звязды» ў перыяд падрыхтоўкі і правядзення Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Гэты, другі артыкул, як бы працягвае распрацоўваць тэму распаўсюджання твораў У. І. Леніна ў Беларусі. Вывучэнне гэтай тэмы важна не толькі для гісторыі, але і для бібліяграфіі. Вядома, што да сучаснага моманту не складзена бібліяграфія работ У. І. Леніна, надрукаваных на старонках беларускіх перыядычных выданняў.

Цікавы артыкул Л. Збралевіч «Бібліяграфія ў працах Я. Ф. Карскага». Акадэмік Я. Карскі, займаючыся вывучэннем беларускай мовы і літаратуры, многа зрабіў для складання бібліяграфіі беларускіх кніг і літаратуры пра Беларусь. Яго бібліяграфічныя работы не страцілі свайго значэння і цяпер. Добра, што Збралевіч творча падышла да даследавання тэмы. Яна пераканаўча паказала насычанасць бібліяграфічнымі матэрыяламі такіх буйных работ вучонага, як шматтомнае выданне «Беларусы», «Славянская кірылаўская палеаграфія» і інш.

Між тым, з некаторымі палажэннямі аўтара наўрад ці можна пагадзіцца, асабліва там, дзе гаворыцца, што ў першым томе, другім і трэцім выпуску трэцяга тома «Беларусаў» улічаны ўсе матэрыялы, напісаныя і апублікаваныя папярэднікамі ў галіне гістарычнага і этнаграфічнага вывучэння беларускага народа. Апрача бібліяграфіі літаратуры па этнаграфіі і гісторыі Беларусі ў працы «Беларусы» ўлічаны старадрукаваныя беларускія кнігі XVI—XVII стагоддзяў і толькі часткова беларуская літаратура XIX стагоддзя. Аўтар не дае аналізу IX раздзела «Ненародныя творы на сучаснай беларускай мове» першага тома «Беларусаў», які ўяўляе сабой бібліяграфічны агляд беларускай літаратуры 30—60 гадоў XIX стагоддзя. А гэта вельмі важна было б зрабіць, таму што Я. Карскі, па сутнасці, першы з беларускіх вучоных апісаў беларускія выданні XIX стагоддзя.

Малавывучанай тэме прысвечаны другі артыкул Л. Збралевіч—«Мясцовыя выданні Беларусі і некаторыя пытанні іх вывучэння», дзе падрабязна ахарактарызавана крыніцазнаўчае значэнне «Губернских ведомостей», «Памятных книжек», якія выходзілі ў беларускіх губернях. Крыху фрагментарна гаворыцца аб іншых выданнях-аглядах статыстычных камітэтаў. У артыкуле зусім правільна вылучаецца задача стварэння бібліяграфіі мясцовых выданняў БССР.

У зборніку апублікаваны чатыры артыкулы па гісторыі бібліятэкі Акадэміі навук БССР і перспектывах яе развіцця. Праблемным з'яўляецца артыкул дырэктара бібліятэкі М. Стрыжонка «Інфармацыйнае абслугоўванне вучоных АН БССР».

У артыкуле А. Васілеўскай спрэчным здаецца храналагічная дата пачатку бібліяграфічнай дзейнасці бібліятэкі АН БССР. Бібліятэка Інбелкульта пачала складаць краязнаўчую картатэку яшчэ ў 1926 годзе, а гэта таксама бібліяграфічная работа. Варта было б сказаць і пра выданні бібліяграфічнай камісіі Інбелкульта.

Ініцыятыва бібліятэкі АН БССР, якая выпусціла зборнік, заслугоўвае адабрэння. Тым больш, што да гэтага часу работа па стварэнні гісторыі бібліятэчнай справы і бібліяграфіі ў рэспубліцы не набыла неабходнага размаху. У многіх абласных і навуковых бібліятэках не выкананы рэкамендацыі Міністэрства культуры БССР аб утварэнні груп або камісій, якія б збіралі і пісалі гісторыю бібліятэчнай справы ў абласцях.

Ад кіраўніцтва Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя Леніна, фундаментальнай бібліятэкі імя Якуба Коласа, бібліятэчнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута, ад іх зацікаўленасці і ініцыятывы залежыць распрацоўка гісторыі бібліятэчнай справы. Адных добрых пажаданняў недастаткова. Трэба стварыць найбольш спрыяльныя ўмовы ўдзельнікам аўтарскіх калектываў, прадастаўляць ім творчыя водпускі для работы, накіроўваць у навуковыя камандзіроўкі, дапамагаць у капіраванні дакументаў, матэрыялаў.

Па кожнай бібліятэцы трэба неадкладна сабраць і запісаць успаміны яе старэйшых супрацоўнікаў і чытачоў.

**В. ЛЯВОНЧЫКАЎ, С. АШАРОВІЧ.**

НА БЛАКІТНЫМ ЭКРАНЕ

# ПЕРАДАЧА, ЯКАЯ ПРЫНЕСЛА РАДАСЦЬ

МАБЫЦЬ, самыя дарагія для кожнай студыі тэлебачання пісьмы гледачоў, у якіх яны дзеляцца сваёй радасцю, дзякуюць за **эстэтычную** асалоду, калі, напрыклад, пішуць: «З вялікім задавальненнем глядзелі ўчарашнюю перадачу. Думаецца, што ваш новы цыкл стане адным з самых лепшых, самых цікавых... Дзякуем за цудоўныя сорак мінут, якія мы правялі перад тэлевізарам... Абмяркоўвалі вашу перадачу на рабоце. Прыйшлі да думкі, што пра такія перадачы трэба паведамляць загадзя, каб глядач не прапусціў ніводнай з іх... Такія перадачы пашыраюць даляглял, нібы нанова адкрываюць найвялікшы цуд свету — кнігу і тое, што за ёй...»

Прыведзеныя выказванні ўзяты з пісьмаў, атрыманых Віцебскай студыяй тэлебачання пасля чарговай перадачы з цыкла «Тэлевізійны клуб кнігалюбаў».

Што ж гэта за перадача, якая так узрушыла і рабочых завода радыёдэталяў, і настаўніцу, і пенсіянера, і студэнтаў медінстытута — усіх, хто даслаў на студыю поўныя ўдзячнасці і хвалявання лісты?

У той вечар, калі адбылася гэтая перадача, перад тэлевізійнай камерай сядзелі людзі розных прафесій: выкладчык педагагічнага інстытута В. Чысцякоў, бібліятэкар М. Брукаш, урач А. Ліпец, настаўніца В. Машканава, мастак Ф. Кузняцоў.

Кожны з іх прынёс у «Клуб кнігалюбаў» сваю любімую кнігу, да таго ж — з аўтографам пісьменніка, кожны расказаў пра сваю асабістую сустрэчу з аўтарам, гісторыю аўтографа на кнізе. І нібы ўвайшлі ў дом кожнага гледача пісьменнікі Карней Чукоўскі, Эмануіл Казакевіч, Ціхан Сёмушкін, паэтэса Ганна Ахматава, мастак Уладзімір Багаткін, аўтар «Людзей на балоце» Іван Мележ, разам з якім вучылася ў БДУ імя Леніна ўдзельніца перадачы.

Расказы суправаджаліся то ўрыўкам з кінафільма, то запісам жывога голасу аднаго з тых, пра каго ішла размова, то рэдкімі фотаздымкамі, — адным словам, выкарыстоўваўся ўвесь арсенал тэлевізійных сродкаў, якія складаюць так званую «спецыфіку тэлебачання».

Вось урач расказвае пра тыя некалькі гадзін, якія ён правёў ля ложка цяжка хворай Ахматавай, расказвае, як яна распытвала яго, чым ён цікавіцца, чым жыве, прыводзіць яе словы пра тое, як неабходна ў наш час авалодваць высокай культурай, яе словы аб духоўнасці, шырыні інтарэсаў і запатрабаванняў інтэлекту, расказвае, як яна чытала на французскай мове вершы Глорыі Гац'е... А на экране пачынае гучаць глыбокі і меладычны голас Ахматавай, слухаючы які ўспамінаеш пушкінскае — «прекрасное должно быть величавым»...

Ідзе расказ пра Карнея Чукоўскага, і мы бачым паштоўку, напісаную яго рукой, паштоўку, якая была адрасавана расказчыку, а з паштоўкі камера пераключаецца на славуты альбом малюнкаў і шаржаў «Чукокала», а вось ужо на экране і сам Карней Іванавіч — энергічны, нястомны, поўны гумару, дзіцячай непасрэднасці.

Фрагменты дакументальнай стужкі змяняюцца ўрыўкам з мастацкага фільма «Сэрца сябра» па аповесці Эм. Казакевіча. І пачынаецца размова пісьменніка, з якім пашчасціла сустракацца ўдзельніку перадачы, і перад намі паўстае жывы Казакевіч, вясёлы, высокі, пяшчотны і мужны чалавек, які мог гадзінамі чытаць вершы, спяваць, які быў заўсёды душой у кожнай кампаніі і такі ўпарты ў літаратурнай працы.

Але ні кінакадры, ні тыя ўрыўкі з твораў, якія чыталі артысты, ні рэдкія фотаздымкі **не засланілі** ў гэтай перадачы саміх яе ўдзельнікаў. Выступленні былі, бадай, галоўным «тэлевізійным прыёмам» перадачы, бо далёка не ўсе тэлевізійныя выяўленчыя сродкі могуць абудзіць у гледачоў адчуванне **асабістага** даверу, які з'яўляецца тады, калі мы слухаем жывога чалавека — таго, хто нешта і некага бачыў сваімі вачыма, чуў на свае вушы, успрыняў сэрцам і розумам. Гледачу хочацца, каб выступаючы гаварыў шчыра і зусім не абавязкова гладка. Яго хвалюе той пошук патрэбнага слова, які адбываецца, калі можна так сказаць, у яго на вачах... А іншыя тэлевізійныя сродкі гэтую размову толькі **падмацоўваюць,** нібы больш **аргументуюць** яе. Перадача, пра якую ідзе гаворка, тэлевізійная па сваёй сутнасці. Па-першае, людзям было пра што расказаць гледачу. А ў гэтым — зарука поспеху ўсякай перадачы. Форма падачы матэрыялу — у самой назве. Клуб—сустрэча людзей, аб'яднаных агульнымі інтарэсамі, адным захапленнем. Слова тэлевізійны таксама дарэчы. Але галоўнае — у пошуку цікавага чалавека, і такая сустрэча з цікавымі людзьмі адбылася ў той вечар на экранах. Якасць перадачы пачынаецца не са сцэнарыя, а яшчэ раней, з пошуку дзеючых асоб. Калі творчы калектыў, ці, як гавораць на студыі, брыгада, пачынае працу над перадачай з такога пошуку, так сказаць, ад карэння, тады і дрэва вырастае зялёнае. Тады на студыю прыходзяць удзячныя пісьмы.

Хочацца асобна сказаць пра пошук, які прыносіць плён. Вядома, што гэта самая адказная і нялёгкая праца для рэдакцыі і, калі творчы пошук —стыль работы, а не рэдкая госця, тады на экранах з'яўляюцца цікавыя цыклы, як, напрыклад, «Тут пачыналіся дарогі», «За старонкамі беларускай энцыклапедыі». Так, у рэдакцыі літаратурных перадач Віцебскай студыі адкрылі том энцыклапедыі на літару «А». Чытаюць: адзенне... акцёрскае майстэрства... Андрэеў... Ну, што б, здавалася, можна зрабіць для тэлебачання са слова «адзенне»? А віцябляне зрабілі! Яны павялі расказ пра народнае адзенне Віцебшчыны, паказалі цудоўны народны танец, які выконваецца ў нацыянальных касцюмах, па-новаму раскрылі само гэтае паняцце — «адзенне». А тыя некалькі радкоў, якія прысвечаны ў энцыклапедыі срэбраных спраў майстру Андрэеву, які нарадзіўся на Віцебшчыне, у Полацку, а пазней працаваў у Крамлі, леглі ў аснову паэтычнага расказа пра жыццё гэтага выдатнага чалавека.

Названыя перадачы ідуць на Віцебскім тэлебачанні штомесячна. Нам застаецца сказаць толькі, што рыхтуюць іх усяго два супрацоўнікі: рэдактар, паэт Давід Сімановіч і рэжысёр Уладзімір Латоўскі.

Можна пазайздросціць іх творчай энергіі, іх мастацкай выдумцы і пажадаць, каб невычэрпнай засталася іх фантазія і пошук.

**Р. БАКУНОВІЧ.**

*ЭКСПАНУЕЦЦА Ў «ЛІМе»*

# НЕПАСРЭДНАСЦЬ



**НА ГЭТЫ раз экспазіцыя твораў мастакоў у нашай рэдакцыі заняла два пакоі — Ірына Лобан і Віктар Кліменка паказалі свае першыя спробы ў графіцы і жывапісе.**

**Гаварыць пра іх жывапіс мы не будзем, пакольні вельмі слаба яшчэ прабіваюцца ў кампазіцыях маладых мастакоў свая тэма, свая інтанацыя, свой каларыт, сваё кампазіцыйнае мысленне.**

**А вось тое, што яны робяць у графіцы (пераважна—кніжнай) вартае ўвагі.**

**Ірына Лобан па-свойму, досыць арыгінальна ілюструе казку А. Уайльда «Дзень нараджэння Тэрэзы», раман М. Булгакава «Белая гвардыя». Гэта, бадай, пакуль што лепшыя яе работы, калі не лічыць афортаў «Нацюрморт», «Сон», лінагравюр «Натуршчыца», «Ленінградскія матывы», не настолькі самастойных, як ілюстрацыі. Вельмі ўважлівае прачытанне маладой мастачкаю літаратурных твораў, вострае ўспрыняццё іх эмацыянальнага свету дазваляе ёй ствараць непасрэдныя, прасякнутыя атмасферай першакрыніцы ілюстрацыі.**



**У ілюстрацыях да казкі — звонкі колер. Добрае разуменне ўзаемасувязі ілюстрацыі з белаю плоскасцю ліста, са шрыфтамі. А да булгакаўскага рамана ілюстрацыі — манахромныя, у меру абагуленыя і ў меру дэталізаваныя.**

**Гэтак жа тонка, як і Ірына Лобан, з досыць высокай прафесіянальнай культурай стварае Віктар Кліменка ілюстрацыі да Купалавай паэмы «Курган», да «Партрэта Дарыяна Грэя» А. Уайльда.**

**Глядзіш, напрыклад, яго лісты на тэмы «Кургана» і міжволі задумваешся: які ён ёмісты, свет Купалавай паэзіі, колькі дае магчымасцей для самага разнастайнага выяўленчага вытлумачэння!.. Малады мастак здолеў знайсці сваё месца ў гэтым вялізным свеце.**

**Ірына Лобан і Віктар Кліменка наведалі ленінскія мясціны ў Горках. Яны стварылі шэраг лінагравюр, прысвечаных гэтым мясцінам.**

**Абодва мастакі робяць першыя крокі ў творчасці. Яны ўжо былі ўдзельнікамі рэспубліканскай мастацкай выстаўкі. Працуюць Ірына і Віктар у адным з беларускіх выдавецтваў. І мы спадзяемся, што іх імёны яшчэ неаднаразова сустрэнуцца нашым чытачам і на мастацкіх выстаўках, і ў розных добра аформленых кнігах. А можа нават і пад арыгінальнымі творамі жывапісу.**

**Ул. БРЫГ.**

## У ВЯНОК ВЯЛІКАЙ ПЯСНЯРЦЫ

*ВЕЧАР, ПРЫСВЕЧАНЫ СТАГОДДЗЮ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЛЕСІ УКРАІНКІ*

Клуб Саюза пісьменнікаў Беларусі запоўнілі прадстаўнікі грамадскасці сталіцы—рабочыя, дзеячы літаратуры і мастацтва, студэнты. Яны прыйшлі, каб выказаць сваю глыбокую любоў і пашану пісьменніцы і чалавеку, жыццё і творчасць якой былі аддадзены барацьбе за свабоду і братэрства народаў.

Урачысты вечар адкрыў Пімен Панчанка. З усхваляваным словам пра Лесю Украінку—слаўную дачку братняга ўкраінскага народа—выступіў Хведар Жычка.

Новыя пераклады твораў Лесі Украінкі на беларускую мову прачыталі на вечары Эдзі Агняцвет, Мікола Аўрамчык, Юрка Гаўрук, Піліп Пестрак, Язэп Семяжон, Мікола Хведаровіч.

Вечар закончыўся канцэртам, у якім гучалі песні ўкраінскіх і беларускіх кампазітараў на тэксты паэтэсы, украінскія народныя мелодыі. Быў паказаны таксама дакументальны фільм «Украіна мая».

У гэтыя дні на паліцах многіх бібліятэк рэспублікі можна ўбачыць выстаўкі твораў Лесі Украінкі, жыццё і рэвалюцыйная дзейнасць якой цесна звязаны з Беларуссю. Тысячы чытачоў і сёння з захапленнем чытаюць яе палымяныя творы на ўкраінскай і ў перакладзе на рускую і беларускую мовы. Да стагоддзя з дня нараджэння паэтэсы-рэвалюцыянеркі выдавецтва «Беларусь» выпусціла яе драму «Лясная песня» ў перакладзе Хведара Жычкі.

# КОНКУРС НА АДНААКТОВЫЯ П'ЕСЫ

**Міністэрства культуры БССР і Саюз пісьменнікаў БССР аб'явілі Рэспубліканскі конкурс на аднаактовыя п'есы, прысвечаныя актуальным тэмам сучаснасці — непарушны саюз рабочага класа і калгаснага сялянства, высокае маральнае аблічча савецкіх працаўнікоў, дружба народаў і сацыялістычны інтэрнацыяналізм, барацьба супраць рэакцыйнай буржуазнай ідэалогіі і палітыкі імперыялізму. Зацверджана журы на чале з намеснікам міністра культуры БССР Ю. М. Міхневічам.**

На конкурс прадстаўляюцца аднаактовыя п'есы, якія нідзе не публікаваліся і не выконваліся.

Тэкст п'есы, надрукаванай на машынцы, прадстаўляецца ў трох экземплярах у журы конкурсу да 1 кастрычніка 1971 г. на беларускай або рускай мовах.

Рукапісы падаюцца пад дэвізам з дадаткам запячатанага канверта, у якім змешчана прозвішча, імя і імя па бацьку аўтара з указаннем прафесіі, месца работы, адрасу.

Усе матэрыялы накіроўваюцца па адрасе: г. Мінск, Дом урада, Міністэрства культуры БССР, з паметкай «Конкурс на аднаактовыя п'есы».

За лепшыя аднаактовыя п'есы ўстанаўліваюцца наступныя прэміі:

*Першая прэмія—адна— 700 рублёў.*
*Другая прэмія—адна— 500 рублёў.*
*Трэцяя прэмія—тры —па 300 рублёў.*
*Заахвочвальныя прэміі— тры —па 100 рублёў.*

Прэміраваныя п'есы набываюцца Міністэрствам культуры БССР.

# НАВАТАРСТВА — «ЗАНЯТАК» НЯПРОСТЫ

СЁННЯ павышана ўвага жывапісцаў да здольнасці твораў выклікаць асацыяцыі: многія прыкметы рэальнасці перадаюцца не непасрэдна, а ўскосна. Упадабленне, сімвал, намёк (і ў сюжэце, і ў каларыце) прадугледжваюць эмацыяльную актыўнасць гледача. У трыадзінстве «мастак — твор — глядач» акрэсліваецца роля апошняга ў тым непаўторным свеце, якім з'яўляецца мастацтва.

Свядомасць сучаснага чалавека набыла здольнасць звязваць паміж сабой самыя, здавалася б, аддаленыя факты і паняцці. Адно выяўляецца праз другое. Так, напрыклад, аптымістычнае можа быць перададзена праз трагічнае. Нават тэрмін замацаваўся — «аптымістычная трагедыя». Або яшчэ: дынаміка можа быць перададзена праз статыку. Унутраны стан героя, бывае, больш выяўлены праз каларыт, чым праз пэўнае сюжэтнае дзеянне.

I ўсё гэта, мне здаецца, не пазбаўлена сувязей з такой акалічнасцю: жывая практыка жывапісу апошніх гадоў як бы аднаўляе правы так званай апавядальнасці ў карціне. Той самай апавядальнасці, з якой яшчэ не так даўно пакеплівалі, паўтараючы кінутае некалі ў палеміцы ледзь ці не Рэнуарам слоўца «літаратуршчына». Мы добра цяпер ведаем здабыткі і страты імпрэсіяністаў. Сутнасць іх рэвалюцыі ў жывапісе. I іх абмежаванасць. Жывы мастацкі працэс пераконвае, што не ў самой «літаратуршчыне» бывае бяда, а ў спосабах яе «ўжывання». Калі няма паўнаты зместу вобраза чалавека, гэтай асновы асноў мастацкай выразнасці, — ніякая «літаратуршчына», зразумела ж, не ўратуе. Але калі апавядальнасць асвоена пластычна, падпарадкавана асацыятыўнаму ладу мыслення, яна спрыяе ёмістасці вобразаў твора. Прыгадаем хаця б такія карціны з нашых рэспубліканскіх выставак нядаўняга часу, як «Партызанскае вяселле» М. Данцыга або «Маё нараджэнне» Л. Шчэмелева. Можна смела сказаць: у такога роду творах ёсць элементы ўзбагачэння магчымасцей сюжэтна-тэматычнай карціны. I гэтыя элементы каштоўныя тым больш, калі мастакоўская вынаходлівасць — вынік высокага ідэйнага, грамадзянскага імпульсу.

Ужо самі праграмы выставак нядаўняга часу прадвызначылі асаблівы напал пачуцця, асаблівую адказнасць у працы нашых мастакоў. Гэта датычыць і рэспубліканскай выстаўкі, прысвечанай XXVII з'езду КПБ і XXIV з'езду КПСС, якая не толькі замацоўвае поспехі, дасягнутыя на шэрагу папярэдніх, але і прадвызначае новыя дасягненні.

У экспазіцыі гэтай выстаўкі ёсць работы, прынцыпова важныя ў развіцці ўсяго беларускага мастацтва або, прынамсі, у развіцці таго ці іншага мастака.

Вось «Бальшавік» М. Савіцкага. У кантэксце творчасці самога жывапісца карціна набывае адметнае значэнне. Яна быццам увабрала ў сябе многае, да чаго мастак ішоў у папярэдніх творах. Так, можна прасачыць унутраныя сувязі «Бальшавіка» з «Адзінадушнасцю», «Партызанамі», «Пакараннем смерцю», «Партызанскай мадоннай», двайным партрэтам «Рыта і Андрэй», «Баладай пра бацьку Міная»... Скажам адразу: карціна выклікае спрэчкі. Справа ў тым, мабыць, што не зусім звыклы для станковага палатна такі нечаканы сёння мантаж аддаленых адна ад адной у просторы і часе падзей. Паставіўшы сабе за мэту раскрыць высакародны ўнутраны свет камуніста, чалавека-змагара, непахісна адданага гуманістычным ідэалам, мастак літаральна «пералічвае» ўсё дарагое, што праносіцца перад унутраным зрокам яго героя, нескаронага ворагамі, гатовага прыняць смерць стоячы... Складаныя асацыятыўныя сувязі — паміж гэтым байцом ленінскага гарту і вобразам несмяротнага правадыра; паміж чырванасцяжнай дэманстрацыяй і юным чырвонаармейцам часоў грамадзянскай вайны, занятым мірнай справай; паміж шчаслівая, прасветленаю маці, якая дала пачатак новаму жыццю, і трагічнымі эшалонамі смерці фашысцкіх канцлагераў...

Як і заўсёды ў М. Савіцкага, у «Бальшавіку» каларыт арганізаваны так, што ён вельмі актыўна памагае асацыяцыям гледача. Улічана нават афарбоўка рамы. Яе дрэва — бы гарачае, распаленае чырвонае вуголле.

Але калі ўжо выглядае нечаканым (а можа, і непажаданым) сам прыём мантажу, спынюся на гэтым падрабязней.

Раскрыць паліфанію душы чалавечай, эмацыянальную і, калі хочаце, ідэалагічную структуру характару — вось якой задачай прадыктавана абранае рашэнне. Глядач сам павінен рабіць вывады з прапанаваных супастаўленняў. А супастаўленні гэтыя — не такія простыя, як можа здацца на першы погляд. Спашлюся хоць бы на неадназначнасць вобраза маці з немаўлёнкам. Маці героя?.. Жонка?.. I маці, і жонка!.. Гэтак жа, як у майстроў Рэнесансу — і дзявоцкасць, і мацярынства ў адной і той жа мадонне. Між іншым, апошняе некалі трапна падкрэсліў і Максім Багдановіч.

Увогуле ж сумяшчэнне ў рамках аднаго твора выяўленчага мастацтва падзей, якія адбываюцца неадначасова і не ў адной прасторы, мае пэўную радаслоўную. Радэн, напрыклад, гаварыў аб такім першапачатковым выяўленчым элеменце змен у часе і прасторы, як «прагрэсіўнае развіццё жэста». Яно адсутнічае ў вокамгненнай фатаграфіі. Але задоўга да Радэна — у многіх сюжэтах сярэднявечча — пастаяннае сумяшчэнне ў межах аднаго адлюстравання зусім розначасовых падзей. А ў Пітэра Брэйгеля сустракаем аналогіі так званага «паралельнага мантажу», без якога не ўяўляем сабе кінематографа. Невыпадкова Сяргей Эйзенштэйн меркаваў, што кіно — частка сістэмы развіцця жывапісу.

Пошук пластычнага ўвасаблення **руху** думкі і пачуцця прымушае сучаснага жывапісца рабіць пасільныя запазычванні з прыёмаў, напрыклад, кіно. І, мабыць, невыпадкова практыкі і тэарэтыкі мастацтва ставяць пытанне: у якой меры выяўленчае мастацтва здольнае пераступаць межы свае, набліжаючыся да суседкуючых мастацтваў?.. Мне здаецца, абраны М. Савіцкім прыём мантажу заканамерны ў сучаснай станковай карціне. Бо мантаж уласцівы самой асацыятыўнай прыродзе чалавечага мыслення.

Да сказанага можна дадаць: міжволі прыгадваецца, напрыклад, як некалі, гадоў паўтараста назад, прыхільнікі класіцызму, мякка кажучы, не апраўдвалі новых прыёмаў Эжэна Дэлакруа... Забываць пра гэта сёння было б проста несур'ёзна.

Не адзін М. Савіцкі шукае шляхі разгорнутага ў часе і прасторы апавядання пра чалавека і час. Некаторыя моманты падобнага падыходу да твораў ёсць і ў рабоце «Вера Харужая» Ул.Гардзеенкі і I. Эйдэльмана, і ў трыпціху А. Сямілетава «Камуністы» (праўда, складанае адзінства дзіпціха ці трыпціха звычайна «апраўдваецца» ўжо фармальным размежаваннем розначасовых і рознапрасторавых частак).

Безумоўна, апошнія дзве работы непараўнальна менш уражваюць, чым карціна М. Савіцкага. Але важна падкрэсліць, што і ў іх прабівае сабе дарогу **якасна новая** апавядальнасць. I гэта зусім не азначае, быццам тэматычная карціна вяртаецца «на круги своя». Наадварот: у яе новых здабытках — выразнае імкненне нашага мастацтва глыбей пазнаваць рэчаіснасць, асвойваць яе выяўленчымі сродкамі.

Не толькі з вопыту М. Савіцкага бачым, як многа дае мастаку падпарадкаванне таго ці іншага кампазіцыйнага, стылявога і ўсякага іншага прыёму асноўнай, вядучай задачы твора. У вялікай гаворцы пра святло душы савецкага чалавека, якую паслядоўна вядзе мастацтва сацыялістычнага рэалізму, не так проста браць удзел, бясконца эксплуатуючы аднойчы ўдала знойдзены прыём.

Варта звярнуць увагу на тое, якой нечаканай гранню засвяціўся талент В. Цвірко. У яго пейзажы «Мой горад» не толькі відавочныя новыя стылявыя пошукі, але і смелая «перакампаноўка» краявіду, падпарадкаваная эмацыянальнай звыш-задачы. Ці не мае нешта агульнае такая «перакампаноўка» з мантажам?

Каларыт В. Цвірко — насычаны, гучны. Яго артыстычны мазок быццам бы эскізна абмалёўвае форму. Але якое трапяткое адчуванне жыцця, якая матэрыяльнасць нават у самай абагуленай колернай плоскасці! Якія змястоўныя лірычныя перажыванні ў лепшых яго палотнах! А да іх ліку можна аднесці і яшчэ адзін паказаны мастаком пейзаж — «Цішыню».

У нечакана новым святле паўстаў на гэтай выстаўцы і Н. Воранаў. На першы погляд, ніякага асаблівага зруху няма ў яго трох карцінах. Але толькі на першы погляд. Сапраўды, прыгледзімся ўважлівей да новых палотнаў мастака, параўнаем з некаторымі папярэднімі. Тады ўбачым істотныя змены ў мастакоўскім падыходзе да вобраза. У такіх нядаўніх яго карцінах, як «Салдаты», а таксама палатно пра дэсантнікаў, было як бы «ўскоснае» ўражанне ад людзей: мастак больш гаварыў пра **свае** адносіны да іх. Захоплены сваімі пачуццямі і жывапіснасцю асяроддзя, не надта паглыбляўся ў душу тых, хто на карціне. А ў палотнах Н. Воранава на гэтай выстаўцы — рэй вядзе паглыбленне менавіта ў характар саміх персанажаў. У двайным партрэце «Роздум» — прывабныя юныя істоты на серабрыстым фоне драпіроўкі ў майстэрні мастака. Фігуры ссунуты моцна ўправа — свядома пакінута як бы незапоўненая прастора палатна. Быццам «экран», які памагае асацыіраваць перажыванні абедзвюх.

А вось адразу прыкметная «Анджэла». Так, гэта яна, гераіня сённяшняй Амерыкі, Анджэла Дэвіс.

# 230 АБЛІЧЧАЎ БЕЛАРУСІ

**ГЭТАЯ ВЫСТАЎКА** расказвае пра Беларусь. Пра прыгажосць яе краявідаў, мужнасць і працавітасць яе людзей, пра іх здзяйсненні, пошукі, радасці.

Экспазіцыя выстаўкі — вынік пяцігадовай працы беларускіх фотажурналістаў і фотааматараў, аўтараў Агенцтва друку Навіны. Многія з іх удзельнічалі ва ўсесаюзных і замежных выстаўках АДН, паказалі свае работы ў Нью-Йорку, Асака, Парыжы, Берліне, Канберы.

Выстаўка прыцягвае вялікую цікавасць мінчан. У залах Саюза мастакоў, дзе разгорнута экспазіцыя, заўсёды людна. Ды гэта і не дзіўна — беларускія фотажурналісты прадэманстравалі высокае прафесійнае ўмельства, тонкі густ, вынаходлівасць. Іх работы вызначаюцца элегантнасцю знаходак, уменнем пранікнуць ва ўнутраны свет сучасніка, простымі сродкамі расказаць пра складанае.

Выстаўка беларускіх фотажурналістаў выдатна арганізавана: выпушчаны прыгожы каталог, прадумана экспазіцыя, але... Каб больш людзей магло пазнаёміцца з работамі нашых фотамастакоў, выстаўка павінна працаваць не толькі ў будні, а і ў суботу, і ў нядзелю, тым больш, што менавіта ў гэтыя дні людзі часцей за ўсё ходзяць на выстаўкі.



А. ЦЕРЛЮКЕВІЧ (Барысаў). Хлебаробы.



Ю. ІВАНОЎ (Мінск). Партрэт рабочага. З серыі «Французскія малюнкі».



М. ШМЕРЛІНГ (Віцебск). Удваіх.



В. ГАНЧАРЭНКА (Віцебск). Маладажоны.

**«БЕЛАРУСЬФІЛЬМ»—учора, сёння, заўтра»... Артыкул пад такой назвай, апублікаваны сёлета на старонках «Літаратуры і мастацтва» ў №№ 2, 3 і 4, выклікаў цікавасць і чытачоў, і творчых работнікаў кіно. Пра гэта сведчыць і рэдакцыйная пошта (з яе і выбраны выступленні, надрукаваныя сёння), і вусныя дыспуты з наведвальнікамі рэдакцыі. Калі падсумаваць водгукі на артыкул А. Гантмана і В. Нячай, то трэба адзначыць, што большасць чытачоў пагаджаецца з думкамі і праблемамі, якія аўтары закранулі ў артыкуле. Праўда, аўтары дапусцілі адну фактычную памылку — фільм рэжысёра П. Васілеўскага па сцэнарыі А. Макаёнка «Рагаты бастыён» не быў «пакладзены на паліцу», а дэманстраваўся на так званым «другім экране» і даў пэўны фінансавы эфект. Але той факт, што пракатнымі арганізацыямі для дэманстрацыі фільма абраны гэты «другі экран» (кінатэатры гарадскіх ускраін і клубы), таксама па-свойму характарызуе ідэйна-мастацкі ўзровень твора.**

**Большасць з тых, хто адгукнуўся на артыкул, устрывожаны нізкай якасцю літаратурных сцэнарыяў, якія запускаюцца ў вытворчасць. Скажам, настаўнік Іван Пяшко са Шчучынскага раёна піша пра тое, што цяпер і гледачы добра ведаюць: поспех або няўдача фільма ў многім залежыць ад літаратурнай першакрыніцы. Сцэнарыст — гэта прафесія ў літаратуры, а творчасць у гэтай галіне — вымагае ад літаратара таго ж узроўню майстэрства, як і любы іншы жанр. «Беларусьфільм» прафесіяналаў-сцэнарыстаў яшчэ не выхаваў: у адных выпадках студыя карыстаецца паслугамі аўтараў з іншых рэспублік, у другіх—на адну ці дзве карціны запрашае пісьменніка з «суседніх» літаратурных цэхаў, у трэціх—даручае пісаць сцэнарыі сваім супрацоўнікам (рэжысёрам, рэдактарам).**

**Нават тыя з пісьменнікаў, што давалі студыі добраякасныя сцэнарыі, паводле якіх здымаліся і ўдалыя фільмы (А. Куляшоў, А. Кучар, М. Лужанін, В. Быкаў, А. Макаёнак), не замацоўваюцца ў жанры сцэнарнага мастацтва і робяць штосьці для кіно ў «паўзах» паміж чарговымі сваімі паэмамі, вершамі, драмамі, літаратурна-крытычнымі працамі.**

**На «Беларусьфільме» зроблена многа інсцэніровак-экранізацый празаічных твораў. Адны з такіх фільмаў былі больш удалыя («Нявестка», «Трэцяя ракета», «Праз могілкі»), другія — менш. Нават творы, якія ў арыгінальнай сваёй версіі сапраўды праблемныя і змястоўныя, усё ж не гарантуюць тут поспеху — студэнт Беларускага універсітэта М. Кароткі спасылаецца на прыклад з раманам І. Шамякіна «Крыніцы», які ў фільме рэжысёра І. Шульмана выглядае на дзіва збедненым і спрошчаным. Выходзіць, нават і добраякасная літаратурная першакрыніца далёка не заўсёды ёсць альфа і амега ўдачы.**

**Такім чынам, абмеркаванне артыкула «Беларусьфільм»— учора, сёння, заўтра» яшчэ раз паказала, што поспех у кінамастацтве дасягаецца к а л е к т ы ў н ы м і намаганнямі пісьменнікаў-прафесіяналаў, рэжысуры і рэдактараў з самага пачатку работы над стужкай (можа, з задумы). Тады і здымачная група падключаецца да ажыццяўлення намераў аўтараў з большай упэўненасцю ў тым, што шэрасць і пасрэднасць — гэта не іх справа, не іх лёс. А шэрасць і пасрэднасць мастацкай кінапрадукцыі, галоўным чынам, і выклікаюць нараканні ў адрас «Беларусьфільма». Аб недахопах у творчасці «Беларусьфільма» гаварылася ў справаздачным дакладзе ЦК КПБ XXVII з'езду Камуністычнай партыі Беларусі.**

**Ва ўсіх водгуках на артыкул «Беларусьфільм» — учора, сёння, заўтра» выказваецца спадзяванне, што калектыў, які мае на сваім творчым рахунку і сапраўды вартыя высокіх ацэнак мастацкія стужкі, мабілізуе ўсе сілы на пераадоленне недахопаў і стварэнне фільмаў, здольных глыбока ўзрушыць гледача значнасцю ідэйна-мастацкай задумы і экраннага вырашэння.**

ПРАЧЫТАЎШЫ артыкул А. Гантмана і В. Нячай «Беларусьфільм» — учора, сёння, заўтра», я адчуў жаданне выказаць і сваю думку пра мастацкі кінематограф рэспублікі. Перш-наперш, мабыць, варта задумацца, што ўносіць наша нацыянальнае кінамастацтва ў шматнацыянальнае кіно краіны, ці арганічна па тэматыцы і ўвасабленні экранныя творы звязаны з гісторыяй і сучасным жыццём народа...

Зразумела, пачатак усяму ў кіно — сцэнарый. Але, на жаль, рэпертуарна-сцэнарная калегія, як відаць, не заўсёды ўмее арганізаваць работу са сцэнарыстамі і дамагчыся ад іх высокамастацкіх твораў, канчаткова вызначыць творчае крэда студыі. Мне думаецца, што і тыя парады, якія даюць А. Гантман і В. Нячай, наўрад ці змогуць адразу ж даць адчувальны эфект. Можна бясконца перетасоўваць мастацкі савет, папаўняць яго кіназнаўцамі, «на высокім узроўні» абмяркоўваць сцэнарыі на калегіі — поўнай гарантыі поспеху гэта не дае. І не дасць! На падставе асобных сказаў, не вельмі дакладна прыведзеных у пратаколах, не падпісаных удзельнікамі абмеркавання, аўтары артыкула гавораць, што абмеркаванні сцэнарыяў наогул ніколі не былі плённымі. Катэгарычнасць такіх заяў беспадстаўная, бо тады, захоўваючы логіку аўтараў, удалыя фільмы студыі трэба ставіць у непасрэдную залежнасць ад змястоўнасці абмеркаванняў сцэнарыяў на пасяджэннях калегіі. А такая залежнасць бывае далёка не заўсёды прасталінейнай: сцэнарый — абмеркаванне — фільм... Навошта здрабняць гаворку пра надзённыя праблемы развіцця мастацкага кінематографа такімі спрошчанымі высновамі?..

**Зразумела, зыходная пазіцыя А. Гантмана і В. Нячай была правільная: хто ж будзе аспрэчваць, што і сапраўды ёсць недахопы ў дзейнасці сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі, «мазгавога цэнтра» студыі, «пачатку ўсіх пачаткаў». Многа гадоў у шматлікіх артыкулах, прамовах на нарадах, пленумах дэбатавалася пытанне — як прыцягнуць пісьменнікаў да работы ў кінематографе. У тыя часы пісьменнікі ў кіно практычна не працавалі. У гэтых меркаваннях быў вялікі сэнс: прыход у кінематограф пісьменнікаў дазволіў бы не толькі пашырыць кола сцэнарыстаў, але і садзейнічаў бы павароту студыі да нацыянальнай тэматыкі. Пры арганізацыі сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі гэта акалічнасць была ўлічана: на штатную і пазаштатную работу ў калегію былі запрошаны такія вядомыя беларускія пісьменнікі, як А. Куляшоў, М. Лужанін, І. Шамякін, А. Макаёнак, К. Губарэвіч, А. Кучар. Нельга сказаць, што не адбылося ніякіх зрухаў. Фільмаў на нацыянальным матэрыяле ствараецца больш. Але ў той жа час на студыі па-ранейшаму ставіцца нямала карцін на матэрыяле зусім выпадковым, далёкім ад таго, чым павінна займацца беларуская кінематаграфія. Па-ранейшаму слабыя сцэнарыі, якія не прынялі іншыя студыі, трапляюць на «Беларусьфільм», ім на хаду надаецца «мясцовы каларыт», як гэта было, напрыклад, у фільме «40 мінут да світання», «Мы з Вулканам» і іншых.**

**Каб не сарваць выкананне плана, нярэдка запускаюцца ў вытворчасць сцэнарыі яўна слабыя, бездапаможныя з усіх пунктаў гледжання, якія кампраметуюць і важную, патрэбную тэму, і кінамастацтва рэспублікі. Так здарылася з фільмам «Дзесятая частка шляху».**

Прычына з'яўлення пасрэдных фільмаў не ў адной нездавальняючай рабоце сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі. Напэўна, ні адна творчая арганізацыя, няхай гэта тэатр або кінастудыя, не здольная выйсці на дарогу вялі-

# БУДНІ, БУДНІ...

У РАЗМОВЕ пра творчы лёс студыі «Беларусьфільм» хачу сказаць і сваё слова.

**Зараз у аб'яднанні тэлевізійных фільмаў студыі «Беларусьфільм» ідуць апошнія дапрацоўкі карціны «Верыш, не верыш». Сцэнарый І. Ракшы, пастаноўка А. Дударава і Е. Васільева. Яны госці з Масквы. Аўтару гэтых радкоў давялося працаваць на вытворчасці карціны ў якасці асістэнта, а потым другога рэжысёра. Фільм гэты — пра моладзь. Натуральна, выканаўцы роляў таксама павінны быць маладымі. Здымачная група іх знайшла, мастацкі савет зацвердзіў. Месца прапіскі акцёраў традыцыйнае — Масква, Ленінград. Адна роля (дзядзя Вася) была прапанавана вядомаму беларускаму акцёру тэатра імя Янкі Купалы Паўлу Кармуніну. Роля яму спадабалася. Тэрміны здымак былі ўзгоднены з кіраўніцтвам тэатра.**

**Настаў час здымак. На двары зазалацілася восень. Трэба было спяшацца.**

**І тут... П. Кармунін быў нечакана заняты ў рэпетыцыях новага спектакля, замены не было, і ў выніку акцёр мог здымацца ў нас толькі адзін дзень на тыдзень... Гэта азначала, што асістэнту рэжысёра трэба было ляцець у Маскву, у Ленінград, шукаць акцёра, для якога прыехаць на здымкі будзе лягчэй, чым нашаму акцёру здымацца тут.**

Нараканні крытыкі, прэсы, грамадскасці на тое, што беларускія акцёры ўсё яшчэ мала заняты ў карцінах студыі «Беларусьфільм», зусім справядлівыя, але ці толькі студыя вінавата ў гэтым? Не заўсёды, хоць многа яшчэ і такіх рэжысёраў, якія, не будучы ўпэўненыя ў сваіх сілах, а іншы раз проста баючыся «рызыкаваць», спадзяюцца на выканаўцаў з іншых студый, з Масквы і г. д.

Мне здаецца, што вырашыць акцёрскую праблему можна толькі ў тым выпадку, калі будзе панаваць па-сапраўднаму творчая абстаноўка, калі будзе паспяхова вырашана праблема рытмічнай работы здымачнай групы, захаванне каляндарных тэрмінаў вытворчасці і г. д. і г. д. У доўгім ланцугу праблем кінавытворчасці востра стаіць, як ужо падкрэслівалі А. Гантман і В. Нячай, пытанне цякучасці кадраў у здымачных групах. З тых, хто прыйшоў працаваць разам са мной на студыю ў 1967 годзе, — асістэнты, памочнікі рэжысёраў, адміністратары — засталіся адзінкі. Кожны год у здымачных групах — усё новыя, новыя, новыя людзі. Такі «актыўны абмен рэчываў» адмоўна адбіваецца на рабоце. Таму асабліва дзіўнай здаецца думка некаторых рэжысёраў і дырэктараў карцін, што, маўляў, лепш браць у памочнікі рэжысёраў, асістэнты, адміністратары людзей «з вуліцы», чым тых, хто ўжо накапіў пэўны вопыт. Маўляў, з вопытам прыходзіць... гультаяватасць, нежаданне актыўна працаваць.

Дзіўная думка. Нельга ж некалькі прыватных выпадкаў выдаваць за нейкую «фатальную» заканамернасць.

**Адна з бед гэтай катэгорыі работнікаў у тым, што павышэнне іх кваліфікацыі пушчана на самацёк. Напэўна было б мэтазгодна падумаць кіраўнікам студыі над тым, каб нейкім чынам наладзіць для іх прафесіянальную вучобу. Напрыклад, найбольш здольных адміністратараў, асістэнтаў, якія знаходзяцца ў «міжкарцінным перыядзе», можна было б пасылаць на стажыроўку ў Маскву, Ленінград, на буйнейшыя студыі краіны, дзе б яны вывучалі вопыт калег, стажыраваліся ў майстроў, а потым з адпаведнымі характарыстыкамі вярталіся на родную студыю. Карысць, відаць, была б немалая.**

Не магу змоўчаць і аб самай галоўнай, на мой погляд, праблеме — праблеме літаратурнага сцэнарыя.

Не трэба было, напрыклад, мець «на сем пядзяў розуму», каб з самага пачатку здымак убачыць, што нараджаюцца крыўдна-пасрэдныя фільмы тыпу «І ніхто іншы», «Крокі па зямлі», «Дзесятая частка шляху» і іншыя, бо літаратурная аснова не пакідала ніякіх шанцаў на поспех. Не буду зараз задаваць пытанні, чаму рэжысёры браліся за пастаноўку фільмаў па слабых сцэнарыях. Думаю, можна зберагчы нашу адзіную ў рэспубліцы студыю, тыя 5—6 карцін у год, ад шэрых сцэнарыяў.

Кінематаграфісты, калі і абмяркоўваюць карціны, дык толькі пасля завяршэння, калі ўжо нічога паправіць нельга. Тыя, хто абмяркоўвае, у большасці выпадкаў гэта разумеюць і «пасля бою кулакамі не махаюць». Давайце чытаць сцэнарыі і рэжысёрскія экспазіцыі перад тым, як фільм трапляе ў вытворчасць!

**Зусім нядаўна па экранах нашай рэспублікі прайшоў фільм Ф. Конева і І. Дабралюбава «Шчаслівы чалавек». На маю думку, крытыка зусім аб'ектыўна, хоць і з залішняй доляй асцярожнасці ацаніла новую работу студыі. Так, гэта не новы крок у беларускай кінематаграфіі. Гэта таптанне на месцы. А фільм жа аб нашым сучасніку, ды яшчэ пад такой шматабяцаючай і інтрыгуючай назвай — «Шчаслівы чалавек». Не мелі права аўтары так невыразна гаварыць з мільённай аўдыторыяй. Напэўна, калі б яны перад пачаткам работы вынеслі сваю задуму на шырокае абмеркаванне, дык вынік, магчыма, быў бы іншы. Тым больш, што ў здольнасцях гэтых кінематаграфістаў ніхто не сумняваецца.**

Чаму ж так атрымліваецца — здольныя кінематаграфісты здымаюць пасрэдныя фільмы? Гэтае пытанне работнікі студыі павінны задаць самім сабе і знайсці адказ на яго.

Рычард СМОЛЬСКІ,
асістэнт рэжысёра студыі «Беларусьфільм».

# НЕ ГУБЛЯЦЬ НАБЫТАГА

На старонках «Літаратуры і мастацтва» пачалася патрэбная гаворка пра ўчарашні, сённяшні і заўтрашні дзень «Беларусьфільма». Тэма, вартая пільнай увагі. Таму што на нашай фабрыцы фільмаў рады ў гады выпускаецца стужка, якая карыстаецца папулярнасцю, якая захапляе гледачоў. Аўтары артыкула «Беларусьфільм» — учора, сёння, заўтра» А. Гантман і В. Нячай правільна робяць, намагаючыся раскрыць прычыны творчых няўдач кінастудыі. Мяркуючы па ўсім, галоўныя прычыны — слабая рэжысура і недастатковая ўвага да якасці літаратурных сцэнарыяў. Матэрыяльныя ўмовы для плённай дзейнасці студыі створаны належныя.

Поспех «Беларусьфільму» звычайна прыносілі стужкі з выразнай нацыянальнай праблематыкай. На жаль, гэты павучальны вопыт улічваецца не часта. А калі «Беларусьфільм» здымае карціны па сцэнарыях, якія заляжаліся на іншых студыях, лёс такіх карцін можна прадказаць: правал.

Такая мая кароткая думка аб артыкулах А. Гантмана і В. Нячай. Сам жа я, як зацікаўленая асоба, хацеў бы закрануць праблему вучэбных стужак нашай студыі.

У рэспубліцы створана некалькі добрых дакументальных карцін — пра К. Каліноўскага, Я. Купалу, Я. Коласа. Усе яны леглі на тую ж паліцу, што і няўдалыя фільмы, толькі з іх, мабыць, часцей пыл сціраюць. Мы бачым іх вельмі рэдка. Чаму? Ды таму, што фільмы здымаліся на звычайнай плёнцы, а ў школах кінаапаратура разлічана на вузкую. І цяпер гэтыя патрэбныя стужкі залежваюцца ў сталіцы.

Школы маюць па ўсіх прадметах фільмы, толькі па роднай літаратуры няма чаго паказаць. Проста аж зайздрасць бярэ, калі выкладчык рускай літаратуры дэманструе вучням стужкі пра творчы шлях Чэхава, Талстога, Горкага, пра творчую лабараторыю Пушкіна ці Някрасава.

Мне думаецца, што зняць фільм—гэта яшчэ палова справы, трэба, каб ён саслужыў сваю службу.

Вучні штогод праходзяць п'есу «Хто смяецца апошнім», знаёмяцца з п'есамі «Пяюць жаваранкі», «Канстанцін Заслонаў» і многімі іншымі. Але паспрабуйце ў кінапракаце знайсці фільмы, знятыя па гэтых п'есах! Такія карціны па мастацкім і тэхнічным узроўні ўстарэлі, тлумачаць нам. Ці трэба многа гаварыць пра тую карысць, якую б прынеслі яны дзецям, асабліва вясковым, якія не маюць магчымасці рэгулярна наведваць тэатры? Няўжо стварыць новую карціну лягчэй, чым прадоўжыць жыццё старой?

Шмат карыснага для роднай літаратуры робіць творчае аб'яднанне тэлевізійных фільмаў. Экранізавана «Трывожнае шчасце» Івана Шамякіна, «Трэцяе пакаленне» і «Вялікае сэрца» К. Чорнага, праводзяцца ўрокі па творчасці асобных пісьменнікаў. Але хоць «блакітны экран» у многім дапамагае настаўнікам, усё ж ён не можа поўнасцю ахапіць усіх школьнікаў. Не заўсёды ёсць магчымасць паглядзець перадачу — частка дзяцей у гэты час вучыцца, ды трэба яшчэ ўлічыць, што не паўсюль у рэспубліцы транслюецца мінская праграма. Патрэбны школьныя фільматэкі.

А што, калі сабраць усё патрэбнае, зробленае «Беларусьфільмам» і тэлебачаннем, і перазняць на вузкую плёнку?

Не складана, я думаю, стварыць серыю невялікіх па метражы фільмаў пра нашых пісьменнікаў, творы якіх вывучаюцца ў школе. Я ўпэўнены, што ніхто з іх не адмовіцца прачытаць свае творы перад кінакамерай для вучняў, пазнаёміць са сваёй творчасцю. А якая гэта будзе карысная справа!

Словам, хацелася б, каб і Міністэрства асветы БССР, і кінематаграфісты дапамаглі нам, настаўнікам роднай літаратуры. Гэта надзённае пытанне. Нельга яго абмінаць.

Ну і, зразумела, студыя «Беларусьфільм» абавязана здымаць мастацкія творы пра працоўныя і баявыя справы нашага народа, нашай ардэнаноснай рэспублікі. Колькі тут не закранутых экранам тэм!..

І. БЫХАВЕЦ,
настаўнік Лынтупскай сярэдняй школы.
Пастаўскі раён.

# ЧЫРВАНЬ ШЫПШЫНЫ, ЗЕЛЕНЬ ЛУГОЎ

ДЗЯЎЧАТЫ на імгненне застываюць чародкамі і ў сваіх бела-ружовых сукенках нагадваюць дрэўцы вішні ў вясновай квецені. А потым, нібы пялёсткі, рассыпаюцца па сцэне і кружацца ў павольным танцы, які так і называецца «Вясновы карагод».

Танец змяняецца песняй, хор саступае месца аркестру... Чырвань шыпшыны, золата збожжа, зелень прырэчных лугоў—у касцюмах артыстаў. Тыя ж свежыя фарбы роднай зямлі—у чыстых галасах спевакоў, у іскрыстых і пяшчотных цымбальных россыпах...

На сцэне філармоніі ідзе канцэрт Дзяржаўнага народнага хору БССР і Дзяржаўнага беларускага народнага аркестра.

Наш карэспандэнт звярнуўся да кіраўнікоў славутых калектываў—народных артыстаў СССР Г. Цітовіча і І. Жыновіча з просьбай расказаць пра новыя праграмы.



Салістка Дзяржаўнага народнага хору БССР Валянціна Прыдачына.

## Генадзь ЦІТОВІЧ

Я рады падкрэсліць, што большасць новых песень, падрыхтаваных хорам, напісаны нашымі старымі сябрамі. Гэта «Добры дзень» У. Алоўнікава на словы А. Русака, «Партыі слава» І. Кузняцова на словы А. Астапенкі, «Званы Хатыні» І. Лучанка на словы Р. Пятрэнкі, «Чаканне» І. Сушко на словы Э. Валасевіча і іншыя. Упэўнены, што толькі пастаяннае супрацоўніцтва паміж аўтарамі і мастацкім калектывам можа прынесці сапраўдны творчы плён.

Побач з вядомымі ўжо ансамблямі нашага хору (інструментальнымі, вакальным квартэтам «Купалінка») сёння ўпершыню выступіў жаночы фальклорны ансамбль, які выканаў народныя песні «Ой, скарэй бы вячора даждаці» і «Сваточную застольную». У ансамбль мы адбіралі спявачак па тэмбравых якасцях іх галасоў і па манеры выканання. Імкнёмся, каб калектыў захоўваў усе асаблівасці і адценні народнай манеры. Спявачкі фальклорнай групы—у асноўным былыя ўдзельніцы мастацкай самадзейнасці

Танцы для новай праграмы падрыхтаваў балетмайстар Анатоль Іваноў, які раней працаваў з самадзейнымі артыстамі Магілёва.

Уласна кажучы, у нас дзве новыя праграмы. Адна—тая, якую мы паказалі сёння, — прысвечана XXIV з'езду КПСС і XXVII з'езду КПБ. І яшчэ адна была падрыхтавана да 100-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна. На Усесаюзным аглядзе мастацкіх калектываў у Маскве мы атрымалі за яе Ганаровую юбілейную грамату ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР і Дыпломам І ступені. Я называю яе новай, бо мы яшчэ не паказвалі яе ў Беларусі. Пакуль што з ёй знаёмы толькі масквічы і жыхары Сярэдняй Азіі, дзе мы былі на гастролях. Цяпер мы вязём абедзьве праграмы ў Віцебскую вобласць на суд гледачоў і слухачоў.



У суправаджэнні Дзяржаўнага народнага аркестра БССР выступае вакальны актэт Мінскага музычнага вучылішча.

## Іосіф ЖЫНОВІЧ

Сённяшні канцэрт мы пачалі новай песняй Ю. Семянякі на словы А. Бачылы «Вясновая радзіма». Яе выконваў вакальны актэт Мінскага музычнага вучылішча імя Глінкі ў суправаджэнні інструментальнага ансамбля — групы цымбал і дзвюх арфаў. Мне здаецца, такі ансамбль гучыць свежа і цікава. Ён можа не толькі суправаджаць вакалістаў, але і выступаць самастойна. Думаю, што з часам ён ператворыцца ў асобны мастацкі калектыў. Калі некалькі гадоў таму назад аб такім адгалінаванні не магло быць і гутаркі, бо не хапала музыкантаў для аркестра, дык зараз наша задума мае ўсе магчымасці стаць рэальнасцю: у кансерваторыі і музычных вучылішчах расце цэлая армія цымбалістаў. Цымбалы з кожным годам заваёўваюць усё большую папулярнасць, і гэта радуе.

Абмежаваныя рамкамі аднаго аддзялення мы змаглі сёння выканаць толькі тры з буйных твораў, падрыхтаваных у новай праграме: «Сваточную ўверцюру» Я. Глебава, «Андантэ» і «Скерца» з Другой сімфоніі Р. Пукста і уверцюру да оперы Дж. Расіні «Вільгельм Тэль». Наш рэпертуар яшчэ папоўніўся «Уверцюрай-фантазіяй» М. Аладава, «Скерца-вальсам» Я. Дзягцярыка, канцэртнымі п'есамі Р. Буцвілоўскага, а таксама новымі песнямі, якія ў суправаджэнні аркестра выконвае Зіновій Бабій.

Жыццё наша вандроўнае. Нядаўна прыехалі з Рыгі, а зараз, як і народны хор, адпраўляемся на Віцебшчыну. Толькі яны на ўсход вобласці, а мы на захад—у Міёры і Браслаў. Густ і патрабаванні слухачоў год ад году прыкметна растуць. Гэта павышае нашу адказнасць. Тым большую радасць прыносіць цёплы прыём нашых новых праграм.

Анна ЗЭГЕРС

# АГАТА



Мал В. ТАРАСАВА.

ЖЫЛА ў пачатку века ў невялічкім гарадку Альгесхайме, паблізу Рэйна, жанчына Гелена Дэнхёфэр. Ад нябожчыка мужа яна атрымала ў спадчыну краму дробных тавараў на ўскраіне гарадка і з дапамогай дачкі Агаты добра з ёю спраўлялася.

Кватэрка іх, у двары за крамай, была цесная, але ўтульная. Там жа, у двары, быў і свой агародзік, палоць і паліваць які было клопатам дзяўчынкі. Каб не ён, то яна, пэўна, вырасла б яшчэ слабейшай і бледнай.

Фраў Дэнхёфэр была з усімі ветлівая—трэба ж было збываць тавар, хай хоць і з грашовым, але прыбыткам, хаця перавагу аддавала сваім пастаянным кліентам: рамеснікам, дробным гандлярам, такім, як яна сама, і чыноўнікам.

Агата радавалася, што скончыла школу: цяпер ёй ужо нішто не перашкаджала памагаць у краме, — без яе маці і праўда было б цяжкавата. Першая сусветная вайна, якая выбухнула тым летам, намнога павялічыла кліентуру фраў Дэнхёфэр: незнаёмыя людзі ў мундзірах і знаёмыя, якіх непазнавальна змянілі мундзіры, мелі кожны свой клопат на гузікі і пятліцы, на залатыя і сярэбраныя галуны, на ўсякую іншую дробязь, якая мела хоць якое дачыненне да ваеннага абмундзіравання, патрыятычных свят, ну і, канечне ж, да жалобнага адзення. Агата ўпэўнена і стала разважала з пакупнікамі пра перамогі і генералаў, але і ва ўсім слухалася маці.

З ваенным разгромам у краіну прыйшоў голад. У золкую, гнілую восень, набегаўшыся пад праліўным дажджом па навакольных вёсках, шукаючы дзесятак яек і паўфунта масла, фраў Дэнхёфэр прастудзілася і занядужала. Бязлітасны кашаль раздзіраў яе слабыя грудзі. Прастуда абярнулася запаленнем лёгкіх, і неўзабаве фраў Дэнхёфэр не стала.

У жыцці дачкі мала што змянілася. У сваёй чорнай, а потым шэрай сукенцы дробненькая Агата вельмі нагадвала маці, была гэтакая ж ветлівая і ўважлівая. Яе пакупнікі нават не заўважалі розніцы і часта, забыўшыся, што старэйшая памёрла, называлі фройляйн Дэнхёфэр «фраў Дэнхёфэр».

Агату мучылі тыя самыя цяжкасці, што і маці. А іх усё прыбаўлялася. У самы цяжкі час яна адамкнула запаветны куфэрак, які наладавала на чорны дзень нябожчыца. Кожны лахман цяпер быў у цане.

Часцяком у краму пачаў завітваць аднаногі ландштурміст Швайгерт. Яго жонка яшчэ паспела атрымаць вестку пра цяжкае раненне мужа, але самога ўжо не дачакалася, сканала ад грыпу.

Швайгерт, у мінулым чыгуначнік, слаўны хлопец, жартаўнік і гаварун, цяпер хадзіў пануры: яму абрыдла кульгаць на мыліцах, гаспадарыць на асірацелай кухні. Адзінота дапякала яго, але надзея на каліўца шчасця яшчэ не згасла. І, як ні цяжка было хадзіць, свае няхітрыя пакупкі ён рабіў у некалькі заходаў: замест таго, каб купіць паўтузіна гузікаў адразу, ён купляў іх тры разы па два. А к закрыццю крамы прыходзіў зноў: маўляў, яму трэба ўшыць гузік, а іголка зламалася.

Агата не кпіла, прышывала два-тры гузікі... Ніхто і не заўважыў, як яна выйшла замуж за Франца Швайгерта.

Нікога не цікавіла таксама, шчаслівы ці не іх шлюб. Ды і быў ён нядоўгі—Франц Швайгерт памёр ад таго ранення, як самаахвярна ні даглядала яго Агата.

У жыцці Агаты, калі не лічыць нараджэння дзіцяці—ціхага, заўсёды чысценькага хлопчыка—нічога не змянілася. Маладая ўдава па-ранейшаму займалася сваёй крамай. Многія пакупнікі, як і да таго, блыталі яе з маці, нябожчыцай фраў Дэнхёфэр, а хлопчыка лічылі ўнукам. Але здаралася і так, што які-небудзь заезджы прымаў кволую Агату за школьніцу, а хлопчыка—за яе малодшага брата.

Агата жыла разважліва, нездарма маці навучыла яе ашчаднасці. Заробленыя грошы праглынула інфляцыя, і Агата зноў адкладвала на чорны дзень: Брала самую розную работу на дом: вязаць, цыраваць—што натрапіцца. Так, пакрысе, трохі і назапасіла. Грошы ёй патрэбны былі для сына, бо ён, як яна лічыла, павінен быў стаць нечым асаблівым, нямаведама чым.

Неяк раніцай Агата выйшла на вуліцу, каб выцерці вітрыну крамы, і раптам убачыла, як паліцэйскія валакуць нейкага пашматанага хлапца ў наручніках. Яны цягнулі яго да вакзала, стараючыся не прыцягваць увагі жыхароў. Агата не ведала, што і падумаць: здавалася, ёй прысніўся страшны сон. Але яна нават не заікнулася ніводнаму з пакупнікоў, ды і яны лічылі за лепшае маўчаць.

У той год яе сын Эрнст упершыню сеў за парту. Агата нават засмуцілася—так спадабалася яму гэта перамена ў жыцці. Вучоба давалася лёгка. Агаце не вельмі падабаўся таварыш Эрнста па школе. Яго звалі Райнгольд Шанц. Эрнст прывязаўся да яго. Варта было Райнгольду свіснуць, як Эрнста ўжо нельга было ўтрымаць. Сябры даходзілі да самага Рэйна, сапраўды цікавае пачыналася для іх на яго берагах. Прыйшоўшы дадому позна ўвечары, Эрнст пачынаў узахлёб расказваць пра свае прыгоды. І тады з твару Агаты сходзіў цень; слухаючы яго, яна забывала перажытыя страхі; ёй здавалася, што на долю яе сына выпала нешта такое, што з лішкам акупіць усе яе страхі і трывогі. І тады журба знікала з вачэй.

Нягледзячы на ўсе прыгоды, Эрнст вучыўся выдатна і выяўляў бліскучыя здольнасці. Са школы ён прыносіў адны выдатныя атэстацыі. Засмучала Агату толькі, што ён па-ранейшаму сябруе з Райнгольдам Шанцам...

Тым часам Эрнст здаў выпускныя экзамены. Цяпер яму трэба было вывучаць у Франкфурце-на-Майне нямецкую літаратуру і гісторыю, каб з часам атрымаць званне старшага настаўніка. Маці радавала гэта перспектыва, як і засмучала блізкая разлука.

Спачатку пісьмы прыходзілі рэгулярна і былі ёй падтрымкай. Стоячы за прылаўкам, яна з гордасцю гаварыла сабе, што сваёй вучобай Эрнст абавязаны яе клопатам аб іх маленькім прадпрыемстве. Вечарамі яна перачытвала старыя пісьмы, перад вачамі ўзнікалі людзі і месцы, якія ён апісваў.

Падчас трэцяга ці чацвёртага прыезду Эрнста яна з трывогай заўважыла ў ім перамену: ад ранейшай жыццерадаснасці не засталося і звання. А які боль, гнеў і бледнасць з'явіліся на яго твары, калі ён разабраўся, чым гандлюе яго маці, усёй гэтай поскуддзю—расшытай і размаляванай—вялікімі, меншымі і зусім маленькімі свастыкамі. Заскрыгатаўшы зубамі, ён вылаяўся. Агата спалохалася і пачала апраўдвацца: «Калі я не буду прадаваць, што станецца з тваёй вучобай?» Ён глянуў на яе з сумным здзіўленнем. І зноў сціснуў вусны ў горкай грымасе.

Пісьмы сталі прыходзіць усё радзей, яны былі ўсе карацейшыя і халаднейшыя.

Аднойчы позна ўвечары Агата пачула, што нехта лёгка скокнуў за агароджу і пацягнуў засаўку дзвярэй. Яна радасна падскочыла, падумала—Эрнст. Але гэта быў Райнгольд Шанц.

— Вам пісьмо ад сына,—сказаў ён.—Зрабіце, калі ласка, тое, што ён просіць.

Эрнст Швайгерт пісаў:

«Дарагая мама, перадай майму сябру Райнгольду грошы за другі семестр. Спадзяюся, яны ў цябе знойдуцца. Аддай яму таксама маё зімняе паліто і дзве старыя сарочкі, нічога, калі не паспела залатаць. Дзякую за ўсё, дарагая мама. Твой Эрнст».

Агата спытала:

— А што гэта з ім?

Райнгольд адказаў:

— Эрнсту пагражае небяспека, ён павінен тэрмінова ехаць.

Агаце ўспомніўся хлопец у наручніках паміж двума паліцэйскімі. Грошы былі пад рукой: надыходзіў час пасылаць іх Эрнсту. Яна даклала да іх дзённую выручку, а ў кішэні паліто ўсунула шкарпэткі і налоўчанымі пальцамі звязала скрутак з бялізнай.

Перадаючы Райнгольду, Агата спытала яшчэ:

— Якая небяспека?

— Эрнст і некалькі студэнтаў раздавалі лістоўкі супраць Гітлера.—Падзякаваўшы кіўком галавы, ён на хаду дадаў:—Калі хто будзе цікавіцца, мяне тут не было.

Ніхто з пакупнікоў не здзівіўся яе маўклівасці і бледнасці, яе хваравітаму выгляду—яе прывыклі бачыць такой. Нішто не выдавала праведзеную бяссонную ноч, і наступную, і трэцюю. Толькі знайшоўшы пад дзвярыма запіску «Усё абышлося. Ён паехаў», яна ўздыхнула з палёгкай.

На тым самым тыдні да яе прыйшлі двое з гестапа, пыталіся, дзе сын. Яна стомлена глянула на іх шэрымі вачамі і сказала:

— У Франкфурце, там вучыцца...

Нарэшце Эрнст напісаў з Парыжа. Ад горада ён у захапленні і ўжо крышку гаворыць па-французску. У яго шмат старых і новых сяброў. Яна думала: «Галоўнае—ён жывы. Яны не схапілі яго».

Седзячы вечарамі ў сваёй цеснай кватэрцы на задворку, яна перачытвала яго пісьмы, успамінала яго апошні прыезд. Яна выразна ўяўляла яго прыгожыя валасы і горкую маршчынку каля вуснаў. З якой агідай выказаўся ён тады пра ўсю дрэнь, якой яна вымушана гандляваць...

Але больш за ўсё ўсхвалявала Агату яе апошняе пісьмо, якое вярнулася са штэмпелем: «За адсутнасцю адрасата». Цэлымі начамі кідалася яна ў ложку, а часам не клалася зусім. Але дарэмна чакала ганца, які сунуў бы пад дзверы жаданую вестку. Зноў і зноў

перачытвала пісьмы сына... І вось у вочы ёй кінуўся штэмпель на марцы аднаго з іх: «Гран д'Ор. Тулуза». Яе твар пачырванеў, вочы заблішчалі, у душы прачнулася рашэнне...

Непрыкметна наводзячы розныя даведкі—з некаторага часу яна стала больш таварыскай і гаваркой і з асаблівым даверам адносілася да старой настаўніцы, у якой Эрнст вучыўся ў першым класе і якая неяк паведаміла фраў Дэнхёфэр (яна так і не навучылася называць яе «фраў Швайгерт»): «На праезд і знаходжанне ў Францыі ўстаноўлены ільготны тарыф. Турыстам усяляк ідуць насустрач, нават германскія ўлады не забараняюць»,—яна ўжо рыхтавалася да ад'езду. Купіла невялікі чамадан, сабрала ўсе свае зберажэнні... Баялася, каб мясцовыя ўлады не адмовілі ёй у пашпарце. Але пасля ад'езду Эрнста прайшло амаль два гады, ды і новы начальнік нічога не чуў пра яе, бачыў толькі акуратна запоўненую анкету.

Ключ ад кватэры Агата аддала на захаванне старой настаўніцы.

Як пераезд праз Рэйнскі мост, так і складанае падарожжа з Франкфурцкага вакзала ў консульства і назад, а таксама начная паездка ў Францыю з вобыскам па абодвух баках граніцы зусім не напалохалі яе і нават асабліва не ўстрывожылі. Яе сэрца ўжо стамілася ад трывог, а галава ад думак...

Агата паехала ў маленькую гасцініцу на левым беразе Сены. Гаспадыня сустрэла яе няласкава: ні адзення добрага, ні выгляду, ні гаворкі. Але варта было Агаце назваць сваё прозвішча, як гаспадыня ўсклікнула:

— А-а, Эрнэст!

Яна шчыра здзівілася, што такая вартая жалю істота магла нарадзіць такога прывабнага і вясёлага хлапца. Яна і сама засмуцілася, калі Эрнст паехаў—невядома чаму і куды.

Гаспадыня паклікала жыхара, які гаварыў па-нямецку. Агата паказала ім канверт з тулузскім штэмпелем і папрасіла звязаць яе па тэлефоне з «Гран д'Ор».

Агаціна сэрца калацілася. Па тэлефоне з Тулузы гаварыў мужчынскі голас—мусіць, гаспадар «Гран д'Ор». Агата, надрываючыся, паўтарала ў трубку імя сына, у паўзах паясняючы: «Sa mère—яго маці». Потым пачуўся другі голас, сказаў на ламанай нямецкай мове: «Яго тут ужо няма. Нічога больш не магу сказаць. Прыедзеце? Калі? Ужо заўтра?»

Агата ўздыхнула, яна адчувала, што ў Тулузу трэба будзе ехаць, значыць няма чаго адкладваць на доўга...

Тулузская раніца сустрэла яе спёкай. Знясіленая Агата часам закрывала рукамі вочы і наўздагад ішла ўздоўж асляпляльна белых сцен. На шчасце, на вуліцы, дзе знаходзілася «Гран д'Ор», было змрочна, таму крыху свяжэй. Час ад часу яна адпачывала, седзячы на чамадане. Нарэшце над дзвярамі і вокнамі аднаго дома яна ўбачыла літары, знаёмыя ёй па штэмпелі на Эрнставым пісьме.

Гаспадару «Гран д'Ор» чужая жанчына здалася беднай, але яна была маці юнака, які нядаўна спыняўся ў яго. І ён загадаў паклікаць чалавека, які ўчора гаварыў з ёю па-нямецку.

— Эрнст Швайгерт быў тут,—сказаў ён,—але паехаў ужо. Цяпер ён у Іспаніі...

Здзіўленыя і недаўменныя «але чаму?», «навошта?» фраў Швайгерт далі яму зразумець, што яго спробы растлумачыць ёй, чаму ён сам і яго сябры, сярод якіх быў і яе сын Эрнст Швайгерт, рашылі ўступіць у Інтэрнацыянальную брыгаду, каб адстаяць Іспанскую рэспубліку, нічога ёй не гавораць. Агата толькі паўтарала: «Але чаму? Навошта?»—цяпер ужо толькі губамі, бо яе голас зрываўся і хрыпеў. Але вось яна сціснула вусны, яе шэрыя з блакітам вочы пасвятлелі і зрабіліся амаль белыя, зрэнкі звузіліся. Яна ўстала і сказала:

— Ну, што ж, тады паеду і я.

Маўляў, яна абавязкова павінна ўбачыць сына, і што ехаць у Іспанію ёй прамы сэнс, бо куды ж ёй яшчэ ехаць. Цяжарам для Іспанскай рэспублікі яна не будзе, як яшчэ нікому не была ў цяжар, яна справіцца з любой работай: і бялізну памые, і падлогу, і пашые што, і хворага дагледзіць—усё гэта ёй прывычна. Хай ёй толькі дапамогуць дабрацца...

Гаспадар «Гран д'Ор» здзівіўся, калі Агата заплаціла яму ўсё, што была павінна. Ды яшчэ і пакінула яму на захаванне рэшту сваіх грошай...

Не паддаючыся разгубленасці, з цвёрдым перакананнем, што пры пэўнай настойлівасці яна даб'ецца свайго, Агата, нарэшце, дабралася да Барселоны. У германскім аддзяленні інтэрбрыгад ёй сказалі, дзе стаіць полк яе сына. Агата напісала яму:

«Вось і я тут!»

Рашалася пытанне, якую работу даць гэтай жанчыне, калі з палка прыйшло паведамленне, што яе сын з лёгкім раненнем трапіў у лазарэт у Альбасеце. Разам з пропускам ёй далі пісьмо з прапановай выкарыстаць на месцы...

Едучы туды, Агата адкрыла сабе другое жыццё. Ніколі яшчэ яна не бачыла такога мноства бліскучых зорак. І такое хараство тут, мусіць, кожную ноч! А фіялетавыя горы, што віднеліся ўдалечыні! А вёскі, што хаваліся ў маляўнічых цяснінах! А раўніны, такія радасныя, нібыта на зямлі ім вядома адно толькі сонца! А круглявыя лясістыя пагоркі і мора! Чаго толькі ні ўбачыш, замкнуўшы за сабою дзверы крамы!..

Шпіталь размяшчаўся ў былым замку. У прыёмнай, як толькі выявілася, хто яна, ёй перадалі пісьмо. Агата адразу пазнала почырк сына: «Як я рады, мама! З якім нецярпеннем чакаў цябе! Але ў такі час мы не маем права на сябе. Я прыеду да цябе пры першай магчымасці. Як добра, што ты тут, побач! Ты ж астанешся ў Іспаніі? Людзі тут вельмі патрэбны. А ты ж у мяне, мама, на ўсе рукі!»

Нягледзячы на сваё расчараванне, Агату ўзрадаваў белы халат—такія халаты насілі сёстры. Яе абавязак быў—трымаць у парадку бялізну: латала струхлелыя прасціны, з яшчэ моцных кавалкаў шыла новыя, каб заўсёды мець у запасе патрэбную змену...

Неяк іспанская медсястра Луіза спытала Агату, ці праўда, што Эрнэста Швайгерт яе сын. «Кожная краіна,—падумала Агата,—дадае да яго імя новы склад: у Францыі яго звалі Эрнэст, а тут — Эрнэста». Гэта была прыгожая, пяшчотная дзяўчына, твар такі беленькі, што бялей не бывае, а валасы чорныя, як пер'е ў чорнага дразда. Луіза паказала Агаце здымкі, дзе Эрнст стаіць побач з ёю. Рука перавязаная, але твар спакойны і вясёлы. Такім вясёлым і спакойным дома Агата яго не бачыла.

Калі Луіза атрымлівала пісьмо ад Эрнста, яна мчалася да фраў Швайгерт, а тая бегла да Луізы, як толькі пісьмо прыходзіла ёй самой.

Аднаго дня ёй здалося, што людзі пры яе паяўленні збянтэжана спыняюцца і адводзяць вочы. Нейкая сіла прымусіла яе знайсці Луізу. Дзяўчына ляжала на ложку і горка плакала. Агата пагладзіла яе валасы, тая кінулася ёй на шыю, сціснула яе ў абдымках і ўголас зарыдала. Агата як скамянела, яна ўсё зразумела: Эрнст загінуў.

Цяпер, праходзячы міма з нерухомым тварам, яна часта адчувала дотык нечыіх ласкавых рук, чула спагадлівае слова. Але на яе твары і ўнутры ўсё быццам застыла. Ніхто не ведаў, ці плача яна начамі.

Услед за няшчасцем Агаты цяжкія ўдары абрушыліся на змагароў Іспанскай рэспублікі. У той час, як Францыя не прапускала зброі, італьянцы і немцы бесперашкодна памагалі генералу Франка. Рэспубліканская армія была рассечана на дзве часткі:

Шпіталь быў перапоўнены. Многія ляжалі проста на падлозе. Агаціны рукі не ведалі стомы: яны перавязвалі параненых, адмывалі скрываўленыя бінты, мылі і латалі пасцельную і нацельную бялізну.

Аднойчы, калі Агата, як заўсёды, моўчкі мітусілася, уся занятая работай, з аднаго ложка яе паклікаў знаёмы голас: «Фраў Швайгерт!» Пад белай павязкай Агата пазнала твар Райнгольда Шанца. Райнгольд паклікаў яе да свайго ложка і сурова, але гэтым аблегчыў ёй сэрца, расказаў, як Эрнст загінуў у яго на вачах.

— Ён зусім не мучыўся, фраў Швайгерт, яму пашанцавала ў смерці.

Вайна падыходзіла зусім блізка, яна ўжо чулася за горным хрыбтом. Пачалася эвакуацыя.

Райнгольд Шанц быў транспартабельны, і яго разам з іншымі вывезлі пры першай магчымасці. Луіза паехала наступным транспартам. Перад ад'ездам яна абняла фраў Швайгерт і загаласіла. Пякучы боль разануў Агаце грудзі—яго нельга было б сцярпець, каб ён быў больш імгнення... Агата працавала да апошняй мінуты, памагла перавязаць апошняга параненага і пакласці на машыну.

Адзінока плялася Агата са сваім палягчэлым чамаданам, які яна цяпер несла не ў руцэ, а на спіне, як ранец, у патоку бежанцаў за Пірэнеі. Адзінокіх вандроўнікаў было многа: адны размінуліся са сваімі пры выступленні, другія згубілі іх пры варожым налёце. Маці шукалі дзяцей, дзеці бацькоў, нявесты жаніхоў. Агата не шукала нікога... А яе шукалі... У сям'ю французскіх сялян, якія разам з іншымі бежанцамі прытулілі і Агату, адвялі ім невялічкі хляўчук і сім-тым кармілі, аднойчы прыйшло пісьмо. «Лагер для інтэрніраваных»—стаяла на штэмпелі. «Я такі ж адзінокі на свеце, як і вы, фраў Швайгерт,—пісаў Райнгольд Шанц.—Вядома, не лічачы таварышаў і сяброў. Летам тут была невыносная спякота, а цяпер няма ратунку ад ледзяных вятроў. Мая ліхаманка даецца ў знакі. Ці не маглі б вы раздабыць мне крышку хініну? Даруйце, што турбую».



Агата некалькі разоў перачытала запіску і задумалася. «Калі тулузскі гаспадар «Гран д'Ор» чалавек сумленны, то ён збярог грошы». Яна напісала яму. Хутка прыйшоў адказ і грошы.

Марознай зімовай раніцай Агата, адубелая ад холаду, спынілася каля лагернай брамы. У яе чамадане ляжаў пакуначак з хінінам і цёплая бялізна для Райнгольда. Са здзіўленнем і гневам глядзела яна на баракі за калючым дротам...

Вартавы Агату ў лагер не пусціў, паклікаў старшага. Той, разважыўшы, што ад гэтай небаракі ніякай шкоды не будзе, дазволіў увайсці. Агату завялі ў пусты барак і паклікалі Райнгольда Шанца.

Яго твар пагрубеў, каля рота залеглі насмешлівыя складкі, здавалася, ён кідаў выклік усяму, што скалечыла яго маладое жыццё. Ён задумліва глядзеў на фраў Швайгерт. Яму хацелася пагладзіць яе па галаве, але ён стрымаўся.

Яны расказвалі адзін аднаму ўсё, што перажылі з таго часу, як апошні раз бачыліся ў шпіталі. Салдат, які стаяў ля дзвярэй, крыкнуў: «Fini!» Агата нерашуча паднялася, Райнгольд некалькі крокаў прайшоў з ёю. Развіталіся. Але ён вярнуўся, нахіліўся да яе і скарагаворкай сказаў:

— Многія едуць адгэтуль, баяцца папасціся ў лапы нацыстам, як вайна перакінецца сюды.

Салдат зноў крыкнуў «Fini!», але ўсё ж яшчэ крышку пачакаў. Відаць, пашкадаваў старую жанчыну, што калацілася ад сцюдзёнага ветру, якому нічога не абыходзіла здуць яе—такая малая і кволая была яна.

Райнгольд Шанц гаварыў:

— Некалькі лацінаамерыканскіх краін абяцаюць нам прытулак і работу. Сябры Іспанскай рэспублікі падтрымліваюць нас. Мы складаем спіс усіх, хто хоча ехаць. А вы, фраў Швайгерт,—маці Эрнста. Ды і самі вы шмат зрабілі. Вам трэба ехаць з намі. Не назад жа ў Альгесхайм.

— Не, не,—усклікнула Агата,—толькі з вамі!

Пераклаў з нямецкай М. НАВІЦКІ.

## У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

По маёй віне ў артыкуле «Саюзніца слова і руху» («Літаратура і мастацтва» ад 11 снежня 1970 года) ёсць прыкрая памылка. Мантаж музычнага афармлення спектакля «Людзі на балоце» ў Акадэмічным тэатры імя Я. Купалы з твораў кампазітараў А. Скрабіна і Я. Глебава выканаў не Я. Глебаў, як я напісала, а С. Картэс. Прашу выбачэння ў тых, каго я пакрыўдзіла гэтай памылкай, і ў чытачоў газеты.

Т. ШЧАРБАКОВА.

# НЕ Ў КЛАСЕ, А Ў КАНЦЭРТНАЙ ЗАЛЕ...

У той вечар філарманічная сцэна зноў была прадастаўлена маладым выканаўцам: выступалі навучэнцы Мінскага музычнага вучылішча імя Глінкі, Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя Луначарскага і музычнай школы-адзінаццацігодкі. Цёпла прымалі слухачы выступленні аркестра народных інструментаў кансерваторыі пад кіраўніцтвам Г. Жыхарава, хору хлопчыкаў музычнай школы — выхаванцаў І. Жураўленкі, аркестра баяністаў, хору і ансамбля цымбалістаў вучылішча (дырыжоры А. Папоў, А. Грас, З. Цвецікава), а таксама асобных салістаў. Выконваліся творы класікаў, сучасных рускіх і беларускіх кампазітараў.



На здымку — выступае аркестр народных інструментаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.

Фота Ул. КРУКА.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

Віктар ШЫМУК

## ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

**У палескай простай хаце,
Там, дзе Ясельда-рака,
Нарадзіла мяне маці
Восьмага сакавіка.**

**І назвала Яраславам,
І баюкала мяне:
— Ты расці, расці на славу
У палескай старане.**

**Рос я, сілы набіраўся,
Еў картоплю з малаком,
У рэчцы з хлопцамі купаўся
І, падчас, курыў тайком.**

**І не знаў ніякіх кпінаў
У дзяцінстве я тады.**

**...А цяпер сказаць павінен
Пра дарослыя гады.**

**Я даўно ўжо жанаты,
Трое дзетак у мяне —
Ленка, Светачка і Ната
(Больш не трэба, мусіць! Не!).**

**Так што я — адзін мужчына
На ўвесь сямейны штат,
А мне шлюць, нібы жанчыне,
Віншаванняў розных шмат.**

**І калі! У дзень жаночы,
Восьмага сакавіка!
І тут хочаш ці не хочаш —
Сустракай паштавіка.**

**Вось сяджу сабе на лаве
Сярод кіпы тэлеграм:
— Яраславе... Яраславе...
Прывітанне... Шчасця вам...**

**То, мабыць, тэлеграфістка
Думала — жанчына я,
На паштамце, дзесьці ў Мінску,
Пераблытала імя.**

**Хоць ты не ідзі на працу
(Хай гарыць ён, гэты дзень!) —
Усе лезуць павітацца...
Хоць ты іх гані ў каршэнь!**

**Што ж зрабіць, калі у хаце,
Там, дзе Ясельда-рака,
Нарадзіла мяне маці
Восьмага сакавіка!**

## ЯК МУЖЧЫНЫ ДОРАЦЬ КВЕТКІ

Не смейцеся так скептычна, прачытаўшы назву — такое бывае і ў наш дзелавы век. Хіба вы ніколі не бачылі хлопца, які з букетам кветак спяшаецца на спатканне? Цікавы малюнак, ці не так? Мне такі хлопец нагадвае істоту з іншага свету. Ён і сапраўды нагадвае прышэльца, бо многія маладыя людзі лічаць старамодным у наш час ісці па вуліцы з букетам кветак. Занадта ўжо гэта смешна і не модна, кажуць.

Большасць з іх не дораць жанчынам кветак прынцыпова. Замест кветак яны падносяць сваім каханым пліткі шакаладу. Альбо яшчэ флакончык адэкалону — заўсёды аднаго і таго ж гатунку.

Вядома, не ўсе маладыя людзі такія — гэта б было жахліва. Ёсць яшчэ і сёння хлопцы, якія радуюць сваіх каханых кветкамі. Але паглядзелі б вы, як яны гэта робяць!

Спаткаў я неяк свайго сябра. У руках у яго была вялізная кардонная скрынка з дзіркамі.

— Што гэта ў цябе? — пытаюся.

— Глупства, — сумеўся ён. — Нясу сяброўцы букет ружаў. Хутка ў нас заручыны.

— Дык ты ружы ў скрынку схаваў?

— А што ж ты хочаш, каб на мяне ўсе азіраліся?

Вось якія яны, сучасныя рыцары! Пяшчотныя кветкі хаваюць у кардонныя скрынкі! І для чаго? Каб з іх, бачыце, не смяяліся! Ды гэта яшчэ што?! Іншыя ж маскіруюць букет пад торт, хаваюць кветкі пад крысо паліто, іншыя ж дыпламатнічаюць і пасылаюць кветкі каханым праз бюро добрых паслуг. На якія толькі хітрыкі ні пускаюцца кавалеры, каб падараваць каханым кветкі і пры гэтым не падарваць свайго аўтарытэту!

Шчыра кажучы, я лічу такія метады ўстарэлымі. Можа таму, што сам я нясу букет для сваёй феі, звычайна, у... партфелі.

**Пераклаў з нямецкай А. Бубен.**

Мал. Ю. ГРЫГОР'ЕВА.



Я памыліўся. Не да нас госці, а мы ў госці...



Без слоў.

Іван СІКЯЎСКІ

## ЦЯПЕР НЕ АБГАВОРАЦЬ!

Калі гэта скончыцца, Пеця? У мяне галава кругам ідзе! Не кватэра, а фабрыка-кухня! Не магу больш! Ні выхаднога, ні прахаднога!

— Сама дык любіш хадзіць!

— Радасць вялікая! Не пайдзі, дык падумаюць, што заганарыліся! Асабліва пасля таго, як ты новую пасаду атрымаў... Ведаеш, якія людзі пайшлі? Усялякі сорам страцілі! Выпінайся, вары, гатуй цэлы дзень, а прыйдуць, сядуць — і праз гадзіну сталы апустошаць!

— Ну што ты хочаш, дзе п'юць, там і ядуць, — зазначыў спакойна муж.

— Ядуць, п'юць!.. Збегай лепей у краму, бо гарэлкі няма. Ды не скупіся, а то скнарамі абзавуць, плётак яшчэ не хапала, — са злосцю сказала жонка. — От, людзі! Абавязкова, каб набрацца, як качкі гразі! Вунь, у Клімовічаў усё было добра, пакуль не напіліся... Іван Раманавіч інтэлігентны чалавек, а і то пасля пятага заходу пад стол палез... А Марыя Спірыдонаўна? Цалавацца палезла на вачах у мужа!.. Абавязкова трэба набрацца да свінячага піску! Я так думаю: не хочаш — не пі!

— Паспрабуй, калі табе ледзь не ў рот льюць. Думаеш, я з ахвотай п'ю?

— А ты маўчы. У людзей мужыкі, як мужыкі, а ў мяне... Кольк ні падносяць, усё жлукціш!

— Я кажу — прымушаюць!

— Свой розум май!

Зазвінеў званок.

— Ужо нясе нячыстая сіла некага! Не дачакаюцца, — забурчэла жонка і пайшла адчыняць. — А-а-а, Іван Раманавіч! Заходзьце, калі ласка, рады бачыць дарагога госця!

Паступова кватэра напоўнілася гасцямі. Гаспадыня ўвішна завіхалася ля стала, падлівала ў кілішкі...

Апоўначы госці разышліся. Гаспадар і гаспадыня леглі спаць, калі пачуўся тэлефонны званок. Званіла Марыя Спірыдонаўна:

— Каб жа вы ведалі, якая бяда! Мой Іван Раманавіч у таксі счапіўся з таксістам. У міліцыю забралі...

Гаспадыня з палёгкай уздыхнула: «Слава богу, хапіла гарэлкі, цяпер ніхто не абгаворыць, што паскупіліся!»

Змітро БЯСПАЛЫ

## МУЗШТАТ

У нашым невялікім гарадку нядаўна была створана музычная ўстанова.

Гучыць?

Гучыць.

Узначальвае гэтую музычную ўстанову дырэктар.

Гучыць?

Гучыць.

У дырэктара ёсць намеснік па музычнай частцы.

Гучыць?

Гучыць.

У дырэктара ёсць яшчэ і намеснік па гаспадарчай частцы.

Гучыць?

Гучыць.

Ёсць старшы бухгалтар.

Гучыць?

Гучыць.

Ёсць рахункавод.

Гучыць?

Гучыць.

Ёсць касір.

Гучыць?

Гучыць.

Ёсць прыбіральшчыца.

Гучыць?

Так сабе.

У музустанове ёсць скрыпач, трубач, баяніст і той, што ў бубен б'е.

Гучыць?

Не толькі. Нават звініць! Асабліва ў тыя дні, калі штатныя адзінкі атрымліваюць зарплату.

Мал. А. РЭПІНА і А. СУРКОВА.



Без слоў.

## ВЫПАДКІ

**— Чаму гэта ваш муж больш не заходзіць у наша кафэ?**

**— Ён памёр ужо месяц таму назад.**

**— А, дзякаваць богу, а то я думала, што яму ў нас не спадабалася.**

□

**— Пачаў пісаць мемуары...**

**— Дайшоў ужо да таго, калі пазычыў у мяне 300 злотых?**

□

**— Вы не пазычыце мне 500 злотых?**

**— А што вы надумаліся купіць?**

**— Хачу, нарэшце, аддаць усе даўгі.**

**З польскай пераклаў А. Аляксейчык.**

## ПАН І ПАСТУШОК

*З даўнейшых беларускіх жартаў*

**Ехаў аднойчы па дарозе пан. Сустрэўся яму пастушок. Пан і пытаецца:**

**— Як праехаць у суседняе імене?**

**— Сюдою, прама — бліжэй, але далей, а сюдою, направа, далей, але бліжэй, — адказаў хлапчук.**

**«Гм, дурны, пэўна», — падумаў пан, і спытаў:**

**— А што твая матка робіць?**

**— З'едзены хлеб пячэ, — адказаў пастушок.**

**— Ты што, дурань, здзекуешся? — закрычаў пан.**

**— Чаму ж, паночку? Калі вы паедзеце прама, то будзеце ехаць доўга, бо дарога гразкая і коні наўрад ці выцягнуць вашу брычку. А калі паедзеце направа, то дабярэцеся вы хутчэй, бо дарога там лепшая, ядлоўцам вымашчана. А маці мая і праўда з'едзены хлеб пячэ. Напазычала яна шмат хлеба, дык вось і пячэ зараз, каб пазычку аддаць.**

**Сцебануў панскі вазніца коней, і прысаромлены пан знік з вачэй.**

Запісаў ў Іванаўскім раёне Г. Шумак.

Уладзімір РУДЗІНСКІ

## БАЙКІ-КАРАЦЕЛЬКІ

### БОГ І ЧОРТ

Бог і чорт скінуліся на пляшку,
Разлілі па шклянках, чокнуліся.

— Згінь, нячыстая сіла! — сказаў бог і асушыў шклянку.

— Дай божа, каб не апошняя, — гукнуў чорт, перад тым як выпіць.

### НАРАДА

Перад адкрыццём паляўнічага сезона зайцы правялі куставую нараду. Рашэнне, прынятае аднагалосна, было кароткім: трымаць вушы востра.

Р. БОХАН

## МІМАХОДЗЬ

*Каханне па тэлефоне-аўтамаце каштуе роўна дзве капейкі.*

□

*Двойчы бывае смешнай мода: спачатку і ў канцы.*

□

*Не вер абяцанням, галоўным чынам — сваім уласным.*

□

*Кінафільм быў толькі для дарослых. Дзякуй, хоць дзяцей пашкадавалі.*

□

*Яго празвалі паліглотам: паглынаў усё — каньяк, гарэлку, лікёр, піва і нават, калі надаралася, самаробную сівуху.*


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

 Індэкс 63856 АТ 07618

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.